


Копія беатыфікацыйнага абраза благаслаўлёных сясцёр-назарэтанак.
Наваградскі санктуарый.

Бажэна Анна Фляк CSFN

## Назарэтанкі з Наваградка

іх забілі ў жніўні
ў сярэдзіне лета

ніхто не вінаваты
самі былі вінаватыя
адчыненыя пакідалі дзверы хаты
каб лепей чуць покліч
з мораку
і занадта адкрыта думалі
пра чалавека як брата
адным словам
не ў свае
ўлазілі справы
Найвышэйшага разгадаўшы
слабасць

і ў белы дзень анёл з’явіўся —
замяніў кроўю пацеры

першая іх магіла
ў лесе

Калі пойдзеш туды аднойчы
і будзе зноў лета
заблытаешся ў сенажаці
з разлівам бясконцым
кветак

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



У нумары 3/2018

НАША ВЕРА

Біскуп Аляксандр Яшэўскі

# Чаму сужэнства і сям'я маюць важнае значэнне для Касцёла

## *З даклада на III Агульнабеларускім кангрэсе каталіцкіх сямейных рухаў у Баранавічах*

Можна без сумнення сказаць, што яшчэ з перыяду Пантыфіката папы Льва XIII і яго наступнікаў зацікаўленасць Касцёла праблемамі сужэнстваў і сем'яў пачала ўзрастаць вельмі інтэнсіўна. Вось толькі некалькі знамянальных фактаў.

Па-першае, пасля папы Льва XIII амаль усе Пантыфікі публікуюць энцыклікі, прысвечаныя праблеме сужэнства і сям'і. Другі Ватыканскі Сабор (XXI Сусветны Сабор Каталіцкага Касцёла, які быў арганізаваны па ініцыятыве папы Яна XXIII у 1962 г. і працягваўся да 1965 г.) таксама шмат разоў звяртаўся да гэтай тэмы. Падчас Пантыфікату святога Яна Паўла II надавалася асаблівая ўвага праблеме сужэнства і сям'і ў розных яе аспектах. Святы Айцец Францішак склікаў два Сіноды Біскупаў па гэтым пытанні, апублікаваўшы ў якасці заключэння апостальскую адгартацыю «*Amoris Laetitia*», якая да гэтага часу з'яўляецца самым аб'ёмным дакументам, прысвечаным праблеме сужэнства і сям'і ў вучэнні Пантыфікаў.

Наступны факт, варты ўвагі: з часоў Другой сусветнай вайны ў мінулым стагоддзі:

— у Касцёле ўзнікаюць адмысловыя сямейныя рухі;
— у тэалагічных даследаваннях усё больш глыбока разглядаюцца праблемы сужэнства і сям'і;
— расце колькасць беатыфікацый і кананізацый сужэнцаў і нават сужэнскіх параў. Нядаўна (18 кастрычніка 2015 г.) былі кананізаваныя бацькі святой Тэрэзы ад Дзіцяткі Езуса.

Такім чынам, слушна і нават неабходна ставіць пытанне: *чаму так шмат увагі Касцёл прысвячае сужэнству і сям'і*?

У сувязі з рашэннем ААН абвясціць 1994 год Годам сям'і святы Ян Павел II напісаў Пасланне да сем'яў «*Gratissimam sane*», апублікаванае 2 лютага 1994 года. На пачатку гэтага важнага дакумента Папа вельмі арыгінальна абгрунтоўвае зацікаўленасць Касцёла сям'ёй.

Паводле святога Яна Паўла II, Касцёл павінен ісці разам з чалавекам па яго шляхах, а гэта азначае, што «*Касцёл падзяляе радасці і надзеі, смутак і трывогу штодзённага шляху людзей*» («*Gratissimam sane*», 1). У гэтых словах падкрэсліваецца важнасць духоўнага суправаджэння, распазнавання жыццёвага становішча чалавека, на што звяртае вялікую ўвагу цяперашні папа Францішак.

Касцёл павінен спадарожнічаць чалавеку ў яго канкрэтных жыццёвых рэаліях у адпаведнасці з патрабаваннямі Стварыцеля. Менавіта Бог даверыў чалавека Касцёлу як яго місію.

Адной са шматлікіх *дарог*, па якіх чалавек ідзе ў сваіх клапатлівых пошуках сэнсу жыцця, з'яўляецца сужэнства і сям'я. Разам са штодзённай працай гэта найбольш важная сфера чалавечага існавання.

Такім чынам, асноўнаю прычынаю, па якой Касцёл так шмат увагі ўдзяляе праблеме сужэнства і сям'і, з'яўляецца **зацікаўленасць Касцёла жыццём чалавека і чалавечнасцю кожнага з нас**. У гэтым святле нам будзе лягчэй зразумець, чаму зацікаўленасць чалавекам вымагае клопату пра сужэнства і сям'ю.

Ідучы далей у раскрыцці тэмы даклада, хачу ўзгадаць добра вядомы нам усім урывак з Евангелля паводле святога Мацвея (19, 3–9), дзе апісваецца дыялог паміж Езусам і фарысеямі аб непарыўнасці сужэнства.

Пытанне фарысеяў да Езуса не датычылася законнасці разводу. Усе ўдзельнікі размовы былі абсалютна ўпэўнены ў гэтым. Іх перакананне грунтавалася на тэксце Святога Пісання і на дазволе, які яны атрымалі ад Майсея. Фа-




Біскуп Аляксандр Яшэўскі і ксёндз Андрэй Рылка падчас III Агульнабеларускага кангрэса каталіцкіх сямейных рухаў у Баранавічах. Фота а. Пятра Фраштэнгі OCD.

рысеі пыталіся аб прычынах, якія маглі б апраўдаць прымяненне гэтага закону. Сярод правазнаўцаў вялася дыскусія: ці сапраўды ёсць толькі адна прычына для выкарыстання гэтага дазволу, а менавіта чужалоства жанчыны, ці гэтыя прычыны могуць быць рознымі? Езуса просяць выказаць сваю пазіцыю адносна гэтай правазнаўчай спрэчкі, бо на самай справе тэкст гэтага закону быў няясным і недакладным.

Цяпер я прашу вас звярнуць асаблівую ўвагу на адказ Езуса. Ён у першую чаргу прапануе слухачам кірунак, у якім трэба шукаць рашэнне і адказ. Езус гаворыць: «*Хіба вы не чыталі, што Стварыцель спачатку стварыў іх мужчынам і жанчынай*» (Мц 19, 4).

Што гэта значыць? Сужэнства трэба разглядаць не з пазіцыі таго, што з яго ўчынілі людзі, а ў святле таго, якім задумаў і стварыў інстытут сужэнства і сям'і сам Бог. Ключавае слова «***спачатку***» не акрэслівае ні часу, ні моманту, ні храналагічнага дзеяння, ні зараджэння чалавечай гісторыі. Калі скульптар вырашае вылепіць статую з мармуру, ён ужо на самым пачатку мае пэўную ідэю, кіруецца натхненнем, якое хоча рэалізаваць, а затым ідэя, натхненне ўвасабляюцца ў мармуровай скульптуры. Таксама і Бог мае сваё ўяўленне пра сужэнства. У стваральным акце Бога яно было закладзена ў структуру чалавечай асобы. Асоба мужчыны і асоба жанчыны, такія, якімі яны з'яўляюцца, — іх дух, псіхіка і целы — былі створаны Богам для сужэнскага жыцця.

Такім чынам, ідэю пра тое, што Стварыцель мае на ўвазе пад сужэнствам, варта разглядаць не як закон, да якога чалавек павінен прыстасоўвацца, ці як ідэал, да якога неабходна імкнуцца, а як адзіную і адвечную праўду пра чалавечую асобу. Менавіта на гэта скіроўвае нашу ўвагу Езус. Слова Хрыста «*спачатку*» азначае не рэаліі з мінулага, а пастаянную, стваральную Божую прысутнасць у асобах мужчыны і жанчыны. Гэта падобна да крыніцы, з якой выцякае паток ракі. Як вядома, крыніца знаходзіцца на пачатку патоку, але ў той жа час яна з'яўляецца яго жыватворным струменем, яго сілаю.

Фарысеі добра разумеюць, што мае на ўвазе Езус, і калі яны распачынаюць дыскусію ў гэтым кірунку, іх словы пазбаўляюцца сэнсу. «*Чаму ж*, — пытаюцца яны, — *Майсей загадаў даць разводны ліст і адпусціць яе?*» (Мц 19, 7). Перафразуючы словы фарысеяў, можна сказаць так: «*Добра, калі Ты кажаш праўду, то Бог сам сабе супярэчыць. З аднаго боку, як Ты кажаш, першапачатковай ідэяй Бога з'яўляецца непарыўнасць сужэнства. З іншага боку, Майсей, які таксама дзейнічаў у імя Бога, дазваляе даваць развод. Чаму ж так адбываецца?*»

У гэты момант Езус уводзіць у дыскусію аргумент, які датычыць новай і трагічнай рэчаіснасці, — «***упартасць сэрцаў***». Што гэта значыць? Упартая воля чалавечай асобы, яе ўласнае «я» імкнецца адмовіцца ад таго, што было «*спачатку*», у першапачатковым плане Бога. Сёння стан чалавечай асобы ўжо не выглядае так, як было «*спачатку*». Гэта тое самае, што накідаць камянёў альбо зямлі ў чыстую крыніцу. Вада будзе цячы далей, але паток знікне. Гэтак жа адбываецца з мужчынам і жанчынаю, якія ўступілі ў сужэнства, пакліканыя Богам, але з-за беднасці сваёй волі, з-за ўпартасці сваіх сэрцаў былі няздольныя *назаўжды* заключыць сужэнства перад Богам.

Магчыма, вы заўважылі, што да гэтага часу я гаварыў пра сужэнства, а не пра сям'ю. Чаму Касцёл з той жа руплівасцю цікавіцца і праблемамі сям'і? Таму што ён моцна клапоціцца пра генеалогію або, інакш кажучы, пра радавод чалавека. Дазвольце мне растлумачыць гэтае сцвярджэнне.

Зачацце чалавека з'яўляецца вялікай падзеяй. Гэта вынік творчага акту Бога і плён сужэнскай любові. Бог жадаў існавання чалавека з самага пачатку і выяўляе гэтае прагненне ў кожным зачацці. Ніхто з нас не прыходзіць у свет выпадкова або па

неабходнасці. Нашая прысутнасць у гэтым свеце з'яўляецца вынікам творчага акту Бога. Таму кожны з нас можа смела сказаць: *я тут, таму што Бог гэтага жадаў*. Не таму, што Бог хоча выкарыстаць нас у сваіх карыслівых мэтах: Бог прагне існавання кожнага чалавека дзеля яго самога.

Паходжанне чалавека ўпісана ў біялогію пакаленняў. Калі мы будзем усведамляць тое, аб чым я толькі што казаў, нам будзе няцяжка зразумець, які спосаб і якія ўмовы чалавечага зачацця найбольш годна адпавядаюць творчаму дзеянню Бога. Калі сужэнцы ўсведамляюць, што яны зачалі новую чалавечую асобу, яны павінны таксама разумець, што менавіта Бог хацеў існавання гэтага чалавека і хацеў яго для сябе, а не для бацькоў. Гэта важная і глыбокая прычына, па якой толькі сужэнскі акт, дзе муж і жонка становяцца адным целам, з'яўляецца годнаю ўмоваю для зачацця новага чалавека. Творчы акт любові Бога адпавядае рэпрадуктыўнаму акту любові мужа і жонкі. Прадукаванне чалавечай асобы ў лабараторыі — гэта праява непавагі да яе годнасці, бо дзіця трэба зачынаць, а не прадукаваць.

Гэта яшчэ адна важная прычына, па якой Касцёл моцна зацікаўлены праблемамі сям'і, бо сям'я — гэта месца, дзе чалавеку гарантавана годная генеалогія або, інакш кажучы, годны радавод для паўнаты і росквіту яго чалавечнасці.

Аналізуючы сучасны стан сужэнства і сям'і, асабліва на Захадзе, заўважым, што заходнія ідэі, погляды і прапановы ўсё больш і больш знаходзяць падтрымку ў нашай беларускай рэчаіснасці, і гэта не проста погляды, а сапраўдная пагроза для сучаснай сям'і, бо яна нясе ў сабе:
— адмаўленне ад дзетанараджэння, што выяўляецца праз аборты, кантрацэпцыю і кантрацэптыўную ментальнасць, эгаістычнае жаданне жыць «для сябе»;
— з адмаўленнем ад дзетанараджэння цесна звязаны і глабальны дэмаграфічны крызіс — свет старэе і вымірае;
— пашыраецца гендэрная ідэалогія;
— павялічваецца колькасць аднаполых саюзаў, якія нельга назваць сужэнствамі;
— папулярызуюцца сучасныя дапаможныя рэпрадуктыўныя тэхналогіі (штучнае апладненне, сурагатнае мацярынства і іншыя);
— расце тэндэнцыя да таго, каб ужо на стадыі развіцця эмбрыёна гэнетычна мадэляваць яго паводле сваіх пажаданняў (колер вачэй, пол і г.д.);
— пашыраецца агрэсіўны фемінізм, які таксама стаіць каля вытокаў грандыёзнага крызісу сучаснай сям'і;
— прапагандуецца эўтаназія не толькі для старых, хворых, інвалідаў, але нават і для дзяцей.

На жаль, сучасныя погляды на сужэнства і сям'ю, якія ўзнікаюць у тым ліку ў касцёльным асяроддзі і супярэчаць хрысціянскай праўдзе пра сужэнства і сям'ю, аб'яўленай у Бібліі, становяцца рэальнай пагрозай.

Касцёл мяркуе, што магчымым выратаваннем сужэнства і сям'і ў сучасных абставінах павінна стаць евангельскае слова «***спачатку***»: неабходна нанова адкрываць першасны план Стварыцеля адносна сужэнства і сям'і.

Касцёл праяўляе сваю зацікаўленасць у збаўленні чалавека праз тры спосабы дзеянняў: навучанне, асвячэнне, кіраванне. Гэты шлях Касцёлу паказаў сам Езус, які і заснаваў Касцёл.

Сужэнства і сям'я важныя не толькі для Касцёла, але і для сучаснага чалавека ўвогуле. Вікарый катэдральнай парафіі ў Магілёве кс. Юзаф Сярпейка, ведаючы, што я рыхтую даклад на кангрэс, пры дапамозе сацыяльнай сеткі «Інстаграм» 7–8 мая правёў апытанне сярод 470-ці чалавек, якія пажадалі прыняць у ім удзел:
— 250 падлеткаў ва ўзросце 14–18 гадоў склалі 48,9% апытаных;
— 170 маладых людзей ва ўзросце 19–35 гадоў склалі 36,2% ад агульнай колькасці ўдзельнікаў;
— 70 дарослых людзей ва ўзросце 36–60 гадоў склалі 14,9 % апытаных.

Удзельнікам было прапанавана 7 закрытых пытанняў, на якія трэба было адназначна адказаць «так» або «не»; і 2 адкрытыя пытанні, на якія трэба было даць асабісты абгрунтаваны адказ.

Апроч розніцы ва ўзросце, апытаныя з'яўляюцца вернікамі розных хрысціянскіх канфесій альбо называюць сябе атэістамі ці агностыкамі.

Першае пытанне гучала наступным чынам: «*Ці даражыш ты сваёй сям'ёю*?» 98% апытаных адказалі «так», з іх падлеткі — 100%, моладзь —94%, дарослыя — 100%. Такім чынам, адказ «не» на гэтае пытанне далі 2% апытаных, усе яны — маладыя людзі.

На другое пытанне: «*Ці з'яўляецца для цябе сям'я каштоўнасцю*?» 99% апытаных далі станоўчы адказ. 1% анкетаваных — маладыя людзі — далі адмоўны адказ.

Трэцім было пытанне: «*Ці лічыш ты важнымі ўзаемаразуменне, узаемапрабачэнне і ўзаемную любоў паміж усімі членамі сям'і*?» Адказы на гэтае пытанне былі толькі станоўчымі: усе 100% далі адказ «так».

Чацвёртае пытанне гучала наступным чынам: «*Ці лічыш ты, што для цябе важныя абое бацькоў: і тата, і мама*?» 85% адказалі «так», але 15%, большасць з якіх падлеткі і моладзь, адказалі «не».

На пятае пытанне: «*Ці лічыш ты, што добрыя адносіны ў сям'і вучаць цябе будаваць добрыя адносіны ў грамадстве*?», станоўча адказалі 91% апытаных, адмоўна адказалі ў асноўным падлеткі і моладзь — 9% удзельнікаў апытання.

На шостае пытанне: «*Ці згодны ты, што сям'я ставіць патрабаванні, але і дае апору*?», 89% апытаных згадзіліся, адказ «не» далі 11% — усе яны адносіліся да групы падлеткаў.

На сёмае пытанне: «*Ці лічыш ты, што сям'я з'яўляецца важнай часткаю ў будаванні грамадства*?», 96% адказалі згодаю. 4% — падлеткі — адказалі адмоўна.

Восьмае пытанне было адкрытае і гучала наступным чынам: «*Калі сям'я для цябе важная, то чаму*?» Усе, хто адказаў на гэтае пытанне, сур'ёзна абгрунтавалі сваё меркаванне: сям'я з'яўляецца гарантам многіх духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў; надзейнай апорай і падтрымкай; месцам, дзе можна адчуваць сябе ў бяспецы, дзе чалавек адчувае сябе патрэбным і важным; сям'я — гэта асяродак, дзе ёсць крыніца любові.

Дзявятае пытанне таксама было адкрытае: «*Як вы разумееце вартасць сакрамэнту сужэнства — замацавання сваіх адносінаў праз прысягу перад Богам у святыні*?» Адказы на гэтае пытанне былі разнастайныя. Апытаныя падлеткі ў асноўным прызнаваліся, што нічога не ведаюць пра сакрамэнт сужэнства і таму не хацелі б даваць неабгрунтаваных адказаў. Большасць маладых людзей выказалася пазітыўна, аднак пры гэтым адзначала, што, магчыма, іх адказы звязаны з прыхільнасцю да традыцыі або з сучасным прэстыжам заключаць сужэнства ў святыні, таму яны хацелі б да канца жыцця трымацца словаў прысягі. Дарослыя ў большасці сваёй выказваліся станоўча, мяркуючы, што толькі Божая дапамога трымае іх сужэнствы ў еднасці і непарыўнасці, а глыбокі давер да Бога дапамагае знаходзіць узаемаразуменне і сілы захоўваць сужэнскую прысягу да канца.

Падагульняючы вынікі апытання, варта адзначыць, што ўсе яго ўдзельнікі:

— перакананыя, што толькі сям'я з'яўляецца гарантам многіх духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў;
— даражаць сям'ёю і бачаць неабходнасць поўнага развіцця чалавечай асобы ў сям'і, дзе прысутнічаюць абое бацькоў;
— лічаць, што ўзаемаразуменне, узаемапрабачэнне і ўзаемная любоў паміж усімі членамі сям'і маюць вялікае значэнне;
— прызнаюць, што добрыя адносіны ў сям'і будуюць і добрыя адносіны ў грамадстве;
— згодныя, што Касцёл у сучасным свеце мае вялікае поле дзеяння ў вучэнні пра сакрамэнтальнае сужэнства і сям'ю.

Адказваючы, «**Чаму сужэнства і сям'я маюць важнае значэнне для Касцёла**», хацеў бы напрыканцы вылучыць некаторыя найважнейшыя аргументы ў якасці падагульнення.

Касцёл цікавіцца сёння сужэнствам і сям'ёю па наступных прычынах.

Па-першае, ён вельмі зацікаўлены самім чалавекам як асобаю.

Па-другое, зацікаўленасць чалавекам прадугледжвае таксама зацікаўленасць Касцёла сужэнствам і сям'ёю, бо менавіта ў іх рэалізуецца спрадвечная праўда пра чалавека, яго асаблівае пакліканне да самааддання. І, як вучыць Другі Ватыканскі Сабор, чалавечая асоба знаходзіць сябе ў шчырым самаахвяраванні.

Па-трэцяе, Езус заснаваў свой Касцёл дзеля таго, каб чалавек не страціў сябе, не загубіў сябе, а нястомна адкрываў тое, што было «*спачатку*» запланавана Богам адносна яго. Гэта шлях да выратавання сучаснага сужэнства і сям'і.

Па-чацвёртае, сям'я з'яўляецца тым месцам, дзе гарантавана годная генеалогія, годны радавод чалавека для поўнага росквіту яго чалавечнасці.

Сям'я — гэта будучыня Касцёла і хрысціянскай цывілізацыі. Без моцных шматдзетных сем'яў, адкрытых на перадачу жыцця, мы асуджаныя быць маргіналамі, у нас не будзе ні святых місіянераў, ні манахаў, ні святароў, ні біскупаў, а без гэтага немагчыма рэальнае будаванне Божага Валадарства ўжо тут, на зямлі.

Жадаю ўсім нам, членам Містычнага цела Хрыста, поспехаў у служэнні на карысць сужэнства і сям'і ў нашым беларускім грамадстве, а вам, дарагія сужэнцы і сем'і, зычу яснага разумення таго, што толькі ў касцёльнай супольнасці вы можаце ўзрастаць ў сужэнскім і сямейным жыцці так, як гэта запланаваў і жадае гэтага Усёмагутны Бог. Няхай Марыя, Каралева сем'яў, усім нам у гэтым дапаможа.

**Выкарыстаная літаратура:**
1. https://opoka.org.pl/biblioteka/W/WP/jan_pawel_ii/listy/gratissimam.html.
2. http://www.radiomaryja.pl/multimedia/kongres-ewangelia-malzenstwa-i-rodziny-wyklad-ks-kard-gerharda-mullera/.
3. http://www.caffarra.it/conferenza120217.php.
4. https://www.dialog1994.by/tag/ugrozyi-dlya-sovremennoy-semi/.
5. http://opusdei.org/it/article/100-consigli-di-papa-francesco-per-le-famiglie/.



# «Сёння імя маё ціха прамовіў...»

*Пакліканне. Той, хто зведаў у сваім жыцці пакліканне і меў адвагу адказаць на яго згодаю, прайшоў праз гэтую, часта балючую, праблему: рэалізацыі паклікання на службе Божай і вернасці чацвёртай запаведзі Дэкалогу. А калі ў бацькоў трое дзяцей, і ўсе яны пачулі ў душы голас Божы?.. Такая сям'я ўзгадавалася ў Браславе — сям'я Буткевічаў.*

**Нялёгкае абранне**

Мала хто з беларускіх католікаў не ведае сёння прозвішча біскупа Алега Буткевіча, ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі, які ўжо больш за чатыры гады нясе сваё служэнне. Святарскае пасвячэнне ён прыняў у юбілейным 2000 годзе, 13 мая, у дзень успаміну Маці Божай Фацімскай. Разам з ім гэты дзень урачыста святкавалі і яго бацькі — Часлаў Францавіч і Іяланта Аляксандраўна Буткевічы, а таксама сёстры — Ганна і Ала: родныя сёстры не толькі па крыві, але і ў Хрысце, бо кожная ў свой час таксама атрымала ад Пана Бога пакліканне да манаскага служэння.

Ганна малодшая за свайго брата на год, але пачала служыць Богу раней за яго. Брат заканчваў інстытут у Мінску, а яна за той час хуценька скончыла прафтэхвучэльню, атрымала прафесію кандытара і аднойчы нечакана сказала бацькам, што не будзе яна працаваць тым кандытарам, а пойдзе ў ордэн сясцёр эўхарыстак. Пачуўшы гэта, маці ад страху заплакала. Як? Чаму менавіта яе дачка? І што гэта такое, той ордэн эўхарыстак?..

Быў канец васьмідзясятых гадоў. Сёстры з гэтага ордэну служылі на Браслаўшчыне ад пачатку яго заснавання, з 1924 года. Ды толькі з прыходам савецкай улады яны служылі патаемна, а таму і для большасці тутэйшых парафіянаў іх служэнне было таямніцаю. Яны мужна заставаліся вернымі Богу, а суседзі, сябры ды знаёмыя нават не здагадваліся пра гэта, бо яны не насілі габітаў, знешне нічым не вылучаліся сярод іншых вернікаў. І вось худзенькая, нясмелае дзяўчо з сям'і Буткевічаў ішло ў тое невядомае! Што праўда, ішла не адна, а разам з вернаю сяброўкаю, Тоняю Багдановіч, але ж што іх чакала на тым невядомым шляху? Дык і плакала маці, і баялася, і трымцела ў трывозе матчына сэрца. Разам з ёю ўстрывожыўся і бацька.



Яны абое былі вернікамі. У часе гэтак званай перабудовы здарыўся з Чаславам Францавічам такі красамоўны выпадак. Выклікала камуніста Часлава Буткевіча начальства ды пачало сурова ўшчуваць: «Тваіх дзяцей нашы бачаць у касцёле! Чаму

ты, камуніст, дазваляеш такое?» А Часлаў Францавіч і сам не цураўся касцёла: шлюб браў з Іялантаю, дзяцей хрысцілі, да споведзі хадзілі. Адно што патаемна рабілі гэта. Ды вось прыйшоў час сказаць пра свае адносіны з Богам уголас. Дык і сказаў: «Калі мае дзеці ідуць у касцёл, я спакойны. Я ведаю, што з імі там нічога кепскага не здарыцца. А таму і забараняць ім хадзіць у касцёл не буду!» Сказаў і паклаў на стол партбілет. Гэта быў учынак, які патрабаваў ад спадара Часлава мужнасці.

Адна справа — практыкаваць веру, як і ўсе вернікі, і іншая, калі тваё дзіця ідзе служыць Богу выключным чынам. Дык і плакалі бацькі, і перажывалі, але дачцэ Ганне сказалі так: «Гэта тваё жыццё. Сама мусіш і вырашаць свой лёс».

І дачка вырашыла. Праўда, не сама, а проста зрабіла так, як таго пажадаў Пан Бог — у гэтым яна ні кроплі не сумняваецца. Ці пашкадавала пазней? На пытанне пра гэта адказала шчыра:

— Ведаеце, манаскае жыццё няпростае. За 25 гадоў у законе ўсяго было: падступаліся і сумненні, і трывогі, і расчараванні ў нечым. Але з Богам можна пераадолець усё. Я заўсёды ведала — мама за мяне моліцца, тата таксама падтрымлівае малітвай, а гэта — вялікая сіла.

Так, духоўная падтрымка бацькоў патрэбная нам заўсёды, дзе б мы ні жылі, чым бы ні займаліся. Але асабліва яна патрэбная тым дзецям, якія ўзялі на сябе ношу выключнага служэння Богу ў святарскім альбо манаскім служэнні.

Следам за сястрою на шлях святарства неўзабаве пайшоў і брат Алег.

— Няпроста было сказаць бацькам пра сваё рашэнне ісці ў духоўную семінарыю? — пытаюся ў біскупа Алега Буткевіча.

— Вядома, было трохі перажыванняў, — адказаў з усмешкаю. — Ды я ўдзячны бацькам за тое, што яны зразумелі мяне, хоць і далося ім гэта нялёгка…

**Як гэта сумясціць?**

Жыццёвы досвед у справе рэалізацыі паклікання ў біскупа Алега Буткевіча немалы. І таму задаю яму лагічнае пытанне пра тое, як жа сумясціць верніку на практыцы гэтыя два паняцці: пакліканне і чацвёртую запаведзь? І атрымліваю вось такі адказ:

— У прынцыпе гэтыя паняцці не павінны адно другому супярэчыць. Калі чалавек мае ў душы зерне паклікання, то ён яшчэ больш уражліва будзе імкнуцца захаваць, выканаць Божыя запаведзі. Больш за тое, з цягам часу ён пачынае глыбей разумець, што ў яго пакліканні ёсць вялікая доля заслугі бацькоў, якія яго выгадавалі і выхавалі, бо пакліканне абапіраецца на чалавечыя якасці, прывітыя з маленства. Я, напрыклад, бязмежна ўдзячны сваім бацькам менавіта за гэта. Не, яны не былі ідэальнымі выхаваўцамі: як і кожны чалавек мелі і свае памылкі, і хібы, але тое, як яны давалі і даюць сабе з гэтым рады, не магло не ўплываць на нас, дзяцей.







А калі браць духоўны аспект, то нам, дзецям, было з каго браць прыклад у сям'і. Савецкі час, як вядома, не спрыяў хрысціянству. Але тыя, хто хацеў прывіць хрысціянскія каштоўнасці сваім дзецям, змагаліся за гэта. Перад намі быў прыклад малітвы і практыкавання веры нашымі бацькамі. Шчыра кажучы, я і сёння вучуся ў іх адносінам з Богам. Для мяне як для святара, а цяпер ужо і біскупа, яны — мая духоўная падтрымка. Не сумняваюся, што і для Ганны з Алаю — гэтаксама, хоць зразумела, што тата з мамаю і надалей застаюцца звычайнымі людзьмі са сваімі праблемамі, недахопамі, пытаннямі і нават непаразуменнямі. Словам, усё як і ва ўсіх людзей *(смяецца)*.

Ну а што тычыцца выканання асабіста мною чацвёртай запаведзі, то магу дадаць, што я стараюся быць для іх добрым сынам.

— І атрымліваецца? — перапытваю біскупа і чую адказ:

— Мушу прызнацца — не заўсёды. Асабліва, калі ўлічыць тэмп майго сучаснага жыцця. Бывае, што патэлефанаваць маме забуду, а яна хвалюецца. З маладосці меў такую хібу: знікнуць кудысьці па сваіх справах, не папярэдзіўшы тату з мамаю. Ну а калі дадаць, што не ўсім, што перажываеш, можаш цяпер падзяліцца са сваімі роднымі… Але Пан Бог міласэрны, Ён і нас вучыць быць міласэрнымі, і гэта, вядома, дапамагае будаваць адносіны. Будаваць, прабачаць, любіць…

**Сёстры**

Найбольш складана было пайсці ў кляштар, мабыць, малодшай сястры — Але. Маці, Іяланта Аляксандраўна, нават паспрабавала тады ўшчуваць старэйшую дачку Ганну: «Ці не ты звяла і Алу?»

— А была доля праўды ў гэтым? — пытаю я праз 20 гадоў пасля тых падзеяў сястру эўхарыстку Ганну Буткевіч, якая служыць Богу цяпер у Полацку.

— Не, — адказвае перапакана, — я тут ні пры чым. Калі Бог кліча, то што ж ужо тут іншы чалавек? А я дык наадварот не жадала манаскай долі сваёй малодшай сястры. Любіла яе, шкадавала, а манаскі хлеб, як я яго ўжо зведала, несалодкі. Ну але што ж: з Богам змагацца — дарэмная рэч. Я, памятаю, думала, што калі Ала пайшла ў закон, то хоць бы нам не быць разам, каб не балела маё сэрца за яе. Але не атрымалася, нават давялося выхоўваць сваю малодшую сястру, калі яна была ў навіцыяце, а я тады была кіраўніцаю навіцыяту. Прыняла і гэта.

**Калі Бог кагосьці пакліча…**

Дык як жа нам, звычайным вернікам, навучыцца прымаць Божае пакліканне? Няпростае пытанне. Для кожнага чалавека яно вырашаецца па-свойму. Гатовых «рэцэптаў» тут быць не можа. І ўсё ж прашу на завяршэнне нашай гутаркі біскупа Алега Буткевіча даць колькі пастырскіх парадаў тым сем'ям, у чый дом Бог пастукаўся з запрашэннем ісці за Ім.

— Вельмі важна прыняць гэта ў веры, — сказаў біскуп Алег Буткевіч. — Бо без веры, без удзячнасці Богу і пакоры перад Ім можна нарабіць шмат памылак. Бог у сваім Провідзе, калі стварае чалавека, напэўна, і вызначае для яго будучы шлях.

Цяжкасці, праблемы могуць сустрэць чалавека ўсюды, чым бы ён ні займаўся. Але калі чалавек мае давер да Бога, ён будзе шчаслівы на тым месцы, на якое запрасіў яго Бог. Тады ж і будзе шчодры плён яго жыцця.

Вера і малітва — вось што патрэбна для кожнай сям'і. Важны таксама ўзаемны давер. Бацькі вельмі часта перакананыя, што яны найлепш ведаюць, дзе, з кім, на якой працы іх дзеці будуць шчаслівыя. Але гэта не так. Ніводзін чалавек не можа прайсці за кагосьці ягоны жыццёвы шлях, а таму і прымаць адказныя рашэнні павінны кожны сам за сябе. Параіцца — так, але рашэнні трэба прымаць самастойна, каб не атрымалася, што бацькі, абараняючы сваё дзіця ад цяжкасцяў, пачалі змагацца з Богам. Важна памятаць: дзеці — не ўласнасць бацькоў, яны належаць Богу. Касцёл жа ў сваёй прадбачнасці дае чалавеку час для распазнання пакліканне. Можа так здарыцца, што чалавек памыліўся і ў выніку вярнуўся з семінарыі альбо з кляштара. І што ж? Трагедыі ў гэтым няма. Бог прапануе нам шмат шляхоў. Нам жа важна навучыцца чуйна распазнаваць іх, з удзячнасцю прымаць запрашэнне Божае, а калі штосьці не атрымаецца і пойдзе не так, Бог не перастане любіць сваё дзіця, па якой бы дарозе яно ні пайшло. Абы толькі гэты шлях меў Божы кірунак.

*Ірына Жарнасек.*

*На здымках:*
*біскуп Алег Буткевіч*
*у часе свайго біскупскага*
*пасвячэння разам з бацькамі*
*і сёстрамі.*
*Фота Міколы Новікава.*

Алесь Жлутка

# Францішак Скарына: па навуку ў Падую




Памятная дошка Ф. Скарыну ў Падуанскім універсітэце. Скульптар В. Янушкевіч.

### Сакратар дацкага караля

Пасля іспыту на навуковую ступень бакалаўра вызваленых навук у Кракаве ў канцы 1506 г. пісьмовыя крыніцы на працягу шасці гадоў не падаюць пэўных звестак пра Францішка Скарыну. Гэтая паўза заканчваецца толькі восенню 1512 г., калі з 5 да 9 лістапада Акты акадэмічных ступеняў Падуанскага ўніверсітэта і пратаколы курыі Падуанскага біскупа фіксуюць у чатырох запісах прамоцыю «доктара вызваленых навук Францішка Скарыны, сына Лукі з Полацка», на доктара медыцыны. У апошнім запісе за 9 лістапада, які ўнесены ў пратаколы біскупскай курыі, ён названы яшчэ сакратаром караля Дацыі — *secretarius regis Datiae*.

З падуанскіх запісаў мы даведваемся, што пасля Кракава на працягу шасці гадоў Скарына павінен быў не толькі атрымаць у адным з еўрапейскіх універсітэтаў годнасць доктара вызваленых навук (у некаторых універсітэтах гэтая ступень, якая была наступнаю пасля бакалаўрату, лічылася магістарскай), але і выдатныя веды па медыцыне. Апошняя звестка за 9 лістапада доўгі час уводзіла ў замяшанне многіх даследчыкаў. Рэч у тым, што назва Datia ў старажытнасці прывязвалася да правінцыі Рымскай імперыі — Дакіі (на тэрыторыі сучасных Румыніі і Малдовы), але ў часы Скарыны яна ўжо азначала іншую краіну на еўрапейскай Поўначы — Данію. Менавіта такую форму назвы ўжываў у сваім тытуле тагачасны дацкі кароль Ганс — *Ioannes rex Datiae*. Нядаўна, грунтоўна прааналізаваўшы гэтае пытанне, паклала канец сумневам Вольга Шутава, канчаткова атаясаміўшы тэрмін *Datia* з іспыту Скарыны з назвай Даніі[1].

Такім чынам, з пратакольнага запісу, зробленага курыяльным натарыем, вынікае, што Скарына, здаючы іспыты ў Падуі восенню 1512 г., быў адным з сакратароў дацкага караля Ганса, а гэта наводзіць на думку, што пасля Кракава ён атрымліваў далейшую адукацыю і, магчыма, выкладаў «пад крылом» дацкага суверэна ў Капенгагенскім універсітэце.

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Закончыў аддзяленне класічнай філалогіі Львоўскага ўніверсітэта імя І. Франко (1983 г.) Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). Пераклаў на беларускую мову паэзію Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

Гэтая вучэльня была заснаваная ў 1479 г. з чатырма факультэтамі, адным з якіх быў медыцынскі. У ранні перыяд існавання ўніверсітэту бракавала як выкладчыкаў так і студэнтаў. Каб зpuбіць іх у паўночную Альма Матэр, кароль і вучэльня давалі адмысловыя даручэнні сваім пасланцам у іншыя еўрапейскія краіны, дзе існавалі больш старажытныя ўніверсітэцкія асяродкі[2]. Магчыма, менавіта ў 1506 г., калі ў Кракаве знаходзілася дацкае пасольства да караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта I, Скарына і быў запрошаны ў Капенгаген. Пасольства ўзначальваў каралеўскі сакратар, магістр Давід ван Коран, які перад гэтым шмат разоў бываў дацкім пасланнікам у Масковію[3]. Відаць, у Капенгагене Ф. Скарына і працягнуў навучанне, атрымаўшы ступень доктара вызваленых навук і неабходныя веды ў медыцыне. Магчыма, паралельна ён пачаў выконваць сакратарскія абавязкі ў каралеўскай канцылярыі.

Узнікае пытанне: навошта малады бакалаўр мог спатрэбіцца дацкаму каралю, у якога хапала айчынных канцылярыстаў і сакратароў? Рэч у тым, што тагачасная Данія змагалася за гегемонію на Балтыцы, у першую чаргу — за кантроль над марскім гандлем, дзе імкнулася пацясніць пазіцыі ганзейскага звязу (гандлёвага звязу прыбалтыйскіх гарадоў, Ганзы). Дзеля гэтага ўкладаліся пакты і дамовы з Маскоўскім Княствам для супольнага змагання супраць Ганзы, Швецыі з аднаго боку і Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы з другога. Кароль Ганс таксама складаў пратэкцыю маскоўскаму князю Васілю III перад Папам і нават схіляў яго да паяднання дзвюх галінаў хрысціянства. Але паралельна дацкі суверэн наладжваў таксама дыпламатычныя адносіны з Польшчаю і Вялікім Княствам Літоўскім.

Дзеля дыпламатычных мэтаў дацкаму каралю патрэбныя былі адукаваныя людзі, якія ведалі кірылічную грамату і «рускую» мову і маглі б служыць перакладчыкамі, весці дакументацыю і перапіску. Пра такую патрэбу сведчыць недатаваны ліст Ганса да маскоўскага ўладара, найверагодней, за 1506 г., дзе ён просіць Васіля III прыслаць яму палоннага фіна Сівара, які валодае «рускай» моваю і можа быць карысным пры дыпламатычных стасунках[4]. Як вядома, сакратары былі задзейнічаны не толькі ў канцылярыі, але таксама выкарыстоўваліся для адказных міжнародных даручэнняў. Таму можна дапусціць, што палачанін спатрэбіўся дацкаму каралю для дыпламатычных справаў, якія ён меў з Масковіяй, Польшчаю і Вялікім Княствам Літоўскім — радзімаю Скарыны. Веды ў кірылічнай грамаце, здабытыя Скарынам на радзіме, і яго родная мова, як бачым, былі запатрабаваныя пры дацкім двары. Ступень бакалаўра, атрыманая ў адным з найлепшых еўрапейскіх універсітэтаў — Кракаўскім, дазваляла замяняць на выкладанні магістраў, а часам і выкладаць самастойна ды таксама працягнуць сваю адукацыю.

У сувязі з натарыяльным запісам за 9 лістапада звяртае на сябе ўвагу той факт, што са жніўня 1512 г. у Італіі знаходзілася дыпламатычная місія дацкага караля, выпраўленая на распачаты ў траўні таго ж года Пяты Латэранскі Сабор у Рыме. 6 жніўня, за тры месяцы да падуанскіх іспытаў Скарыны, дацкае пасольства было прынятае папам Юліем II. Нядаўна быў адкрыты дакумент, які апісвае сам прыём: гэта запіс у дзённіку папскага цырымонімайстра Парыса Грасі. Ён распавядае пра з'яўленне ў той дзень да Юлія II трох дацкіх пасланнікаў, якія ўсе былі дактарамі і простымі канонікамі: адзін з іх — прысяглы сакратар караля, двое іншых — каралеўскія прыдворныя. Ва ўзнёслай прамове, з якой звярнуўся да Папы ад імя караля Ганса ягоны, не названы па імені, сакратар, сярод іншага ішла гаворка і пра сам Сабор, і пра спробу далучыцца да яго маскоўскага ўладара. Сярод іншага, выказаўшы паслушэнства Папу з боку каралёў Даніі і Шатландыі ды іх жаданне далучыцца да Сабору, сакратар паведаміў, што «нават уладар русінаў і цар татараў і готаў, якія ніколі раней не апускаліся да прызнання ніводнага Сабору, прыкладзе намаганні, каб цяпер яны [русіны, татары і готы. — А.Ж.] далучыліся да Сабору, што будзе прызначаны Папам, альбо пагадзіліся з ужо прызначаным, просячы дапусціць іх да ўхвалення дэкрэтаў і пераўладкавання горада, свету і Касцёла»[5].

Памянёнага сакратара можна было б атаясаміць з Францішкам Скарынам, для якога была блізкая тэматыка гэтай прамовы, перадусім тэма паяднання дзвюх галінаў хрысціянства. Ідэю ўз'яднання падзеленага хрысціянства ўсяляк прапагандавалі полацкія і віленскія бэрнардыны — выхаваўцы Скарыны. Іх лінію ўсёй сваёй дзейнасцю падтрымліваў і ён, перадусім выданнем кніг Бібліі для хрысціянаў Усходняй Славіі. Аднак нядаўна выяўлены дакумент усё ж не дазваляе з пэўнасцю атаясаміць сакратара, які быў на прыёме ў Папы, з Францішкам Скарынам. Гэты дакумент датуецца 4 жніўня 1512 г., за два дні да сустрэчы дацкіх пасланнікаў з Папам, але з'явіўся ён не ў Вечным горадзе, а ў месцы, дзе Скарына пачынаў сваё студэнцкае жыццё, у столь-

ным Кракаве. 4 жніўня 1512 г. нейкі магістр Францішак з Полацка, з'явіўшыся асабіста перад дыяцэзіяльным біскупскім судом у Кракаве, вызначыў свайго ўпаўнаважанага ў справе з кракаўскай крамаркай Ганнай Крайсла[6]. Ёсць значна больш падставаў атаясаміць гэтага магістра Францішка з Полацка з Францішкам Скарынам. Нагадайма, што тытул «магістр вызваленых навук» быў раўназначны найменню «доктар вызваленых навук».

У Кракаве Скарына мог апынуцца з некалькіх прычынаў. Для абароны ў Падуі яму патрабаваліся дакументы пра папярэднюю адукацыю. Магчыма, тут ён мог заручыцца таксама рэкамендацыямі сваіх былых выкладчыкаў. Многія прафесары Кракаўскага ўніверсітэта атрымлівалі доктарскія ступені ў Італіі, перадусім — у Падуі. Не выключана, што ў яго маглі быць і дыпламатычныя даручэнні да польскага двара з Даніі. Час ягонага з'яўлення ў Кракаве супадае з часам выправы дацкага пасольства ў Рым. На ўжо згаданым прыёме дацкія пасланнікі таксама ўручылі Пантыфіку ліст ад караля Ганса, які быў выдадзены 10 красавіка 1512 г.[7] Неўзабаве пасля гэтага дыпламатычная місія павінна была выправіцца ў дарогу, якая (па нашых падліках) доўжылася каля 3-х месяцаў ці нават больш. Найверагодней, што менавіта ў складзе гэтай місіі на Пяты Латэранскі Сабор вырушыў і Скарына.

Маршруты, якімі ў той час ішлі ў Рым дыпламатычныя пасольствы еўрапейскіх уладароў, пралягалі па даўніх шляхах купцоў і пілігрымаў. Гэтыя шляхі накрэсленыя на мапе, падрыхтаванай вядомым нямецкім картографам Эргардам Этцляўбам для пілігрымаў, якія збіраліся ў Рым на юбілей 1500 г.[8] Маршрут з Капенгагена да Рыма, паводле яго мапы, пралягаў ад Капенгагена да размешчанага ўжо на мацерыку Рыбэ, затым да Шлязвіга і Любэка, далей — да Эрфурта і Нюрнбэрга, адкуль быў найлепшы шлях да Кракава. Хутчэй за ўсё, тут Скарына мусіў разлучыцца з дэлегацыяй, каб павярнуць на Прагу, і пасля з Прагі праз Оламоўц, Астраву, Цешын, Асвенцім, Скавіну прыбыць у Кракаў. Можна меркаваць, што недзе ў чэрвені-ліпені ён ужо быў у Кракаве. Магчыма, у жніўні 1512 г. пасля прызначэння ўпаўнаважанага ў справе з Ганнай Крайсла, ён выправіўся ў Рым, каб узяць удзел у працы пасольства на Латэранскім Саборы альбо застацца ў Падуі і далучыцца да пасольства ў Рыме ўжо пасля атрымання доктарскай ступені. У кожным разе ў Італію з Кракава ён дабіраўся звычайным маршрутам, які называўся па-рознаму: *via ordinaria* (звычайная дарога), *la strada imperiale* (імперская дарога), *italienstrasse* (італьянская дарога), і якім ішлі польскія пасольствы, пілігрымы і купцы. З Кракава шлях ляжаў праз чэшскі Оламоўц і Брно, затым праз Вену, Віллах, Тарвізіё, Джэмону, Трэвізо, Мэстрэ, Венецыю да Падуі. Ад Падуі дарога вяла да Феррары, Балоньі, Фларэнцыі, Сіены, Вітэрбо і Рыма. Шлях з Кракава да Рыма займаў каля месяца, хоць пасольскія выправы былі ўдвая даўжэйшыя. Так, пасольствы Эразма Цёлка (1501, 1504–1505 гг.) былі ў дарозе з Кракава да Рыма амаль два з палавай месяцы. У 1512 г. Скарына, хоць, магчыма, і праездам, пабываў у тых еўрапейскіх культурных цэнтрах, якія адыгралі вялікую ролю ў яго далейшым жыцці. Гэта Вена, дзе ў 1515 г. ён мог удзельнічаць у Венскім кангрэсе, а ў 30–40-я гады меў стасункі з імператарам Фердынандам I; гэта Нюрнбэрг, дзе ён мог знаёміцца з выдавецкай справаю і замаўляць друкарскія матэрыялы; Прага, дзе праз 5 гадоў ён пачне выдаваць кнігі Святога Пісання; і Венецыя, якую нельга было абмінуць, кіруючыся з Кракава да Рыма, дзе ён мог пазнаёміцца з выдавецкай дзейнасцю Альда Мануцыя і з чэшскай Біблiяй; нарэшце — Падуя, дзе ён здабыў вельмі прэстыжны тытул доктара медыцыны.

*Заканчэнне будзе.*

---

1 Shutava V. Again about Skaryna in Padua: circumstances // Belarusian review. Vol. 27, No. 1. P. — 27.

2 Regiae academiae Hafniensis infantia et pueritia ... ab Alberto Thura. — Elensburgi et Altonaviae, 1734. — P. 9–10, 23–24.

3 Kong Hans's Brevbog // Aarsberetninger fra det kongelige geheimearchiv indeholdende bidrag til Dansk historie af utrykte kilder / Ungivne af C.F. Wegener. Bd. 4. — Kjøbenhavn, 1852-1855. — S. 4, nr. 4; Regesta diplomatica historiae Danicae. Ser. II. T. 1. — Kjøbenhavn, 1886. — S. 1118, nr. 9322; S. 1128, nr. 9408; S. 1141, nr. 9515; S. 1180, nr. 9892.

4 Nya Källor till Finlads Medeltidsistoria. / Af Edward Grönblad. Första samlingen. — Köpenhamn, 1857. — S. 97, nr. 150.

5 Biblioteca Casenatense in Roma. Codex 1594, f. 35v.

6 Urban W., Lūžys S. Cracovia Lithuanorum saeculis XIV-XVI. — Vilnius, 1999. — S. 102, nr. 59.

7 Acta pontificum Danica = Pavelige aktstykker vedrørende Danmark 1316-1536. V Bind: 1492–1513. Udlifet af Krarup A. og Lindbæk J. København, 1913. — P. 579, nr. 4272.

8 Das ist der Rom-Weg von meylen zu meylen mit puncten verzeychnet von eyner Stat zu der andern durch deutzsche lantt / Erhard Etzlaub. Nürnberg, circa 1500.

# Быць ксяндзом — не значыць быць прарокам

*На чым грунтуецца добрае казанне? Чаго чакаюць сучасныя хрысціяне ад прапаведніка на амбоне? І як змяняюцца гэтыя чаканні ў адпаведнасці з глабальнымі зменамі ў свеце і ў грамадстве? Прапануем вам, шаноўныя чытачы, цікавую гутарку на гэтую тэму, змешчаную ў часопісе «W drodze». На пытанні **Уладзімежа Багачыка** адказвае **ксёндз прафесар Анджэй Драгула** — габілітаваны доктар тэалогіі, прафесар тэалагічнага факультэта Шчэцінскага ўніверсітэта, загадчык кафедры пастаральнай тэалогіі, літургікі і гамілетыкі.*

*— Ксёндз прафесар, ці слухаеце Вы казанні? Напэўна ж, Вы і самі іх прамаўляеце.*

— Прамаўляю рэдка, хоць апошнім часам раблю гэта ўсё часцей. Аднак я нават сказаў бы, што ўсё роўна зарэдка, бо як выкладчык гамілетыкі павінен больш практыкавацца. Я ж часцей слухаю.

*— Ці адчуваеце Вы, што гэтае слова ўзбагачае Вас? Ці, можа, наадварот?*

— Бывае па-рознаму. Ёсць казанні, якія я назваў бы жыватворнымі, а ёсць такія, якія мяне раздражняюць, і такія, якія мяне расчароўваюць, асабліва калі я знаёмы з прапаведнікам, напрыклад, калі гэта мой даўні вучань. Тады я слухаю і думаю сабе: «Хм… Я крыху па-іншаму яго вучыў». Але ў ім ужо сфармаваліся пэўныя рысы стэрэатыпнага прапаведніцкага мыслення, або стэрэатыпных душпастырскіх паводзінаў. Аднак я не лічу, што маладыя прапаведнікі — гэта маё педагагічнае паражэнне. Зусім наадварот: мне здаецца, што яны гавораць добра.

*— Ксёндз прафесар, Вы сказалі, што калі-нікалі падчас казання бываеце раздражнёным. А што Вас раздражняе?*

— Дыдактызм і негатыўная педагогіка. Прапаведніку здаецца, што казанне — перш за ўсё элемент маральнага павучання, і гэта з'яўляецца вынікам даўняй традыцыі ў нашым Касцёле. На занятках па гісторыі гамілетыкі мы разбіралі казанне Яна Хрызастома на Вялікую пятніцу. Яго вернікі ў той дзень пайшлі ў цырк, а не ў касцёл. Гэта было ў IV стагоддзі — як бачым, пэўныя праблемы застаюцца і ў наш час… Казанне Яна Хрызастома — негатыўнае, незвычайна дыдактычнае ў дрэнным значэнні гэтага слова. У ім няма ніякага суцяшэння, ніякай надзеі, ніякай пазітыўнай матывацыі. Толькі ганьбаванне.

*— Відавочна, ён быў расчараваны паводзінамі гэтых людзей.*

— І даў гэтаму пачуццю выйсце! Заадно ўчыніў памылку, якую сёння таксама дапускаюць многія прапаведнікі: гаварыў у адрас тых, хто не прыйшоў. Тыя, хто быў, атрымалі за тых, каго не было. На жаль, дыдактызм і маралізатарства дагэтуль квітнеюць у нашых касцёлах.

*— Адкуль гэта паходзіць?*

— Па-першае, з мыслення, што хрысціянства — гэта маральнасць, а па-другое — з пераканання, што негатыўная матывацыя дзейнічае. Сёння, хіба, ужо не страшаць пеклам, але ўвесь час узмацняюць у чалавеку пачуццё віны. У апошнім казанні, якое я чуў, ксёндз у пэўны момант сказаў: «Цяпер давайце зробім рахунак сумлення з таго, што…» Праз гэтую прызму чалавек перад Богам перш за ўсё вінаваты, а не адораны збаўленнем.

*— Мы не ведаем, як казанне святога Яна Хрызастома паўплывала на слухачоў, але можам задумацца над тым, як такія казанні дзейнічаюць у наш час.*

— На маю думку, не вельмі добра. Аргумент, які я сам неаднаразова чуў у дзяцінстве, — «а памятаеш, што ксёндз гаварыў на амбоне?» — не дзейнічае. Не хачу называць гэта паўсюдным крызісам аўтарытэту, хутчэй гэта яго паўсюдная перамена. Усе аўтарытэты сёння становяцца прадметам дыскусіі. Няма бясспрэчных і несумніўных аўтарытэтаў. Калісьці для вернікаў аўтарытэтам быў святар, не кажучы ўжо пра біскупа. Сёння ж ставіцца пад сумненне нават аўтарытэт Папы Рымскага.

*— Да нядаўняга часу такое немагчыма было ўявіць.*

— Я нават сказаў бы, што крызіс аўтарытэту дасягае ўжо самога Пана Бога. *Катэхізіс Каталіцкага Касцёла* падкрэслівае, што праўдзівасць сказанага Богам вынікае з аўтарытэту Таго, хто гаворыць. Але многім людзям гэтага мала. Яны пытаюць: «А чаму Пан Бог так гаворыць?» <…> Недастаткова ўжо толькі нагадаць, што нешта з'яўляецца злом: трэба яшчэ растлумачыць, чаму гэта зло.

*— Аўтарытэт як аргумент перастаў дзейнічаць.*

— Для многіх — так, і мы не павінны гэтаму дзівіцца. Магчыма, чалавецтва дасягнула ўжо такога ўзроўню інтэлектуальнага развіцця, што нічога не прымае выключна на веру. У мяне нават склалася такое ўражанне, што мы як хрысціяне перажываем «падлеткавы перыяд» у веры. Маладому чалавеку, які ставіць пад сумненне ўсялякія аўтарытэты, асабліва аўтарытэт бацькоў, на пытанне «чаму?» усё радзей дастаткова таго, што мама скажа: «Бо тата так загадаў». Таму ў прапаведніцкай практыцы, спасылаючыся на маральныя нормы, мы павінны іх на чымсьці моцна ўгрунтаваць. Маральныя нормы, якія вынікаюць з Евангелля, датычаць веруючых. Трэба ўмець падаць гэтыя нормы не толькі як наказы, але і як штосьці, напоўненае глыбокім сэнсам. Акцэнтаваць увагу не на тым, што за іх парушэнне будзе кара, а на тым, што гэта вядзе да пэўных наступстваў.

*— І ксёндз з амбоны павінен наўпрост казаць, што́ католікі мусяць рабіць?*

— Я гэтага не сказаў. Думаю, што галоўны прынцып сучаснага прарочання — няспынна абуджаць у чалавеку матывацыю да маральнага дзеяння. Гэтая матывацыя павінна вынікаць з веры. Калі я веру ў Бога і ў Хрыста, які мяне збавіў, то гэтая фундаментальная праўда мае пэўны ўплыў на маё жыццё. Але маральны складнік не з'яўляецца першым у прапаведніцтве: у Гамілетычным дырэкторыуме, выдадзеным летась Кангрэгацыяй Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў, ён апынуўся на апошнім месцы. Першы складнік — гэта вера, другі — літургія, трэці — жыццё. Гэта значыць, што чалавек, які прыняў керыгму, перажыў яе ў літургіі, ідзе ў свет і ў гэтым свеце спрабуе функцыянаваць як чалавек адкуплены.

Зразумела, прапаведнік павінен яму сказаць: «Звярні ўвагу, ёсць такі грэх, зло гэтага граху заключаецца ў гэтым, а яго наступствы ў тваім жыцці могуць быць такія». Як гаворыцца ў Дакументах Другога Ватыканскага Сабору, кожны сам прымае рашэнне, у «санктуарыі» ўласнага сумлення. <…>

Зыгмунт Баўман слушна заўважыў, што постмадэрн з'яўляецца крыніцаю цярпенняў. А найбольшае цярпенне чалавека постмадэрну — неабходнасць рабіць выбар. <…>

Мы часта падкрэсліваем, што традыцыйная вера, атрыманая ў спадчыну, павінна трансфармавацца ў веру паводле выбару. Калі ж яна не трансфармуецца, то вельмі верагодна, што ў пэўны момант мы адвернемся ад яе. Але гэты пераход няпросты, часам вельмі балючы. <…>

Даследаванні сацыёлагаў рэлігіі паказваюць, што калі вера з'яўляецца толькі элементам знешняй структуры, то ў крызісны час яна можа быць страчаная альбо ўзмоцненая, але ў значэнні акасцянення, акамянення. Гэта абарончая рэакцыя на рэчаіснасць, якая раптам становіцца менш стабільнаю.

Калі няма пастаянных кропак суаднясення, то хтосьці можа навучыцца нанова раскрывацца як чалавек, які ў гэтай рэчаіснасці кіруецца сваёю вераю, свядомасцю, перакананнямі, але ведае, што гэта заўсёды рызыка і адказнасць. Іншы чалавек можа ўнутрана замкнуцца, спалохацца свабоды і будзе шукаць такія механізмы, якія вызваляць яго ад гэтай свабоды. Ён аддасць гэтую свабоду камусьці іншаму — якому-небудзь знешняму аўтарытэту. І захоча, каб хтосьці сказаў яму, што ён павінен рабіць, як жыць, што глядзець і чаго не глядзець, бо столькі ўсяго ёсць навокал. Але ў пэўным сэнсе чалавек вызваляецца таксама ад адказнасці.

Па гэтай прычыне частка католікаў у наш час з цяжкасцю ўспрымае адгартацыю папы Францішка «*Amoris laetitia*», таму што яна дазваляе свабоду дзеяння — няма адной нормы на ўсё, бо апрача аб'ектыўнай нормы ёсць чалавек, яго сумленне і, верагодна, яго спаведнік у канфесіянале. Таму людзі пытаюцца: «Дык як яно ўрэшце, ойча? Можна ці не можна? Пост абавязвае ці не?» Зразумела, людзям патрэбная пэўнасць у веры, а калі я скажу, што гэта залежыць ад канкрэтных умоваў, то адразу хто-небудзь мне адкажа: «Гэта тыповы адказ постмадэрніста». Але па сутнасці папа Францішак менавіта так і кажа: «Гэта залежыць ад канкрэтных умоваў». У дадзенай сітуацыі трэба прааналізаваць мноства акалічнасцяў. Гэта ўжо не проста матэматычная логіка.

*— У 80-я гады Касцёл рыхтаваў нас да свабоды. Я да гэтага часу памятаю казанні пра тое, што мы не павінны баяцца адважных рашэнняў. Сёння гэта змянілася. Мы часцей чуем, што трэба рабіць так і так... У адносінах святароў да вернікаў нібы прысутнічае нейкі элемент недаверу: маўляў, калі мы пакінем людзям свабоду, то яны…*

— …зробяць памылку.

*— Можа, святары баяцца, што вернікі самі не змогуць зрабіць правільны выбар, што недастаткова абвяшчаць Евангелле, абавязкова трэба сказаць: зрабі «а», не рабі «б».*

— Сацыяльна-палітычны кантэкст 80-х гадоў спрыяў такім казанням. Сітуацыя зняволення была відавочная, рэчаіснасць была вельмі дыхатамічная: там — зняволенне, тут — свабода. На

маю думку, сёння такіх выразных падзелаў не ўдасца правесці.

*— Хоць у казаннях часта можна пачуць, што на гэтым баку — дабро, а на гэтым — зло, у тым ліку ў сацыяльным і палітычным кантэксце.*

— Магчыма, для некаторых зло, якое было вынікам камуністычнага рэжыму, замяніў ліберальны свет. <…>

*— А што канкрэтна павінен зрабіць вернік, якому не спадабалася казанне?*

— Я заўсёды раю адно: «Ідзі ў сакрыстыю і скажы пра гэта ксяндзу. Можна таксама выслаць электронны ліст або паведамленне на *Facebook*». Я часта гавару сваім студэнтам: «На святой Імшы ксёндз не з'яўляецца адзіным „знаўцам". Памятайце: у нас становіцца ўсё больш тэалагічна адукаваных слухачоў. Таму можа здарыцца так, што хтосьці прыйдзе і скажа: „Ойча, гэта не так, гэта памылка"».

Добра гэта ці дрэнна? Няпроста адказаць. Нядаўна я быў на лекцыі пра вынікі медыятызацыі ў медыцыне. Цяпер амаль кожны, перш чым пойдзе да ўрача, гугліць усю інфармацыю. Выкладчык распавядаў пра станоўчыя і адмоўныя аспекты гэтай сітуацыі. Такі пацыент прыходзіць ужо з уласным дыягназам і часам патрабуе, каб яму прызначылі лячэнне, якое далёка не заўсёды правільнае.

*— Як гэта адносіцца да Касцёла?*

— Адукаваны ў духоўна-тэалагічным або таксама псіхалагічным плане пэнітэнт таксама будзе прыходзіць да канфесіянала з уласным духоўным дыягназам, а не толькі з апісаннем сімптомаў ці пералічэннем грахоў. Гэтак жа можа быць са слухачом казання, які будзе даказваць, што «ведае лепш».

Яшчэ раз скажу: я не хачу вырашаць, ці добра гэта, ці дрэнна. З аднаго боку, гэта ставіць перад святаром больш высокія патрабаванні, аднак з другога — можа стаць прычынаю страты даверу да святара, яго ведаў, духоўнага досведу. Як з тым пацыентам, што калісьці давяраў урачу і згаджаўся на ўсё, а сёння хоча мець падрабязную інфармацыю пра тое, як будзе праходзіць тэрапія і якія яна можа мець пабочныя вынікі. Ужо скончыліся тыя часы, калі ў вясковай парафіі быў мудры ксёндз і пераважна непісьменныя вернікі. <…> Дастаткова паразмаўляць з ксяндзамі катэхетамі, каб ведаць, што моладзь часта вяртае іх на зямлю. Такіх сітуацый будзе ўсё больш. У вачах людзей тое, што мы з'яўляемся ксяндзамі, яшчэ не робіць нас прарокамі.

Мы, душпастыры, павінны разумець, што наш адрасат стаў іншым. Ён мае іншую свядомасць, іншы духоўны фундамент. Ён мае інтэрнэт, чытае кнігі, тэалагічныя блогі, рэлігійныя парталы.

Цяпер нельга сказаць, што ў касцёльнай лаўцы сядзіць пасіўны вернік, і яго адзіны кантакт з Панам Богам ажыццяўляецца праз пробашча ці вікарыя, які ў нядзелю перад Імшою Сумаю выкладаў яму катэхізіс, а той успрымаў гэта, не ставячы нічога пад сумненне. Сёння ў касцёл прыходзіць вернік, які, напрыклад, толькі што вярнуўся з ігнацыянскіх рэкалекцый, таму ён ужо нашмат больш чакае ад ксяндза, які, несумненна, страціў прывілей выключнасці ў абвяшчэнні Евангелля.

*— Гэта значыць, палемізаваць з тымі, хто гаворыць казанні, можна.*

— Безумоўна, галоўнае — рабіць гэта разважліва.

*— А пярэчыць?*

— Можна ўсё, абы толькі па справе. Тое самае датычыць і крытыкі.

*— А дзе мяжа бяздумнага падтаквання?*<…>

— Адкажу не наўпрост. У казанні Яна Хрызастома, якога мы згадвалі на пачатку размовы, гаворыцца пра неабходнасць адсякаць зло. Але хрысціянства на гэтым не заканчваецца. Мысленне выключна ў катэгорыях «адсякання», выгнання з Касцёла, асуджэння, на маю думку, не адпавядае Евангеллю. Такая пазіцыя была ўласцівая фарысеям, якія трымаліся як мага далей ад грэшнікаў, бо былі перакананыя ва ўласнай дасканаласці. Хіба мы ўсё яшчэ не засвоілі прыпавесці пра марнатраўнага сына і не перажылі як след Году Міласэрнасці. Мы ўсё яшчэ не ведаем, як быць з тымі, хто раній Касцёл, здрадзіў яго пасланню, і якім чынам супольнасць павінна зноў прыняць іх да сябе.

Памятаю тэкст ксяндза прафесара Януша Пасерба, які гаварыў, што з алкаголікам не хоча мець справы ніводнае таварыства і яго выключаць нават з паляўнічага клуба. Касцёл не можа так рабіць, бо ў ім ёсць месца для кожнага. Вядома ж, гэта не значыць, што супольнасць не можа рэагаваць. Аднак супольнасць не можа дзейнічаць гэтак, як паляўнічы клуб, і ў якасці пакарання выключаць кагосьці са сваіх шэрагаў. Не! <…> Выгнаць іх з Касцёла — гэта значыць страціць іх. Мы павінны мець для іх прастору, у якую яны маглі б вярнуцца.

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: «W drodze», № 10, 2016.*

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ПАВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ.
НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка *Цёмнай ночы* — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### Раздзел 8
### У якім агульна даказваецца, што ніякае стварэнне і ніякія веды, набытыя розумам, не могуць стаць сродкам для злучэння душы з Богам.

1. Перш чым пачаць гаварыць пра адзіны і адпаведны сродак злучэння з Богам — веру, неабходна сказаць, што ніводная рэч, ні створаная, ні пазнаная, не можа стаць сродкам для разумовай здольнасці, каб злучыцца з Богам. Наадварот, усё дасягнутае розумам, замест таго, каб паслужыць сродкам для злучэння душы з Богам, становіцца перашкодаю, асабліва калі розум чапляецца за яго. У гэтым раздзеле мы дакажам гэтую ісціну ўвогуле, а пазней пагаворым больш дэталёва як пра самі веды, якія розум можа атрымаць праз вонкавыя і ўнутраныя пачуцці, гэтак і пра небяспеку і шкоду, якія тояць у сабе гэтыя веды, калі нехта больш засяроджваецца на іх, а не на веры — адпаведным сродку.

2. Трэба нагадаць, што, паводле філасофскага прынцыпу, усе сродкі павінны быць наўпрост прапарцыянальнымі мэце, гэта значыць, што ўсе сродкі павінны адпавядаць і быць падобнымі да мэты такім чынам, каб можна было дасягнуць жаданай мэты. Напрыклад, калі нехта хоча даехаць да нейкага горада, ён абавязкова павінен ісці адпаведнаю дарогаю, якая з'яўляецца сродкам, што вядзе да мэты і яднае яго з мэтаю. Іншы прыклад: калі нехта хоча запаліць драўніну, дык цяпло, якое з'яўляецца сродкам, павінна дасягнуць адпаведнай тэмпературы, каб драўніна сталася падобнаю і прапарцыянальнаю агню. Таму, калі нехта хоча запаліць драўніну іншымі сродкамі, адрознымі ад цяпла, як напрыклад, паветрам ці вадою, ці зямлёю, ён не здолее з'яднаць драўніну з агнём. Таксама ніхто не здолее даехаць да горада дарогаю, якая да яго не вядзе. Вось чаму розум, каб дасягнуць магчымай у гэтым жыцці найвышэйшай ступені паяднання з Богам, павінен абавязкова выкарыстаць адпаведны і падобны да Яго сродак.

3. З гэтага пункту гледжання трэба адзначыць, што сярод усіх стварэнняў вышэйшых і ніжэйшых, няма ніводнага, якое магло б паслужыць сродкам для таго, каб паяднаць нас з Богам, і якое б мела хоць якое падабенства да Божага быцця. Бо сапраўды ўсе стварэнні, на думку тэолагаў, маюць пэўныя адносіны да Бога і нясуць у сабе Божы адбітак у большай ці меншай ступені, але паміж Ім і стварэннямі няма ніякага стасунку ці сутнаснага падабенства, і, больш за тое, адлегласць паміж быццём Бога і быццём стварэнняў — бясконцая. І таму немагчыма, каб розум змог зразумець Бога праз стварэнні: ні праз нябесныя, ні праз зямныя, паколькі паміж імі няма суадноснага падабенства. Вось чаму Давід, гаворачы пра нябесныя стварэнні,

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

адзначае: «*Сярод багоў няма ніводнага падобнага да Цябе, Божа*» (Пс 85, 8). Давід называе багамі анёлаў і святыя душы. У іншым месцы ён дадае: «*Божа, Твой шлях у святасці, ці ж існуе які-небудзь іншы бог, больш вялікі за нашага?*» (Пс 76, 14). Ён нібыта кажа: шлях, каб дайсці да Цябе, Божа, шлях святасці, які азначае чысціню веры. Бо якая яшчэ боскасць можа быць такою вялікаю? Іншымі словамі: які высакародны анёл ці які ўзнесены ў хвале святы настолькі вялікія, каб стацца адпаведнаю і правільнаю дарогаю, каб дасягнуць Цябе? І той жа Давід, узгадваючы стварэнні нябесныя і зямныя, сцвярджае: «*Пан на вышынях глядзіць на рэчы малыя і вялікія і ведае іх здалёк*» (Пс 137, 6), нібыта кажучы, паколькі Ён Найвышэйшы па сваёй сутнасці і бачыць, што зямныя стварэнні ў параўнанні з Ім вельмі нізкія, Ён таксама ведае і рэчы высокія, гэта значыць, што нябесныя стварэнні страшэнна далёкія ад Ягонага быцця. Вось чаму ніводны створаны быт не можа служыць адпаведным сродкам для розуму, каб зразумець Бога.

4. Таксама ўсё тое, на што здольнае ўяўленне, і ўсё, што можа пазнаць і зразумець у гэтым жыцці розум, не ёсць і не можа быць найпрацейшым сродкам для злучэння з Богам. З пункту гледжання прыроднага парадку, розум не пазнае нічога іншага, як толькі тое, што бярэ з формаў ці ўяўленняў, якія ён атрымлівае праз цялесныя пачуцці. А паколькі гэтыя рэчы, як раней ужо было сказана, не могуць быць сродкам, то з гэтага вынікае, што нельга тут выкарыстаць натуральных здольнасцяў. У той жа час з пункту гледжання звышнатуральнага парадку, магчымага ў гэтым жыцці, неабходна адзначыць, што розум як звычайная здольнасць у палоне цела не мае ні схільнасці, ні здольнасці, каб асягнуць яснае пазнанне Бога, таму што гэтае пазнанне немагчымае ў гэтым жыцці. Трэба альбо памерці, альбо пагадзіцца жыць здаля ад Яго.

Вось чаму Майсею, які папрасіў Бога паказацца яму, Бог адказаў, што чалавеку не дадзена бачыць Яго, бо: «*Не можа чалавек пабачыць Мяне і застацца жывым*» (Зых 33, 20), і таму святы Ян гаворыць: «*Бога ніхто ніколі не бачыў*» (Ян 1, 18). Таксама і святы Павел (1 Кар 2, 9) разам з Ісаем (Іс 64, 4) гаворыць: «*Чаго вока не бачыла, і вуха не чула, і што не ўваходзіла ў чалавечае сэрца*». Гэта таксама, паводле Дзеяў Апосталаў (7, 32), было прычынаю таго, чаму Майсей не асмельваўся глядзець на палаючы куст, дзе знаходзіўся Бог, ведаючы, што ягоны розум, нягледзячы на ўсю глыбіню яго перажывання, не здольны зразумець Бога адпаведным чынам. І наш святы айцец Ілля гаворыць, што на гары ў прысутнасці Бога ён закрыў твар (1 Вал 19, 13), а гэта азначае, што ён асляпіў свой розум. Прарок зрабіў гэта таму, што не асмеліўся выкарыстаць такі нізкі сродак, каб сузіраць нешта настолькі высокае, усведамляючы: што б ён ні пазнаў, што б ён ні зразумеў, усё гэта было б надзвычай далёка ад Бога і не падобна да Яго.

5. І таму ніякае веданне і ніякае звышнатуральнае ўспрыманне ў гэтым жыцці не могуць паслужыць найпрацейшым сродкам для найвышэйшага любоўнага паяднання з Богам, бо ўсё тое, што можна пазнаць розумам, усё, што можа падабацца волі, і ўсё, што можа прыдумаць уяўленне, як ужо было сказана, усё гэта не падобнае да Бога і страшэнна адрозніваецца ад Яго. Менавіта гэта выдатным чынам тлумачыць Ісая (40, 18–19), калі з незвычайнаю моцаю гаворыць: «*Дык вось, да каго ж прыпадобніце вы Бога? І якое падабенства знойдзеце Яму? Балвана вылівае майстар, і залатар пакрывае яго золатам, і срэбных спраў майстар срэбныя плашкі прырабляе*». Пад майстрам тут маецца на ўвазе розум, справа якога фармуляваць паняцці, ачышчаць іх ад іржы ўяўленняў і ілюзій. Пад залатаром разумеецца воля, якая мае здольнасць прымаць форму і вобраз упадабанага, таму яна і ёсць золатам любові. Срэбных спраў майстар, пра якога гаворыцца, што ён не можа выявіць Бога срэбнымі плашкамі, — гэта вобраз здольнасці памяці і ўяўлення, пра якія можна сказаць, што звесткі і выявы, выпрацаваныя імі, падобныя да срэбраных плашак. І таму нібыта гаворыцца: ні розум са сваімі паняццямі не можа пазнаць рэчы, падобныя да Бога, ні воля не можа ўпадабаць рэчы, падобныя да Бога, ні памяць не можа змясціць у сваім уяўленні звесткі і вобразы, якія явяць Бога. І таму зразумела, што ніводнае з названага не можа непасрэдна прывесці да Бога. Наадварот, каб дайсці да Бога, неабходна адмовіцца ад жадання зразумець Яго, і каб больш наблізіцца да Божага промня, трэба не расплюшчваць шырока вочы, а наадварот, аслепнуць і ўвайсці ў цемру.

6. Вось чаму кантэмпляцыя, з дапамогаю якой розум атрымлівае пэўныя звесткі пра Бога, называецца містычнай тэалогіяй, гэта значыць — таемнаю мудрасцю Бога, утоенай для розуму нават у момант яе пазнання. Таму святы Дыянісій называе яе промнем цемры. Пра яе гаворыць і прарок Барух (3, 23): «*Няма нікога, хто б ведаў шлях мудрасці і хто б мог думаць пра яе сцежкі*», і таму зразумела, што розум павінен асляпіць у сабе ўсе веды пра сцежкі, якія могуць прывесці яго да Бога. Арыстоцель сцвярджае, што як для вачэй кажана святло сонца — абсалютная цемра, гэтаксама і святло Бога для нашага розуму — абсалютны змрок. Ён дадае, што наколькі Божыя рэчы з'яўляюцца найвышэйшымі і найяснейшымі самі па сабе, настолькі яны для нас невядомыя і цёмныя. Тое ж самае сцвярджае і Апостал, калі гаворыць: «*Тое, што найвышэйшае ёсць у Богу, найменш вядомае людзям*» (1 Кар 3, 19).

7. Працягваючы такім чынам, мы ніколі не спыніліся б цытаваць тэксты і прыводзіць аргу-

менты, каб прадэманстраваць, што сярод рэчаў створаных, якія можа пазнаць розум, няма такой лесвіцы, з дапамогаю якой розум можа дайсці да вышыняў Пана. Але трэба ведаць, што, калі розум захоча выкарыстаць усе гэтыя рэчы як сродак дзеля паяднання з Богам, яны стануцца для яго не толькі перашкодаю, але і прычынаю многіх памылак і падманаў пры ўзыходзе на гэтую Гару.

### Раздзел 9
### У якім даводзіцца з дапамогаю тэкстаў і вобразаў, узятых са Святога Пісання, што вера — гэта адзіны адпаведны і найпрацейшы сродак, з дапамогаю якога душа можа дасягнуць злучэння з Богам у любові.

1. З таго, што ўжо было сказана, вынікае, што розум, каб падрыхтавацца да злучэння з Богам, павінен быць чыстым і вызваленым ад усяго пачуццёвага. Больш за тое, ён павінен быць аголеным і незанятым, пазбаўленым усяго таго, што ён добра разумее. Ён павінен унутрана супакоіцца, змоўкнуць у веры, бо толькі яна ёсць адпаведным і найпрацейшым сродкам для паяднання душы з Богам. Падобнасць гэтай цноты да Бога настолькі вялікая, што амаль няма паміж імі ніякай розніцы, апроч адной: розніцы між бачаннем Бога і вераю ў Яго. Бог — бясконцы, і вера явіць нам яго бясконцым. Бог — Адзіны ў Трох Асобах, і яна явіць нам Яго Траістым у адзінстве. Бог з'яўляецца для нашага розуму цемраю, таму і вера асляпляе і зацямняе наш розум. Такім чынам, толькі з дапамогаю веры Бог явіцца душы ў Божым святле, якое перавышае ўсялякі розум, і таму, чым большую веру мае душа, тым больш яна злучаная з Богам. Менавіта гэта меў на ўвазе святы Павел у тэксце, які мы цытавалі вышэй: «*Той, хто хоча дасягнуць злучэння з Богам, павінен верыць*» (Гбр 11, 6). Неабходна крочыць да Бога выключна праз веру і трэба, каб розум перастаў бачыць у цемры веры, бо розум злучаецца з Богам у гэтай цемры, дзе ўтоены Бог, як гаворыць Давід: «*Нахіліў Ён нябёсы і зышоў, і змрок — пад нагамі ў Яго. І сеў на хэрубімаў і паляцеў, і паімчаў на крылах ветру. І зрабіў сваёю заслонаю змрок, і ценем вакол сябе змрок водаў, хмараў нябесных*» (Пс 17, 10–11).

2. Выразы «*і змрок — пад нагамі ў Яго*», «*зрабіў сваёю заслонаю змрок*», «*ценем вакол сябе змрок водаў*» азначаюць цемру веры, у якой утойваецца Бог. А іншы выраз: «*сеў на хэрубімаў і паляцеў, і паімчаў на крылах ветру*» азначае палёт па-над розумам душы, бо пад «*хэрубімамі*» маюцца на ўвазе духі разумныя і кантэмпляцыйныя, а пад «*крыламі ветру*» — узвышаныя веды і паняцці духу, і паколькі Божае быццё пануе над імі, ніводнае стварэнне не можа сваімі ўласнымі сіламі іх дасягнуць.

3. У Святым Пісанні мы знаходзім гэты вобраз, калі чытаем, як у момант, калі Саламон закончыў будаўніцтва святыні, Бог зышоў, ахінуты змрокам, і запоўніў святыню такім чынам, што сыны Ізраэля не маглі нічога бачыць. І тады Саламон сказаў: «*Пан абяцаў знаходзіцца ў імгле…*» (1 Вал 8, 12). Таксама і Майсею на гары з'явілася цёмная хмара (Зых 24, 15–18), у якой быў схаваны Пан. І ўсе разы, калі Бог аб'яўляўся, Ён заўсёды аб'яўляўся ў цемры, як, напрыклад, у кнізе Ёва (38, 1; 40, 1), дзе чытаем, як Пан размаўляў са сваім слугою ў змрочнай хмары. Усе гэтыя вобразы цемры азначаюць цемру веры, у якой хаваецца Боскасць, што зносіцца з душою. Гэтая цемра пачне знікаць, калі, як гаворыць святы Павел: «*Настане дасканалае, тады тое, што частковае, знікне*» (1 Вал 13, 10). «Частковае» азначае цемру веры, а «дасканалае» — Боскае святло. Вельмі прыгожы вобраз гэтага ўвасоблены ў войску Гедэона, усе ваяры якога неслі запаленыя паходні ў руках, але іх не было бачна, бо яны былі схаваныя ў гліняных пасудзінах, і калі іх разбілі, з'явілася святло (Юдт 7, 16). Вось і вера, сімвалам якой з'яўляюцца гэтыя пасудзіны, нясе ў сабе Боскае святло, і калі закончыцца дачаснасць, яна разаб'ецца з заканчэннем гэтага смяротнага жыцця, і з'явяцца хвала і святло Боскасці, якое вера несла ў сабе.

4. І таму зразумела, што калі душа ў гэтым жыцці прагне злучыцца з Богам, яна павінна ўвайсці ў цемру, у якой, як казаў Саламон, Бог абяцаў знаходзіцца. Душа павінна наблізіцца да гэтай змрочнай хмары, у якой Богу спадабалася явіцца і аб'явіць свае таямніцы Ёву. Душа таксама павінна ўзяць у рукі цёмную пасудзіну Гедэона, каб несці ў сваіх руках, гэта значыць у дзеяннях волі, Божае святло, якое ёсць злучэннем у любові, нават калі ўсё гэта адбываецца ў змроку веры, каб пасля, разбіўшы пасудзіну гэтага жыцця — адзіную перашкоду для святла веры, душа ў хвале змагла пабачыць Бога тварам у твар.

5. Нам застаецца толькі больш дэталёва растлумачыць адрозныя веды і паняцці, якія можа атрымаць розум, і тое, якія перашкоды і небяспеку яны могуць учыніць для яго на шляху веры, а таксама, якім чынам душа павінна паводзіць сябе, каб усе гэтыя веды, пачуццёвыя і духоўныя, сталіся для яе карыснымі, а не небяспечнымі.

*Пераклад з іспанскай мовы*
*Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

---

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел VI
## Міласэрная любоў

Можна зразумець, як дасягнуць гэтага, на прасцейшым прыкладзе: паэт-кавалер, прыхільнік раялістаў, выпраўляючыся на вайну, звяртаецца да сваёй каханай:

*«Я не кахаў бы цябе, дарагая, так моцна,*

*Не пакахаўшы гонар мацней»*[1].

Ёсць жанчыны, для якіх гэтыя словы нічога не значаць. «*Гонар*» — яшчэ адна дурная мужчынская адгаворка, спроба апраўдацца, і таму яшчэ горшая здрада «закону любові». Лаўліс[2] жа можа ўпэўнена пра яго гаварыць, бо ягоная каханая таксама на баку раялістаў, і ёй не трэба тлумачыць, што такое абавязак гонару. Паэту не трэба «ненавідзець» і адварочвацца ад яе, таму што абое паслухмяныя аднаму закону. Яны загадзя дамовіліся і зразумелі адно аднаго. Лаўліс не мусіў пераконваць каханую ў неабходнасці паверыць у гонар, калі ўжо неабходна было прыняць рашэнне. Гэтая папярэдняя дамоўленасць вельмі важная, калі нас кліча не гонар, а нешта непараўнальна большае. Калі настане крызіс, позна будзе гаварыць жонцы, мужу, маці або сябру, што вашая любоў заўжды па змоўчанні належала найперш Богу, і вы любілі іх, пакуль гэта дазваляла найвышэйшая Любоў. Неабходна папярэджваць загадзя, вядома ж, не прамым тэкстам, а раз'ясняючы свае прынцыпы ў тысячы размоваў, тысячы рашэнняў па іншых, дробных справах. Нязгоду па гэтым пытанні неабходна выявіць на самым пачатку, каб у такім выпадку наогул не дапусціць сяброўства або жаніцьбы. Найлепшая любоў — не сляпая. Олівер Элтан[3], распавядаючы пра Карлайла і Мілла[4], сказаў, што яны не маглі сысціся ў поглядах на справядлівасць, і гэтая нязгода, натуральна, стала для іх фатальнаю, «як для любога сапраўднага сяброўства». Калі каханы або каханая сур'ёзна лічаць, што «ўсё мусіць быць дзеля любові», і жывуць адпаведна гэтаму прынцыпу, не варта прымаць гэтую любоў, бо яна няправільна суадносіцца з Любоўю, якою ёсць Бог.

Цяпер мы з вамі падышлі да апошняга пралёту крутых сходаў, якія мусіць пераадолець гэтая кніга. Нам неабходна больш цесна, чым дагэтуль, звязаць чалавечыя пачуцці і ўчынкі, якія мы называем праявамі «любові», з самой Любоўю-Богам. Вядома, гэтыя ўдакладненні застаюцца толькі мадэллю, сімваламі, іх мала, каб асвятліць для нас доўгую перспектыву, і нават у ходзе таго, як мы да іх звяртаемся, ім патрэбная папраўка паводле іншых мадэляў. Самы мізэрны чалавек у стане Божай ласкі можа атрымаць досвед *пазнання праз знаёмства, перажыванне, адчуванне*, можа нібы «пакаштаваць» крыху Самой Любові, але нават найвышэйшы і наймудрэйшы святы не здольны напрамую *ведаць* Таго, Які Ёсць. Мы можам толькі выкарыстоўваць аналогіі. Гэтак жа мы не бачым самога святла, але дзякуючы яму наогул можам бачыць. Гаворачы пра Бога, мы выкарыстоўваем паняцці з іншых галінаў ведаў, якія адкрыла нам Боскае святло. Я пачынаю размову з такімі перасцярогамі, таму што далей мае тлумачэнні і спробы выказвацца як мага ясней (і не занадта доўга і нудна) могуць стварыць у чытача памылковае ўражанне, што я цалкам упэўнены ў тым, што кажу. Я быў бы вар'ятам, калі б гэта было так. Лепш успрымаць усё, напісанае ніжэй, як мае роздумы і летуценні, можна сказаць, як мой асабісты міф: калі штосьці з гэтага будзе вам карысна, карыстайцеся гэтым; калі нешта будзе здавацца недарэчным, проста забудзьцеся пра гэта.

Бог ёсць Любоў. І яшчэ: «У тым выявілася любоў, што не мы палюбілі Бога, а Ён сам палюбіў нас» (1 Ян 4, 10). Мы павінны пачынаць не з містыкі, не з любові стварэння да Стварыцеля, не з цудоўнага прадчування Нябеснага Валадарства, бачаннем якога Бог ушанараваў некаторых людзей у зямным жыцці. Трэба пачынаць з сапраўднага пачатку — Любові як выяўлення Божай моцы, энергіі. Гэтая першая і галоўная Любоў — любоў-дар. Бог не мае голаду, які трэба насыціць, а мае толькі паўнату, якою Ён жадае падзяліцца. Дактрына, у якой сцвярджаецца, што ў Бога не было ніякіх патрэбаў ствараць нас, — не сухія схаластычныя выкладкі, яна мае неацэннае значэнне. Без яе нам не пазбегнуць памылковага мыслення пра Бога як пра «менеджара»: Істоту,

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

чыя прырода, функцыя заключаецца ў «кіраванні» сусветам, як дырэктар кіруе школаю, а метрдатэль — гатэлем. Але ў Бога няма патрэбы быць Валадаром свету. У Ім самім, у Яго жыллі ў «краіне Святой Тройцы», Ён з'яўляецца Валадаром нашмат большай і велічнай дзяржавы. Заўсёды памятайма пра відзеж Юліяны Норвіцкай[5], якая ўбачыла ў руцэ Божай нешта дробнае, нібы маленькі арэшак, і гэта быў увесь створаны свет. Бог, які ні ў чым не мае патрэбы, у сваёй любові паклікаў да існавання непатрэбныя стварэнні, каб любіць і ўдасканальваць іх. Ён стварaў сусвет, ужо прадчуваючы (ці, можа, лепш сказаць «адчуваючы», бо для Бога няма часу), як гудзе мушыны рой вакол крыжа; як зраненая спіна прыціскаецца да шурпатага дрэва; як цвікі прабіваюць нервовыя спляценні рук; як не хапае паветра, калі знямоджанае цела дранцвее і правісае; як нясцерпны боль зноў і зноў пранізвае спіну і рукі, калі нарэшце ўдаецца ўздыхнуць. Даруйце мне такую біялагічную метафару, але Бог — як «арганізм-гаспадар», які дабравольна стварыў уласных паразітаў, даў нам жыццё, каб мы маглі сілкавацца Ім, выкарыстоўваць Яго для сябе. Вось гэта — любоў. Вось малюнак Самой Любові, вытоку ўсіх іншых. Бог, Стварыцель усяго прыроднага, уклаў у нашую істоту любоў-дар і любоў-патрэбу. Любоў-дар — натуральны вобраз Яго самога, блізкі Яму паводле падабенства, які не заўжды і не ў кожным чалавеку становіцца блізкасцю праз набліжэнне. Адданая маці, дабрадзейны начальнік, добры настаўнік могуць даваць і даваць, няспынна дэманструючы падабенства, але не набліжаючыся да Бога. Прыродная любоў-патрэба, наколькі я магу судзіць, не падобная да Любові-Бога. Яны суадносяцца як дзве процілеглыя рэчы: не так, як дабро, процілеглае злу, а як жэле на сподачку, процілеглае па абрысах форме, у якой яно застывала.

Аднак у дадатак да натуральных відаў любові Бог адорвае нас нашмат каштоўнейшым дарам або, паколькі наш розум схільны ўсё раскладаць па палічках, лепш сказаць — двума дарамі.

Ён перадае людзям частку ўласнай Любові-дару, адрознай ад натуральнай любові-дару, убудаванай у чалавечую натуру. Натуральная любоў-дар ніколі не жадае дабра ўлюбёнаму чалавеку дзеля яго самога. Кіруючыся ёю, мы схільныя навязваць тое дабро, якім самі можам адарыць, або тое, якога мы жадалі б для сябе, або тое, якое, паводле нашых уяўленняў, будзе карысным для іншага. А Боская Любоў-дар, Сама Любоў, якая дзейнічае ў чалавеку, — зусім не шукае ўласнай карысці і толькі жадае ўлюбёнай асобе самага лепшага. Да таго ж натуральная любоў-дар заўжды скіраваная на асобаў, якіх мы нейкім чынам лічым вартымі любові, да якіх нас прыцягвае прыязнасць або закаханасць, або агульны светапогляд, у крайнім выпадку — на тых, хто заслугоўвае гэтага або можа быць нам удзячны, або тых, чыя безабароннасць кранае і не дае прайсці міма. А Боская Любоў-дар у чалавеку дае яму магчымасць любіць тых, каго проста так палюбіць немагчыма: пракажоных, злачынцаў, ворагаў, крэтынаў, цямцяў-лямцяў, фанабэрыстых і здзеклівых. У рэшце рэшт Бог парадаксальна адорвае чалавека здольнасцю адчуваць Любоў-дар да Яго самога. Вядома, у пэўным сэнсе не існуе нічога, што мы можам ахвяраваць Богу і што ўжо не належала б Яму; а калі ўсё належыць Яму, тады што мы аддаем? Аднак, паколькі мы можам адвярнуцца ад Бога, аддаліцца ад Яго воляю і сэрцам, у гэтым сэнсе мы можам і ахвяраваць іх Яму. Усё тое, што належыць Яму па праве і не магло б ні хвіліны існаваць, калі б не належала Яму (як песня ў вуснах спевака), Ён, аднак жа, зрабіў нашым, так, каб мы маглі дабравольна вярнуць гэта Яму. «Нашая воля ёсць нашаю для таго, каб стаць Тваёю». Да таго ж, як вядома ўсім хрысціянам, ёсць яшчэ адзін спосаб аддаваць Богу любоў: кожны незнаёмец, якога мы накормім ці апранем, — гэта Хрыстус. І гэта, несумненна, праява Любові-дару да Бога, усведамляем мы гэта ці не. Сама Любоў можа дзейнічаць у тых, хто нічога не ведае пра Бога. «Авечкі» з прыпавесці[6] не мелі ніякага паняцця пра Бога, укрытага ў вязні, якога яны наведалі, і пра Бога, укрытага ў іх саміх падчас гэтай сустрэчы. (Я лічу, што ўся гэтая прыпавесць — пра суд над язычнікамі, бо яна пачынаецца са словаў: «Перад Ім сабраныя будуць усе народы», гэта значыць «язычнікі», «*goyim*».)

Кожны згодзіцца, што гэтая Любоў-дар у нас — плён Божай ласкі і павінна называцца міласэрнаю любоўю. Але ў дадатак я мушу падзяліцца думкаю, з якой няпроста будзе згадзіцца. Мне здаецца, Бог дае нам яшчэ два дары: звышнатуральную Любоў-патрэбу ў адносінах да Яго і звышнатуральную Любоў-патрэбу ў адносінах да бліжняга. Любоў-патрэба да Бога — гэта не тое, што любоў ацэнкі да Яго, дар сузіраць, адараваць Яго. Пазней я яшчэ скажу некалькі словаў пра гэты высокі, найвышэйшы дар. Я маю на ўвазе любоў, якая і не прэтэндуе на бескарыслівасць, усведамляючы сваё бяздоннае ўбоства. Як рака, якая сама пракладае сабе ложа, як чароўнае віно, якое, праліваючыся, само стварае для сябе келіх, Бог перамяняе нашую патрэбу ў Ім у Любоў-патрэбу. Яшчэ больш дзівіць, што Ён надзяляе нас звышнатуральнаю здольнасцю ўспрымаць міласэрную любоў ад бліжніх. Патрэба — пачуццё, блізкае да сквапнасці, а мы і так вельмі сквапныя істоты, таму па-

добны дар здзіўляе. Але я не магу выкінуць з галавы думку, што менавіта так усё і адбываецца.

Спачатку паразважайма над дарам звышнатуральнай Любові-патрэбы да Бога, якую мы атрымліваем дзякуючы Ягонай ласцы. Зразумела, Божая ласка не стварае ў нас патрэбу. Яна ўжо ёсць у нас, гэта аксіёма, як кажуць матэматыкі, абумоўленая самім фактам таго, што мы — створаныя істоты, а першародны грэх павялічыў яе ў мноства разоў. Ласка дае нам магчымасць цалкам прызнаць, адчуць, усвядоміць і прыняць (з некаторымі агаворкамі нават радасна прыняць) гэтую патрэбу, таму што без удзелу Божай ласкі нашыя жаданні і нашыя патрэбы знаходзяцца ў канфлікце.

Усе выразы нявартасці і мізэрнасці, якія хрысціянскія вернікі часта ўжываюць, гаворачы пра сябе, успрымаюцца светам як лісліваe прыніжанае скуголенне падхалімаў перад тыранам або, у лепшым выпадку, як устойлівыя фігуры маўлення, за якімі нічога не стаіць, падобна як кодэкс ветлівасці ў Кітаі патрабуе ад чалавека самапрыніжэння, каб ён называў сябе: «гэты неабазнаны невук». Аднак у рэальнасці гэта абсалютна неабходная нам спроба змагацца з памылковым успрыманнем сябе і сваіх адносінаў з Богам, якое няспынна ўзнікае ў нас нават падчас малітвы, бо так падказвае нам прырода. Як толькі мы пачынаем верыць, што Бог любіць нас, дык адразу гатовыя думаць, што Ён нас любіць не таму, што сам з'яўляецца Любоўю, а таму, што мы нечым заслужылі гэтую любоў. Язычнікаў гэта не бянтэжыць, яны заўжды лічылі, што добрага чалавека «любяць багі» за яго цноты. Мы больш вучоныя і спрабуем хітрыць. Мы нават і не думаем, што маем цноты, за якія Бог мог бы палюбіць нас. Але ж пры гэтым якая веліч у нашым пакаянні і пакоры! Баньян так апісваў сваё першае ілюзорнае навяртанне: «Мне здавалася, што няма ў Англіі чалавека, які б здолеў дагадзіць Богу больш, чым я». Пазбаўленыя гэтай ілюзіі, мы жадаем, каб Бог захапіўся нашаю пакораю. Ну сапраўды, *гэта* ж Яму спадабаецца? А калі не, то дакладна спадабаецца нашае пакорнае прызнанне, што пакоры ў нас мала. Такім чынам, у самых глыбокіх глыбінях нашага «я», прыкрытая мноствам тонкіх хітрых заслонаў, тоіцца думка аб нашай уласнай, цалкам нашай прывабнасці. Лёгка бывае прызнаць, але амаль немагчыма захоўваць у сабе ўсведамленне таго, што мы — толькі люстэркі, чый бляск, калі мы блішчым, з'яўляецца толькі адбіткам сонечнага святла, якое нас асвятляе. У нас жа проста павінна быць хаця б крыху ўласнага святла! Не можа быць, каб мы былі *проста* стварэннямі!

Гэтую заблытаную абсурднасць патрэбы, якая існуе ў нас, у тым ліку і любові-патрэбы, што ніколі да канца не прызнае ўласную прыроду, Божая ласка перамяняе так, што мы можам у поўні радасна прыняць сваю патрэбу, усцешыцца ўласнай залежнасцю. Мы становімся «вясёлымі жабракамі». Добры чалавек шкадуе за свае грахі, якія павялічылі ў ім патрэбу, але зусім не шкадуе, што ў ім узнікла гэтая новая патрэба. Таксама яму не балюча за нявінную дзіцячую патрэбу, якая з'яўляецца неад'емнаю часткаю прыроды кожнага стварэння. Увесь час нам не дае быць шчаслівымі ілюзія, за якую ўсімі сіламі чапляецца чалавечая натура, якую беражэ як найдаражэйшы скарб: прэтэнзія на тое, што мы маем ў сабе нейкае ўласнае дабро або здольныя ўласнымі сіламі хаця б гадзіну затрымаць у сабе тое дабро, якім Бог напаўняе нас. Мы падобныя да купальшчыкаў, якія імкнуцца стаяць хаця б на адной назе, хочуць хаця б адным пальцам трымацца за дно, баючыся адарвацца ад яго і аддацца раскошы і моцы хваляў. Калі мы рашымся разлучыцца са сваёю апошняю заяваю на ўласную свабоду і ўладу, і годнасць, то ў выніку атрымаем сапраўдную свабоду, уладу і годнасць, якія папраўдзе стануць нашымі, таму што будуць дадзеныя Богам і таму што мы будзем усведамляць, што ў пэўным сэнсе яны «не нашыя». Святло нарэшце выйдзе з ценю.

Але Бог перамяняе і нашую любоў-патрэбу адно да аднаго, і гэта патрабуе сапраўднай перамены. У рэальным жыцці ўсім нам час ад часу патрэбна і амаль заўсёды патрабуецца ад нас, каб міласэрная любоў, якая з'яўляецца праяваю Самой Любові ў іншых людзях, дапамагала любіць тое, што любові не варта. Нам неабходны гэты від любові, але не яго мы шукаем і прагнем у адносінах да сябе. Мы хочам, каб нас любілі за розум, прыгажосць, адвагу, шчырасць, здольнасці. Лёгкі намёк на тое, што нехта любіць нас міласэрна, гэтаю найвышэйшаю формаю любові, выклікае жудасны шок. Добра вядома, што нядобразычліўцы робяць выгляд, што любяць нас «міласэрна», менавіта таму, што ведаюць, як гэта раніць. Сказаць чалавеку, які чакае ад нас аднаўлення прыязных, сяброўскіх або любоўных адносінаў: «Я табе па-хрысціянску прабачаю» — гэта толькі спосаб працягнуць сварку. Несумненна, тыя, хто гаворыць так, ілгуць. Гэтыя словы, прамоўленыя няшчыра, каб параніць, не маглі б раніць, калі б прамаўляліся праўдзіва.

Прыняць і прымірыцца з тым, што нас любяць любоўю, якая не залежыць ад нашай прывабнасці, вельмі цяжка. Прывяду крайні прыклад. Уявіце, што ў хуткім часе пасля вяселля вас разбіў паралюш ад невылечнай хваробы, якая павольна забівае вас на працягу доўгіх гадоў, пакінуўшы ў поўнай без-

дапаможнасці і нікчэмнасці, і вы ляжыце, выклікаючы адну агіду і прыкрасць. Вы цалкам залежыце ад жончынага клопату, не могучы зарабляць на жыццё, і замест матэрыяльнай падтрымкі пазбаўляеце яе сродкаў на існаванне; ваш інтэлект слабне, вас трасуць прыпадкі некантраляванага шалу, вы не ў сілах пазбавіцца ад пастаяннай патрэбы ў нечым. І ўявіце, што клопат і шкадаванне вашай жонкі бязмежныя і невычэрпныя. Муж, які здолее ласкава іх прымаць, здолее прымаць усё, калі не ў стане нічога даць узамен; муж, які зможа нават устрымацца ад дакучлівага самаганьбавання, за якім насамрэч хаваецца толькі жаданне, каб яго прылашчылі і пераканалі, што ўсё ў парадку, робіць тое, чаго любоў-патрэба ў сваім натуральным стане не можа дасягнуць. (Несумненна, што і жонка ў гэтай сітуацыі робіць тое, што немагчыма для натуральнай любові-дару, але мы цяпер гаворым не пра гэта.) У падобным выпадку прымаць міласэрнасць цяжэй і, магчыма, больш благаслаўлёна, чым даваць. Але прынцып, які мы бачым у гэтым крайнім прыкладзе, з'яўляецца ўніверсальным. Мы ўсе атрымліваем міласэрную любоў. У кожным з нас ёсць нешта, што нельга любіць само па сабе. Ніхто не вінаваты, што не можа палюбіць не вартае любові. Толькі вартае можна палюбіць натуральным чынам. Што датычыць іншага, можна з гэткім жа поспехам прасіць людзей палюбіць заплеснявелы хлеб або гук механічнай дрэлі. Нам можна прабачыць, нас можна пашкадаваць і міласэрна любіць, насуперак не вартым любові рэчам, якія ў нас ёсць, толькі дзякуючы міласэрнай любові і ніяк інакш. Усе, хто мае добрых бацькоў, жонак, мужоў або дзяцей, могуць быць упэўненыя, што час ад часу, а магчыма і заўжды, у тым, што датычыць нейкай адной непрыемнай рысы або звычкі, яны атрымліваюць міласэрную любоў не таму, што вартыя любові, а таму, што ў тых, хто любіць іх, дзейнічае Сама Любоў.

Такім чынам Бог, якога прымае чалавечае сэрца, пераманяе не толькі любоў-дар, але і любоў-патрэбу, не толькі любоў-патрэбу да Яго, але і нашую ўзаемную любоў-патрэбу да іншых людзей. Вядома, можа здарыцца і інакш. Бог можа пажадаць ад нас выканання страшнай місіі, пажадаць, каб мы цалкам адмовіліся ад патрабаванняў натуральнай любові. Высокае і страшнае пакліканне, падобнае да Абрагамавага, можа змусіць чалавека павярнуцца спінаю да ўласнага народа і бацькоўскага дома. Магчыма, давядзецца ахвяраваць закаханасцю, якую мы адчуваем да асобы, якую нам нельга кахаць. Праз гэта цяжка прайсці, але саму неабходнасць можна лёгка зразумець. Цяжка бывае ўбачыць, што перамена патрэбная і тады, калі натуральная любоў сама па сабе добрая і дазволеная.

У гэтай перамене Боская любоў не *замяняе* натуральную, нам не трэба пазбаўляцца ад срэбра, каб вызваліць месца для золата. Натуральныя віды любові пакліканыя прыпадобніцца да міласэрнай любові Божай, але ў той жа час заставацца самімі сабою.

Некаторыя могуць убачыць у гэтым рэха або адгалосак ці вынік самога Уцелаўлення. Гэта не дзівіць, бо Аўтар у абодвух з'яваў адзіны. Хрыстус — дасканалы Бог і дасканалы Чалавек, і натуральныя віды любові пакліканыя стаць дасканалаю міласэрнаю любоўю і давесці да дасканаласці ўласную натуру. Бог становіцца чалавекам, «не ператвараючы Боскае ў цялеснае, а ўбіраючы чалавечае ў Боскасць». Гэтак і тут: міласэрная любоў не праяўляецца ў адной толькі натуральнай любові, а ўзнімае і ўбірае ў сябе натуральную любоў, становячыся настроеным інструментам, падуладным Самой Любові.

Як гэта можа адбывацца, ведае большасць хрысціянаў. Кожны ўчынак, зроблены з натуральнай любові (апроч граху) у адпаведны час становіцца справаю радаснай, адкрытай і ўдзячнай любові-патрэбы або бескарыслівай і ненавязлівай любові-дару, а абедзве яны з'яўляюцца праявамі міласэрнай любові. Нішто не можа быць занадта банальным і дробным ці занадта жывёльным для падобнай перамены. Гульня, жарт, вечар, каб разам выпіць па кілішку, звычайная гутарка, шпацыр, пацалунак або інтымны акт могуць стаць спосабам, якім мы прабачаем або прымаем прабачэнне, «не шукаючы свайго». Такім чынам у саміх нашых інстынктах, жаданнях і забавах Бог-Любоў рыхтуе «цела» для сябе самога.

Але я сказаў: «у адпаведны час». Гадзіны хутка прамінаюць. Поўная і бяспечная перамена натуральнай любові ў праяву міласэрнай любові — такі складаны і карпатлівы працэс, што чалавек з ягонаю грэшнаю прыродаю не здольны, напэўна, нават наблізіцца да гэтага ідэалу. Аднак Божы закон няўмольна сцвярджае, што так павінна адбывацца.

[1] З верша Р. Лавліса «Лукасце, ідучы на вайну» (1649).
[2] Рышард Лавліс (Richard Lovelace, 1617–1657) — англійскі паэт-кавалер, раяліст, прыхільнік караля Карла I, які выступаў на ягоным баку.
[3] Олівер Элтан (Oliver Elton, 1861–1945) — англійскі літаратурны крытык, біёграф і перакладчык, прафесар Ліверпульскага ўніверсітэта.
[4] Томас Карлайл (Thomas Carlyle, 1795–1881) — англійскі гісторык; Джон Мілл (John Mill, 1806–1873) — англійскі філосаф.
[5] Юліяна Норвіцкая (Julian of Norwich, 1343–1420) — англійская містычка, пісьменніца, якая апісала свае відзежы ў кнізе «Аб'яўленні Боскай любові» (Revelations of Divine Love).
[6] Мц 25, 31-36.

*Пераклад з англійскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The four loves»,*
*C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

# «Адкуль у іх былі сілы?»



Адам Стыка, «Мучаніцы з Наваградка», 1948 г.

Лагоднасць — адна з найбольш чароўных духоўных цнотаў чалавека, адно з васьмі благаслаўленняў. Яе цяжка дасягнуць, і пры гэтым яна часта церпіць нападкі. Не таму, што яна штосьці хавае. Не, не хавае, але абуджае. Адбірае ўпэўненасць у занадта ўпэўненых, а перад мыслярамі ставіць яшчэ больш пытанняў. Абуджае. Гэта добрае слова. Пасляваенныя назарэтанкі ў сваім сямейным жыццяпісе даюць апісанне мучаніцтва сясцёр з Наваградка. Адам Стыка намаляваў у 1948 г. у Філадэльфіі абраз, рэпрадукцыі якога абляцелі ўвесь свет. Творчае бачанне мастака задавольвала ўяўленне многіх пакаленняў. Світанак, яма, жоўты пясок, крыж паміж ка́тамі і ахвярамі. Бесчалавечнасць карнікаў і звышчалавечая сіла ў постацях асуджаных.

Нядрэнную копію абраза наваградскіх мучаніцаў Стыкі я ўпершыню ўбачыла, калі была ў навіцыяце ў назарэтанак у Астшэшаве, дзе знаходзілася як кандыдатка да ўступлення ў супольнасць. Не памятаю, каб абраз зрабіў на мяне нейкае духоўнае ўражанне: я адчула толькі злосць на «злога немца», літаратурны стэрэатып якога аўтаматычна аднавіўся ў галаве выпускніцы. Толькі з цягам часу прыходзіла разуменне таго, што не пра немца тут гаворка, і з часам нараджалася пытанне: а пра што тут увогуле? Іншая версія наваградскай гісторыі, беатыфікацыйная, пэндзля Ежы Кумаля (Кракаў, 1998) адпавядае рэаліям гэтага працэсу. На крылах вэлюму, на хмарах, над фараю — мучаніцы ў славе! Стэла, пуцяводная зорка супольнасці, з даверам і моцаю вядзе сваіх сясцёр, ды ўжо не на пакуты, але ў ззянне Уваскрасення. «Адкуль у іх былі сілы, каб ахвяраваць сабою ўзамен на ўратаванне жыцця зняволеных жыхароў Наваградка?» — пытаўся Святы Айцец у час іх беатыфікацыі. Адкуль яны чэрпалі адвагу, каб у супакоі прыняць гэты люты і несправядлівы смяротны прысуд? Пытанне намесніка Хрыста на плошчы св. Пятра прагучала з пакораю і было глыбока чалавечным. Адкуль гэтая сіла, каб згадзіцца на маўчанне? Як можна перамагчы страх перад цішынёю забыцця і не засумнявацца ў вечнай памяці Бога, калі ўсё падштурхоўвае засумнявацца, ці існуе Ён наогул?

У Наваградку 1 жніўня 1943 года загінула амаль уся супольнасць назарэтанак, далёкая ад найбліжэйшых дамоў кангрэга-

цыі на ўсходзе, такіх як дамы ў Гродне, Вільні, Львове. Згодна з парадаю сястры Стэлы, настаяцельніцы, да адзінаццаці выкліканых у камісарыят сясцёр не далучылася дванаццатая сястра — Малгажата. Яна працавала ў шпіталі, у свецкім адзенні, таму яе абыходзіла «ўвага» гестапаўцаў. Хіба ўжо тады, у прароцкім прадчуванні сястры Стэлы, яна стала тою, якую выбраў Бог, каб у свой час яна была Яго голасам у імя тых, хто спіць у супакоі? Пытанні Папы і нашыя пытанні, справакаваныя смерцю мучаніцаў з Наваградка, часам невымоўныя і больш адносяцца да жыцця, чым да смерці. Кожная смерць, як бы парадаксальна гэта ні гучала, — гэта плод жыцця. Ласка мучаніцкай смерці — гэта дар, які немагчыма заслужыць. Яна даецца задарма, аднак ёй патрэбны асяродак, дзе яе прымуць і рэалізуюць. Мудрасць, якая з'яўляецца плодам чалавечай сталасці, і вера, якая парадкуе чалавечыя адносіны, і ёсць тым асяродкам. У дачыненні да наваградскіх назарэтанак былі выкананы ўсе ўмовы беатыфікацыйнага працэсу, каб яны атрымалі званне мучаніцаў. Яны жылі вераю і для ўсіх былі носьбітамі хрысціянскіх каштоўнасцяў, якія знішчаліся паводле гітлераўскіх планаў. Яны не ўдзельнічалі ні ў якой палітычнай ці падпольнай працы. Яны не дзялілі людзей на сваіх і на ворагаў. Затое дзяліліся ўсім, што мелі: хлебам і малітваю, штодзённа рэалізуючы запаведзь любові. Калі маланка арыштаў ударыла ў наваградскія сем'і і наступным павінен быў пацярпець апошні святар, яны звярнуліся да здаровага сэнсу. «Мой Божа, калі патрэбная ахвяра жыцця, няхай лепш расстраляюць нас, чым тых, у каго ёсць сем'і»... І далей: «Ксёндз патрэбны больш, чым мы», — робіць мудрую выснову сястра Стэла ад свайго імя і імя








Памятныя мерапрыемствы да 75-годдзя мучаніцкай смерці адзінаццаці благаслаўлёных сясцёр назарэтанак на месцы расстрэлу ў лесе каля Наваградка. 28.08.2018 г. Фота В. Палінеўскага.

супольнасці. Кранальныя разважанні Стэлы перад Богам — гэта нават не малітва. Гэта разважанні любові, супольнае рашэнне ў сітуацыі, калі трэба было дзейнічаць. «Трэба выбраць найменшыя страты», — рашаецца сказаць сястра, якая жыла на ўзор Найсвяцейшай Сям'і, як яе называлі, «мама» навагрудскай моладзі. Кангрэгацыя захоўвае ў сваіх архівах інфармацыю і ўспаміны пра кожную з мучаніцаў. Старэйшай было 55, а малодшай — 27 гадоў. Чатыры з іх яшчэ не прынялі вечных манаскіх абяцанняў. У трох сясцёр была педагагічная і настаўніцкая падрыхтоўка. Каля некалькіх прозвішчаў пазначана: «Не атрымала ніякай прафесіі». Сёстры з Навагрудка не былі нейкімі незвычайнымі. Яны ўтваралі звычайную супольнасць, падобную да многіх іншых. Сустрэўшы цвёрдае непрыманне з боку шматрэлігійнага насельніцтва Навагрудка, яны прайшлі выпрабаванне: сёстры адчынілі інтэрнат для моладзі, пасля — агульнаадукацыйную школу, і пачалі працаваць у «Міцкевічавай» фары.




Рэлíквіі благаслаўлёных сясцёр мучаніцаў у Навагрудскім санктуарыі.

Сёстры жылі з працы сваіх рук, даглядалі вялікі сад, мелі гаспадарку. Будучыя мучаніцы ведалі кошт штодзённым добрым учынкам, нягледзячы на цяжкасці. Яны жылі пад адным дахам, елі агульны хлеб, адрозніваліся толькі характарамі і абавязкамі. Былі сярод іх мацнейшыя фізічна, але былі і хворыя. Падобныя да нас, але іншыя. Тое, што іх адрознівае і чаго яны дасягнулі ў вялікай ступені, — гэта еднасць у найважнейшых справах. Адзінадушнасць у апошнім выбары і разуменні сапраўдных каштоўнасцяў утрымала іх разам да канца... да сораму стольках «святых», якія растрачваюць свой і чужы час на змаганне за другасныя рэчы. Беатыфікацыя адзінаццаці сясцёр — падзея, якая выклікае рэзананс на некалькіх узроўнях: нацыянальным, касцёльным, асабістым. Давяраючы да канца Вечнай Любові, гэтыя веруючыя жанчыны сцішыліся перад Богам да мяжы свайго знішчэння. Яны аддаліся найперш Яго міласэрнай волі, а пасля з годнасцю пайшлі пад агонь куляў. Яны прабачылі ка́там яшчэ перад тым як ахвяравалі сабою. Такім глыбокім было іх разуменне чалавека, які часта не ведае, што робіць, такою неабсяжнаю была іх свабода. Яны паміралі на каленях, са складзенымі рукамі. 5 сакавіка 2000 года ў Сталіцы сталіцаў, у Рыме, была абвешчана слава беларускага Касцёла. Акропленыя мучаніцкаю смерцю, ён абуджаўся ў чарговы раз. Спяваў. 5 сакавіка 2000 года радасна святкавалі і ўсе назарэтанкі. Вобраз іх сучасных супольнасцяў адбіўся і ў благаслаўлёнай супольнасці з Навагрудка — найлепшай спадчыне ўсёй кангрэгацыі, як сказаў Папа. 5 сакавіка 2000 года шмат людзей пачула, што святасць — гэта натуральнае імкненне душы кожнага чалавека і яе самай глыбіннай сутнасці. Адкуль яны бралі сілы? І адкуль мы павінны браць сілы для выхавання саміх сябе? Сілы, або здольнасць, або ласку дае Бог. Больш за тое, Ён сам з'яўляецца сілаю, і Ён робіць так, што мы можам бясконца аддаваць саміх сябе. Шляхам служэння ў штодзённасці ажно да апошняга акорду — ахвяравання свайго жыцця.

*Сястра Бажэна Анна Фляк CSFN.*
*Пераклад з польскай мовы*
*Вольгі Качалкі.*

**Бажэна Анна Фляк CSFN** — сястра назарэтанка, вядомая польская паэтка. Нарадзілася ў 1950 годзе ў Сачыне, недалёка ад Каліша (Польшча). Пасля заканчэння ліцэя ў Калішы ўступіла ў Кангрэгацыю сясцёр Святой Сям'і з Назарэта. У Люблінскім каталіцкім універсітэце вывучала паланістыку і тэалогію. Пасля заканчэння ўніверсітэта выкладала польскую літаратуру і мову ў прыватным ліцэі назарэтанак у Варшаве. У ЗША атрымала адукацыю ў сферы душпастырскага служэння. У 1992–1998 гг. была настаяцельніцаю Варшаўскай правінцыі сясцёр назарэтанак, да якой у той час адносіліся таксама назарэтанскія супольнасці Беларусі. На працягу 9 гадоў была асістэнткаю генеральнай настаяцельніцы назарэтанскай кангрэгацыі ў Рыме. Сябра Саюзу польскіх пісьменнікаў у замежжы, аўтарка васьмі кніг прозы і паэзіі. Жыве ў Лондане.

# «Гэта вельмі важны для мяне артыкул...»

Артыкул Арсеня Сяргеевіча Ліса «Аб менталітэце беларуса: на матэрыяле парэмій» быў перададзены мне аўтарам яшчэ ў 2015 г. у сувязі з праведзеным тады VI Міжнародным кангрэсам беларусістаў для публікацый у зборніку матэрыялаў кангрэса. Мною тады быў арганізаваны тэматычны блок, прысвечаны мемуарнай літаратуры, а паколькі ў друку ўжо з'яўляліся вельмі цікавыя фрагменты ўспамінаў Арсеня Сяргеевіча, мне вельмі хацелася, каб і ён — наш найаўтарытэтнейшы і найвыбітнейшы даследчык, добры дарадчык і старэйшы сябра ледзьве не ўсіх творчых асобаў з майго пакалення, працамі якога мы зачытваліся і на якіх узрасталі як навукоўцы, — далучыўся да гэтага блоку, узмацніў яго навуковы і дыскусійны патэнцыял. Арсень Сяргеевіч, як заўсёды, падтрымаў маю ідэю, падзякаваў за запрашэнне і папрасіў залучыць яго ў дыскутанты. Стан здароўя ўжо на той час не дазволіў яму прыняць непасрэдны ўдзел у працы кангрэса, але ў тэлефонных размовах ён цікавіўся тым, як праходзіў кангрэс, як быў успрыняты тэматычны блок, прысвечаны мемуарыстыцы, што было найцікавейшага і новага. Ён паабяцаў даць для матэрыялаў кангрэса артыкул, над якім толькі што закончыў працу і лічыў вельмі важным для разумення спецыфікі менталітэту беларусаў. Неўзабаве я і атрымала ад яго артыкул «Аб менталітэце беларуса: на матэрыяле парэмій», аднак выданне матэрыялаў кангрэса адкладвалася...

Канец траўня гэтага года прынёс горкую вестку — Арсень Сяргеевіч адышоў у вечнасць. Толькі за тыдзень да гэтага ён званіў мне і, як заўсёды, у сардэчнай размове пытаўся пра справы, пра навіны навуковага і літаратурнага жыцця, цікавіўся творчымі планамі. Я, як заўсёды, была ўдзячная Арсеню Сяргеевічу за гэтую шчырую цікавасць, за падтрымку, за слушныя парады і настаўленні. Хацелася дзяліцца з ім сваімі думкамі і раіцца, слухаць ягоны ціхі, поўны чуласці і спагады голас — голас Настаўніка, Дарадцы і Сябра. Пасля размоваў з ім, здавалася, выраcталі крылы, адкрываліся далягляды, з'яўляўся гарт для новых навуковых пошукаў. У той апошняй размове Арсень Сяргеевіч павіншаваў мяне з выхадам кнігі вершаў Габрыэлі Пузыні ў маім перакладзе, якая акурат перад гэтым пабачыла свет у выдавецтве «Про Хрысто». Я паабяцала перадаць яму кнігу, як толькі вазьму ў выдавецтве асобнікі, і мы яшчэ пагаварылі пра верагоднасць таго, што, па маёй версіі, Габрыэля Пузыня магла быць аўтаркаю беларускай паэмы «Мачаха». Арсень Сяргеевіч распытваў пра мае аргументы, лічыў іх слушнымі і раіў працягваць пошук.

У канцы размовы ён запытаўся пра лёс свайго артыкула, які даўно аддаў для друку, і пасля паўзы з сумам дадаў: «Я хацеў бы пабачыць яго надрукаваным яшчэ пры жыцці... Гэта вельмі важны для мяне артыкул...» Мне давялося бездапаможна апраўдвацца за нашу паважаную Міжнародную асацыяцыю беларусістаў і тлумачыць, што не па маёй віне (хоць, можа, часткова і па маёй таксама) выданне матэрыялаў кангрэса затрымліваецца, і я паабяцала, што з восені неадкладна займуся гэтым пытаннем разам з калегамі, каб выдаць урэшце той зборнік матэрыялаў. Арсень Сяргеевіч на гэта ціха сказаў: «Буду вельмі ўдзячны...»

Вельмі маркотна мне, што не паспела я выканаць свайго абяцання, як не паспела перадаць і кнігу вершаў Габрыэлі Пузыні... Спадзяюся, што не меў Арсень Сяргеевіч на мяне за тое крыўды, што здольны быў на разуменне і прабачэнне, бо меў вялікае сэрца, поўнае любові да нас, маладзейшых калегаў, імпэтных у сваіх памкненнях і абяцаннях, спраўдзіць якія, на жаль, не заўсёды паспяваем. Шчыра перапрашаю за тое дарагога Арсеня Сяргеевіча, лагодны і добразычлівы позірк якога адчуваю адтуль, з нябёснай вышыні. Упэўнена, што Арсень Сяргеевіч не стаў бы пярэчыць магчымасці апублікаваць свой артыкул у часопісе «Наша вера», зацікаўленым і ўдзячным чытачом якога з'яўляўся і існаванне якога лічыў вельмі важным у інтэлектуальнай прасторы сучаснай Беларусі, тым больш, што гэта не замінае публікацыі артыкула і ў тым зборніку, для якога ён прызначаўся, бо сапраўды гэта вельмі важны для ўсіх нас артыкул...

*Ірына Багдановіч*



Фалькларысты і літаратуразнаўцы Арсень Ліс, Іван Цішчанка, Алесь Яскевіч, Алесь Адамовіч, Мікола Прашковіч. Мінск, 1971 г.

Арсень Ліс

# АБ МЕНТАЛІТЭЦЕ БЕЛАРУСА: НА МАТЭРЫЯЛЕ ПАРЭМІЙ

Слова «менталітэт», вытворнае «ментальнасць», паходзіць ад лацінскага «mens» — розум, вобраз мыслення, душэўны склад чалавека, групы соцыуму, этнічнай супольнасці. Філасофскае азначэнне менталітэту мае на ўвазе «глыбінны ўзровень калектыўнай і індывідуальнай свядомасці, які ўключае і бессвядомае»[1]. Ментальнасць, паводле У. П. Візгіна, фарміруецца ў залежнасці ад традыцый культуры, сацыяльных структур і ўсяго асяроддзя жыццядзейнасці чалавека і сама ў свой чарод іх фарміруе, выступаючы як спараджальны пачатак»[2].

Навуковае асэнсаванне менталітэту прадугледжвае пазнанне чалавека ў яго духоўнай, сацыяльнай, грамадскай сутнасці. Менталітэт этнасу, такім чынам, гэта — сістэма суджэнняў народа пра свет, анталагічныя праблемы быцця чалавека як прадстаўніка этнічнай супольнасці.

Структура менталітэту ўлучае цэлы шэраг паняційных сэнсаў-складнікаў. Іх можна класіфікаваць паводле філасофскіх, маральна-этычных катэгорый. З улікам жа таго, што гэтыя шырокія катэгарыяльныя паняцці дыферэнцуюцца на семантычна вузейшыя сэнсавыя адзінкі, іх мэтазгодна разглядаць паводле апошніх. У структуры этнічнага менталітэту існуе пэўная іерархія яго паняційных складнікаў, каштоўнасных ментальных катэгорый; практычна яна мае агульную схему ў розных этнічных менталітэтах, паколькі градацыя ментальных адзінак грунтуецца паводле каштоўнасных іх параметраў. Натуральна, на першы план вылучаюцца найбольш экзістэнцыйна важныя паняцці-катэгорыі.

«Найбольш усеагульнай ідэяй вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, — піша філосаф, вядомы беларусазнаўца У. М. Конан, — яе пафасам з'яўляецца пошук праўды, якая ў народным уяўленні была ідэалам, сэнсам жыцця і адначасова ўвасаблялася ў пачуццёвы вобраз»[3]. Тэзіс аб прыярытэце паняцця праўды, праўдзівасці ў іерархічнай структуры менталітэту беларуса традыцыйнага грамадства паслядоўна пацвярджаецца зводам парэмій.

Прыказкай «на праўдзе свет стаіць» у форме маральнага імператыву выказана дамінантная пазіцыя светаразумення традыцыйнага беларуса, адначасова — ментальная ўстаноўка этнасу[4]. У беларускай прыказкава-прымаўкавай спадчыне асэнсоўваецца метафарычная прырода паняцця «праўда». У народнай свядомасці катэгорыя «праўда» — суб'ект існага, сапраўднага ў жыцці. Яна існуе аб'ектыўна: «Не чалавек родзіць праўду, праўда сама нараджаецца» (Янк., 155). Прыказкай «праўда на агні не гарыць і ў вадзе не тоне» метафарычна трапна сцвярджаецца моц праўды як катэгорыі быцця, яе адвечнасць, незнішчальнасць[5].

Фундаментальнасць, неадольнасць праўды-справядлівасці ў субстанцыйнай яе іпастасі — сталая тэма народнай афарыстыкі. «Праўду не закапаеш (не схаваеш)» (Янк., 156), «праўда наверх выйдзе» (F., 246), «праўда няпраўду перацягне» (Рап., 238). Этнічная ментальнасць беларуса дэманструе катэгарычнае непрыманне няпраўды: «Лепш праўда спаліць, чым ліха пахваліць» (Янк., 110), «Лепей горкая праўда, як салодкая мана» (Рап., 235). Праўда, праўдзівасць чалавека — крытэрый яго існасці, сумленнасці, грамадскай вартасці. Адсутнасць праўды, шчырасці ў характары, паводзінах чалавека — маркер негатыўнай ацэнкі яго народам. Народная свядомасць знаходзіць трапнае яскрава-вобразнае пазнанне-азначэнне няпраўдзівасці чалавека: «Як з каменя вады, так з яго праўды» (F., 246). Павучальна выказваецца катэгарычная засцярога-парада: «Згубіўшы праўду і сам прападзеш»[6].

Наогул беларускія парэміі абсалютна адназначна арыентуюць на праўду як адзіна годны, апраўданы шлях чалавека ў яго зямным бытаванні: «З праўдаю найдалей зайдзеш», «Праўдаю ўсей свет пройдзеш і назад вернешся» (F., 246, 247), «Праўда з дна марскога вынесе» (Рап., 238). Праўдзе як увасабленню праўдзівасці, сапраўднасці няма альтэрнатывы. Яна наўпрост апазіцыйная падману, ад якога народная свядомасць засцерагае чалавека катэгарычным імператывам: «Падманам свет пройдзеш, але назад не вернешся» (Грынбл., 2, 313). Разам з тым сацыяльны і, пэўна, не ў меншай ступені гістарычны досвед народа насуперак максіме «на праўдзе свет стаіць» падказваў выснову-ісціну іншага зместу: «Чыя сіла, таго і праўда» (F., 277).

У прынцыпе бальшыня ўстановак беларускага

этнічнага менталітэту суадносная з маральна-этычным кодэксам народа, сістэмным у сваёй аснове. У пераважнай бальшыні яны маюць агульначалавечы быційны сэнс, гуманістычную скіраванасць, адметныя адно сваім беларускамоўным паэтычна-вобразным афармленнем. Так, уведзеная ў навуковы ўжытак І. І. Насовічам беларуская максіма «што сабе не міла, таго і другому не зыч» у часовым вымярэнні ўзыходзіць, пэўна, да эпохі Старога Запавету, або Нагорнай пропаведзі Хрыста[7]. Яе ж сэнсавая глыбіня, дыдактычная прагматыка раскрываюцца праз метафорыку ў прыказцы «Не капай на чалавека яму — сам упадзеш»[8], або ў яе варыянце: «Не капай яму другому, бо сам уваліш-ся» (Рап., 202). Дарэчы, прыведзеная тут прыказка вылучаецца ранняй, 1517 год, яе фіксацыяй у пісьмовай крыніцы. Францыск Скарына ў прадмове да перакладзенай ім кнігі Святога Пісання «Эсфір» інтэрпрэтаваў дадзеную ісціну ў дачыненні да біблейскага персанажа Амана:

*Не копай под другом яму,*
*Сам ввалишся в ню*

*Не став, Амане, Мардухею шибенице,*
*Сам повиснеш на ней*[9].

Беларускі першадрукар, славуты асветнік-гуманіст, філосаф, дбаючы пра «посполитое доброе», грамадскае дабро, рупіўся «людям посполитым... к пожитку и ко размножению добрых обычаев» даць плён мудрасці святых кніг. У сваіх прадмовах і пасляслоўях да Бібліі, перакладзенай на старабеларускую мову, ён удзяліў вялікую ўвагу маралі, праву, распаўсюджанню гістарычных ведаў. У сваёй асветніцкай дзейнасці абапіраўся на айцоў хрысціянскай Царквы, антычных філосафаў ды на традыцыйную духоўную культуру ўласнага этнасу. Пры гэтым у жыцці, служэнні грамадству, тытанічнай працы асветніка яскрава выявіўся менталітэт беларуса-ліцвіна эпохі высокага еўрапейскага Адраджэння.

Прыказкі «Жыццё пражыць — не поле перайсці», «Паміраць збірайся, а жыта сей» — дзве філасофскія мініяцюры экзістэнцыяльнага сэнсу. Як і многія іншыя парэміі, яны маюць некалькі паасобнікаў. Прыказка «Жытку пражыць — не поле перайсці» мае абсалютна тоесны сэнс у палескім дыялектным варыянце, зафіксаваным А.Сержпутоўскім[10].

У публікацыі Е. Раманава ў гэтай жа прыказцы заходняя лексема «жыццё» заменена на лексему «век» у разуменні «чалавечы век»: «Век пражыць — не поле перайціць, не пальцам пераківаць»[11]. І ў запісе Я. Рапановіча: «Век пражыць — не поле перайсці» (Рап., 162). Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў абедзвюх частках прыказкавай структуры, пададзеных А. Сержпутоўскім і Я. Рапановічам, — аднолькавая колькасць націскных складоў. Гэта прыдало прыказкавай мініяцюры рытмічна-паэтычную гармонію, у канчатковым выглядзе — роздумную інтанацыю гучання, што цалкам адпавядае зместу філасофскага па сутнасці фальклорнага твора.

Што да іншых варыянтаў прааналізаванай парэміі, такіх як «Жыццё пражыць — не песеньку спець» (Янк., 187), «Жыццё пражыць — не лапці сплесці» (Рап., 164), «Жытку пражыць — не люльку выкурыць» (Сержп., 70), то яны маюць розныя семантычныя адценні, але, мабыць, не дасягаюць той сэнсавай ёмістасці і дасканалай мастацкай выразнай формы, як парэмія «Жыццё пражыць — не поле перайсці». І гэта адбылося не таму, што паняцце «поле» семантычна шырэй, а таму, што ў фальклоры яно мае не толькі прамы, але і пераносны сэнс, зыходны з міфапаэтычнай генетычнай асновы традыцыйнай свядомасці.

Парэмія «Паміраць збірайся, а жыта сей» — жыццесцвярджальная паводле ідэі, анталагічная зместам, моцная заключаным у сабе сацыяльным аптымізмам. Філасофскі сілагізм, выснаваны ў выяве-абразку з дапамогай вобразнага кампанента «жыта», што для беларускага земляроба ўвасабляе хлеб, а ў традыцыйнай культуры мае семантыку сімвала жыцця. Наказ чалавеку пры самай скрутнай перспектыве не пераставаць рабіць асноўнае, выконваць свой абавязак паўтарае парэмія, аналаг прыведзенай — «На вайну ідзі, а поле ары» (Сержп., 235).

Характэрна, што парэмія «Не капай перад іншым ямы...» мела прамыя аналагі ў культуры ледзь не ўсяго еўрапейскага рэгіёна, прынамсі, зафіксавана ў зборніках парэміёлагаў Саламона Рыпінскага, Амоса Каменскага, але прыказка «Паміраць збірайся, а жыта сей» пры яе агульначалавечай культурнай сэнсавай значнасці мае больш вузкі, лакальны арэал бытавання.

Ва ўсіх жанрах традыцыйнай культуры беларускага этнасу вылучаюцца, сцвярджаюцца, акцэнтуюцца перадусім такія рысы чалавечага характару, як разумнасць, маральнасць, працавітасць. У парэміях вобразнай выявы чалавека разумнага (homo sapiens), дасканалага (homo minis) увасоблены характар, светапогляд, менталітэт беларуса з выразнай паўнатой і пластычнасцю, а з-за афарыстычнай формы — яшчэ і нагляднай бачнасцю, пазнавальнасцю.

Калі ўявіць ментальнасць традыцыйнага беларуса цэласнай структурай, выяўленай у пэўных контурах, то асноведдзю яе бачацца перадусім дзве максімы: «На праўдзе свет стаіць» (Г., 246), «Спагадай свет трымаецца» (Грынбл., 1, 371). Яны маюць, як і шмат іншых канстантаў, глыбока гуманістычную сэнсавую скіраванасць і наўпрост выражаюць агульную пазітыўную прыроду этнічнага менталітэту, які, натуральна, не вызначаецца аднаскладовай характарыстыкай. Накрэсліць ментальны профіль прадстаўніка традыцыйнага беларускага грамадства, беручы шырэй, беларускі менталітэт — гэта значыць падагульніць асноўныя характарыстыкі, ментальныя апорныя этнасу, з ахопам істотных рысаў яго светапогляду, філасофіі быцця. Практычна менталітэт кожнага этнасу вывучаецца на часавым узроўні фарміравання народнасці, пры гэтым усведамляецца, што ментальныя яго складнікі маюць глыбокія карані ў гісторыі.

Менталітэт традыцыйнага беларуса апрыёры мае нямала агульнага з менталітэтам прадстаўнікоў іншых народаў, перадусім суседзяў. Задача даследчыка палягае на тым, каб выявіць яго сутнасць і этнічную спецыфіку. Большасць ментальных установак, што вызначаюць менталітэт беларуса, грунтуецца на сацыяльным і гістарычным вопыте. На падставе шматвяковай сацыяльнай практыкі этнасу ў парэміях непасрэдна фарміруецца філасофская сентэнцыя шляхам вобразнага абагульнення, метафарызацыі думкі. «Што пасееш, то і пажнеш» (Н., 189), — чуў традыцыйны беларус ад дзеда-прадзеда. Паняцце «сяўба» мае вельмі шырокае семантычнае поле, ёмісты вобразны сэнс для філасофскага абагульнення. Канстанта «пільнуй(ся) таго, з чаго хлеб ясі» пры ўсёй яе агульначалавечай функцыянальна-сэнсавай скіраванасці, а не толькі з лексічнай адметнасці, мае выразную этнічную афарбоўку. Ад гэтага ёмістага дыдактычнага прынцыпу ў этнічным космасе разбудоўваецца канцэптуальны погляд на быццё чалавека: «Ад дабра дабра не шукай» (Сержп., 312). Праз засцярогу перад гардыняй, самаўпэўненасцю ідзе арыентацыя на сярэдзіннасць. Часам народным мудраслоўем яна выказваецца прама, непасрэдна: «Наперад не вытыкайся, пазаду не заставайся, сярэдзіны трымайся — будзеш цалейшы» (Ляц., 23). Без сумневу, этнічная ментальная ўстаноўка чуецца ў перасцярозе «Не ўздымайся ў жыцці высока, каб не ўпасці глыбока» (Сержп., 159). Нарэшце, на завяршэнне адной з канцэптуальных парадаў адносна быцця чалавека, сказана абачліва, рацыянальна, амаль прагнастычна: «Ад торбы і турмы не заракайся» (Янк., 246). Адметна, што гэта канстанта ў беларускім парэміялагічным фондзе мае расшыранае семантычнае поле: «Хваробы не бойся, астрогу сцеражыся, а торбы не цурайся» (Янк., 258).

Наогул жа можна, да таго ёсць усе падставы, сцвярджаць, што корпус парэмій кожнага этнасу паасобку ўключае больш за палову мудраслоўяў, уласцівых творчасці іншых народаў. Выказаныя ў іх ісціны, эквівалентныя па сутнасці, адрозніваюцца адно метафарычна-вобразным мысленнем, мовай розных этнасаў. Гэты факт, аднак, не выключае, што агульнавядомыя максімы не ёсць вынікам духоўна-інтэлектуальнага жыцця канкрэтнага народа, элементамі яго ментальнасці. Так, напрыклад, бясспрэчна агульначалавечы філасофска-быційны сэнс заключаюць у сабе прыказкі: «Што пасееш, то і пажнеш» (Янк., 105); «Хто пытае, той не блудзіць» (Рап., 183); «Згода будуе, нязгода руйнуе» (Янк., 62); «Як гукнеш, так і адгукнецца» (Н., 194); «Слухай людзей і свой розум мей» (Грынбл., 2, 448).

Ментальны профіль беларуса — прадстаўніка традыцыйнага грамадства — адметна пазначаюць сентэнцыі ў форме парэмій: «Лепш быць пакрыўджаным, ніж каго скрыўдзіць» (Р., 158); «Свет вялікі, усе памесцімся» (Рап., 169); «Шануй людзей, то і цябе шанавацьмуць» (Р., 64); «Хто чужога не шануе, той свайго мець не будзе» (Акс, 113); «Сам жыві і другім давай жыць» (Сержп., 70). Мудрасць, угрунтаваную на гуманістычным пачатку і чалавечай дабрыні, заключае ў сабе ментальная ўстаноўка «І благому рабі добра, дык апамятаецца» (Рап., 249).

Натуральна, не самі гэтыя і да іх зместава падобныя сілагізмы, а жыццёвая практыка этнасу, яго светапоглядная пазіцыя прычыніліся да фарміравання не толькі ў абыдзённай свядомасці думкі аб талерантнасці беларусаў. Аб'ектыўна ёсць падставы для такой высокай ментальнай характарыстыкі, трывала замацаванай у публіцыстыцы, але, як і ўсякую з'яву, рэальнасць, існасць яе наўрад варта абсалютызаваць.

Менталітэт этнасу — паняцце шматаспектнае, структурна неаднамернае, уключае багата розных складнікаў-сэнсаў. Стрыманасць, асцярожнасць у характары традыцыйнага беларуса ўвасобленая не толькі ў наўпрост выказанай сентэнцыі «Лепей асцярожка, чым варожка» або ў агульнай засцярозе «Не знаўшы броду, не сунься ў ваду» (Нас., 168), «Не знаўшы чалавека, не аддай яму душы» (Грынбл., 2, 465), але і ў самой канкрэтнай ментальнай устаноўцы паводзінаў: «Бога хвалі, і чорта не гняві» (Ляц., 4).

Талерантнасць у адносінах да прадстаўнікоў розных канфесій, дэтэрмінаваная ў светапоглядзе

беларусаў шматвяковым пражываннем у многаканфесійных і поліэтнічных дзяржавах (ВКЛ, Рэч Паспалітая, Польшча, Расійская імперыя), выхавала спаважнае і спакойнае, без фанатызму, стаўленне да рэлігіі як духоўнай субстанцыі, да Царквы як ідэалагічнай інстытуцыі. Па-над ідэалогіяй, у тым ліку царкоўнай, у традыцыйнай культуры беларусаў ставіцца перадусім маральны імператыў: «У царкву хадзі — ні хадзі, а Бога ў сэрцы май» (Ляцк., 52). Паняцце Боскасці ў народнай свядомасці мае аксіялагічны сэнс і звязана перадусім з паняццямі справядлівасці, сумленнасці. У гэтым кантэксце і разумеецца ідыёма «мець Бога ў сэрцы».

У агульнай скарбніцы беларускіх парэмій маецца цэлы блок прыказак, якія даволі непасрэдна праектуюць гістарычны вопыт народа на яго этнічны характар: «На чыім кані (возе) едзеш, таму і песенькі пей» (Рап., 224); «У добры час сказаць, у ліхі прамаўчаць» (F., 100); «Хоць не ў дастатку, абы ў спакоі» (Янк., 297); «Пакора аблокі прабівае» (F., 212); «Пана павесюць, тры дні перад ім шапку знімай, часам адарвецца» (Н., 124). Апошні тэкст мае сэнсавыя варыянты: «Пана на шыбеніцу вядуць, а мужык шапку здымай, бо як адарвецца, то адрыгнецца» (Сержп., 206). У запісе А. К. Сержпутоўскага здымаецца імператыўнае гучанне прыказкі, узнікае іранічны падтэкст.

Вопыт выжывання беларуса ў складаных, часам фатальных гістарычных умовах, магчыма, спрычыніўся да прагматычных, пасіўных заключэнняў кшталту: «Трэба жыць, як набяжыць», «Як ёсць — так і добра». Але не гэтыя прыказкавыя канстанты вызначаюць аснову беларускага менталітэту.

Ментальныя ўстаноўкі, заснаваныя на сацыяльным і гістарычным вопыце этнасу, мелі на мэце выхаванне пэўных нормаў паводзінаў чалавека, тых рысаў характару членаў этнічнай супольнасці, якія здольныя забяспечыць жыццястойкасць і жыццёвую перспектыву. З'яўляючыся непасрэдным увасабленнем этнічнай свядомасці народа, яго асноўныя ментальныя ўстаноўкі нясуць у сабе глыбінныя быційныя сэнсы жыццятворнага характару. У адных з парэмій яны выказаны непасрэдна, імператыўнай інтанацыяй: «Нарабіў ліха, не чакай дабра» (Сержп., 197); «Перад дужым не гніся, над слабым не глуміся» (Грынбл., 2, 464); «Хадзі простай сцежкай — не заблудзіш» (Рап., 230). У іншых, і такіх больш, думка-ідэя мае спакойную аб'ектызаваную форму суджэння. У абодвух выпадках па сутнасці выказваецца народная філасофія, маральна-этычны кодэкс этнасу: «Лепей на свет не радзіцца, як ліхім чалавекам быць» (Рап., 198); «Нявінная кроў не ўтоіцца» (F., 153); «Бедны той, хто душы не мае» (Янк., 28); «Хітрасцю век не пражывеш» (Рап., 211); «Хто гнецца, таго й гнуць» (Сержп., 244); «Памыснасць лепш ад багацця» (Янк., 149); «Упіканая ласка — не ласка» (Нас., 168); «Менш жмурся, лепш убачыш» (Сах.). Апошняя прыказка праз метафару іранічнага сэнсу кліча да зычлівага, аб'ектыўнага погляду на чалавека і свет, таксама як і парэмія пра «ўпіканую ласку», што арыентуе на шчырасць, праўдзівасць як норму, імператыў чалавечых узаемінаў.

Практычна ўсе сілагізмы, ментальныя ўстаноўкі беларускага этнасу ўкладаюцца ў філасофскія катэгорыі дабра і зла, высокага і нізкага, прыгожага і агіднага. Ментальнае паняцце «праўда» — увасабленне катэгорыі дабра. Функцыянальна складнікі этнічнага менталітэту, яго ментальныя ўстаноўкі скіраваныя на выхаванне чалавека разумнага, сумленнага, працавітага, умелага, вернага, спагаднага, памяркоўнага, годнага, адданага сваёй зямлі. Менавіта на гэтыя рысы характару і чалавечыя якасці арыентуюць ментальныя ўстаноўкі беларускага этнасу.

Адначасна менталітэтам беларусаў адмаўляюцца такія праявы, уласцівасці чалавечай натуры як хлуслівасць, крывадушнасць, баязлівасць, ганарлівасць, лянота, зайздрасць, пахабнасць, самалюбства, натуральна трактаваныя ў кантэксце катэгорыі зла. У поглядзе на долю, лёс чалавека беларусы аддаюць перавагу іх наканаванасці. Пры гэтым, аднак, у беларускім менталітэце паслядоўна праводзіцца ідэя аптымістычнага светаўспрымання: «Няма такога ліхога, каб не выйшла на добрае», «Паміраць збірайся, а жыта сей», «Жыві з заўтрам» — гэта кардынальная ўстаноўка нашага менталітэту, які стаўся інтэлектуальным грунтам, духоўным скрэпам, што дазволіў беларускаму народу на яго доўгім гістарычным шляху выжыць, выстаяць у экстрэмальных выпрабаваннях, калі ў войнах XVII ст. гінуў кожны другі, а ў XX ст. — кожны чацвёрты жыхар краіны Беларусь.

---

[1] Визгин В.П. Ментальность // Новая философская энциклопедия. — Москва: «Мысль», 2001. Т. 2. — С. 525.
[2] Тамсама.
[3] Конан У. Выбранае. — Мінск, 2009. — С. 130.
[4] Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej. — Warszawa, 1936. T. 4. — S. 246.
[5] Рапановіч Я. Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі. — Мінск., 1974. — С. 238.
[6] Аксамітаў А. Прыказкі і прымаўкі. — Мінск, 2002. — С. 287.
[7] Святое Евангелие. — Москва, 2009. — С. 34. п. 12.
[8] Носович И.И. Сборник белорусских пословиц. — СПб., 1877. — С. 99.
[9] Скарына Ф. Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Уступны артыкул, падрыхтоўка тэкстаў, каментарыі, слоўнік А.Ф.Коршунаў. — Мінск, 1990. — С. 71.
[10] Сержпутоўскі А.К. АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 21, л. 70.
[11] Романов Е.Р. Древние пословицы // Записки С.-Зап. ОРГО. Кн. 1. — Вильно, 1910. — С. 216.

Андрэй Шпунт

# ELEEMOSYNARIUS

Гісторыя нашага Касцёла часоў Вялікага Княства Літоўскага — гэта сузор'е віленскіх біскупаў. Асоба біскупа заўсёды лічылася першай пасля караля і вялікага князя. У Вільні біскуп быў вышэй за ваяводу, бо, як пісаў кс. Вінцэнт Пжыялгоўскі, у тыя чыста рэлігійныя часы народ хутчэй кленчыў перад пастаралам, чым перад булавою. Акрамя духоўнай улады, Віленскі біскуп трымаў у сваіх руках вялікія матэрыяльныя сродкі і карыстаўся павагай і дабрадзействамі каралёў і магнатаў. Спакусіўшыся на знешні бляск, шляхта пачала імкнуцца да духоўнага саслоўя, найперш да віленскай катэдры. Гэтая шляхецка-магнацкая інвазія прынесла з сабой заходнееўрапейскі густ, пышнасць і раскошу, але нельга ў тым не ўбачыць — зноў спасылаемся на кс. Пшыялгоўскага — рукі Найвышэйшага Провіду, які заўсёды назірае за сваім Касцёлам, бо Хрыстус як сваёй Нявесце забяспечыў яму сталую дапамогу і апеку на ўсе часы. Таму, калі свецкасць пачала браць верх, выпала так, што прадстаўнік духавенства, які вызначаўся высакародствам паходжання, стаў 11 ліпеня 1507 г. Віленскім біскупам.

Біскуп Войцах (Альбрыхт)[1] Радзівіл быў першым з літоўскіх магнатаў, хто ўзначаліў Віленскае біскупства, і быў першым з паноў-рады, хто пачаў прымаць актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны, і апошнім, пасля якога скончылася «залатое стагоддзе» біскупства, а значыць і Касцёла ў ВКЛ.




Біскуп Віленскі Войцах (Альбрыхт) Радзівіл.

**Будаўнік нашага Касцёла**

Віленскаму біскупу не давялося, у адрозненне ад наступнікаў, траціць сілы і сродкі ў барацьбе за само існаванне Касцёла ў ВКЛ, таму ён цалкам прысвяціў сваё служэнне стваральнай дзейнасці, якая ахоплівала розныя кірункі, была шырокай і плённай. Яго жыццяпіс — і ёсць пералік гэтай дзейнасці для Касцёла і Бацькаўшчыны.

Уласнаю рукою ён пачаў знішчэнне апошніх слядоў паганства на нашых землях, даючы прыклад у сваіх уладаннях, раскіданых па ўсім Вялікім Княстве ад інфлянцкай мяжы (Бігушкі, Крэўна), праз сярэднюю Літву (Харэцк, Мірклішкі, Новы Двор) да ракі Шчары на поўдні (Ліпск).

Шматлікія абавязкі выклікалі неабходнасць увядзення пасады дапаможнага біскупа, якім у 1512 г. стаў Якуб з Мехава — біскуп тытулярны Кафы. Абавязкі датычылі ў тым ліку клопатаў па будаўніцтве новых касцёлаў, капліцаў, заснавання новых фундацый і аднаўлення збяднелых бенефіцыяў. Біскуп Войцах (Альбрыхт) быў фундатарам

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

касцёла св. Пятра ў Салоках, капліцы Унебаўзяцця НПМ у віленскай катэдры, касцёла і кляштара бэрнардынаў у Вільні, пяці парафіяльных касцёлаў каралеўскай фундацыі.

Былі пабудаваны касцёлы ў Дабрыневе, Калінаўцы, Ганядзы, Райгорадзе, Ваўкалаце і Дусятах, якія фундаваліся Радзівіламі, а таксама ў Іказні, Пагосце, Шыдловіцах, Троўпях і Высокім Двары. Трэба адзначыць, што святыні ўзводзіліся нягледзячы на бесперапынны ціск усходняга суседа, які раз за разам рабіў спробы захапіць нашу краіну: войны вяліся ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у 1507–1508 і 1512–1522 гг., г.зн. практычна ўвесь перыяд біскупства Войцаха (Альбрыхта), калі былі сабраныя ўсе каралеўскія прывілеі і біскупскія пастановы, на падставе якіх убачыў свет капітульны статут, зацверджаны папам Юліем II.

У 1510 г. Віленскі біскуп зацвердзіў закладзенае Гнезненскім арцыбіскупам кардыналам Фрыдэрыкам брацтва святароў і свецкіх Віленскага біскупства, а ў 1514 г. прымаў удзел у V Латэранскім Саборы і тады, верагодна, прыклаў намаганні для атрымання дазволу Папы на адкрыццё школы ў Вільні (брэвэ Льва X ад 7 чэрвеня 1514 г.).

### На грамадскім і палітычным полі

Біскуп Войцах (Альбрыхт) таксама актыўна ўдзельнічаў у грамадскім і палітычным жыцці ВКЛ, аб чым сведчаць шматлікія крыніцы: яго імя сустракаецца ў дакументах каралеўскіх судоў, каралеўскіх прывілеях для князёў, шляхты і местаў.

Па смерці караля і вялікага князя Аляксандра ён быў дэлегаваны як прадстаўнік паноў-рады (разам са Станіславам Кішкам і Янам Забярэзінскім) на элекцыйны сойм 1506 г. у Пётркаве.




Папа Аляксандр VI.

Аб важнай ролі Віленскага біскупа сведчыць той факт, што ён часам занадта аўтакратычна ўваходзіў у справы мяшчанаў, так што спатрэбілася нават умяшальніцтва Жыгімонта I Старога.

### Нястомны хадайнік

10 траўня 1516 г. Жыгімонт I Стары накіраваў да Льва X хадайніцтва аб кананізацыі блаславёнага каралевіча Казіміра Ягелончыка, памерлага ў 1484 г. і пахаванага ў віленскай катэдры. У гэтым дакуменце кароль спасылаўся на «просьбы, прыспешванні і нагадванні» біскупа Радзівіла, які распачаў гэты працэс у лютым таго ж года, калі да Святога Айца былі накіраваныя хадайніцтвы віленскага капітула і віленскіх францішканаў. Таму менавіта біскупа Войцаха (Альбрыхта) Жыгімонт I Стары накіраваў па гэтай справе ў Апостальскую Сталіцу, дзе ў гэты час праходзіў V Латэранскі Сабор.

Каралевіч Казімір быў кананізаваны ў 1522 г. наступнікам Льва X Адрыянам VI.

### Аздоба яго жыцця

Пастановы V Латэранскага Сабору датычылі ў тым ліку аздараўлення касцёльнага жыцця і звязаных з гэтым пытанняў касцёльных прыбыткаў, ладу жыцця святароў і г. д. Але біскуп Войцах (Альбрыхт) сам быў жывым прыкладам таго, што так хацелі бачыць айцы Сабору. Далучымся да захапляльнай адзнакі кс. Пшыялгоўскага аб тым, што: «да пышнага тытула, якім падпісваўся біскуп Войцах (Альбрыхт) — «князь на Алыцы і Мядзелі», як жа пасуе прыдомак «Міласэрны» (лац. з грэч. *Eleemosynarius*), як аздабляе яго жыццё! Ды й што толку ў тытулах, калі б не меў добрага сэрца, бо тытулы заканчваюцца з зямным жыццём, а міласэрнасць да бліжняга Хрыстус стакроць узнагародзіць».

Яшчэ падчас служэння ў Луцку біскупскі палац штодзень атачалі натоўпы жабракоў, якім біскуп Войцах (Альбрыхт) асабіста шчодрай рукою раздаваў міласціну (грошы, харчаванне, адзенне), а хворым дапамагаў у шпіталях. І не толькі раздаваў, але і дзяліў з імі свой стол, праслугоўваючы і называючы гасцямі Хрыстовымі. Былі і іншыя ахвяраванні, зафіксаваныя ў актах: напрыклад, нейкаму Яну з Жанкі біскуп падараваў фальварак з чатырма засценкамі ў маёнтку Пяршаі.

### Каля адкрытай труны

Канец біскупства Войцаха (Альбрыхта) быў азмрочаны пагаршэннем адносінаў з каралеўскім дваром настолькі, што ён забараніў абвясціць у Вільні папскую булу з нагоды 10-гадовага юбілею панавання Жыгі-

монта І Старога, сцвярджаючы, што гэта не было б на карысць ВКЛ.

У 1516 г. каад'ютарам Віленскага біскупа з пратэкцыі караля стаў яго незаконнанароджаны сын Ян «з княжат літоўскіх». Нявопытны 17-гадовы юнак ужо падпісваўся як *confirmatus electus episcopus* (лац. *пацверджаны, абраны біскуп*). Абражаны віленскі капітул праглынуў гэта, а біскуп Войцах (Альбрыхт) сышоў у цень. З гэтага часу яго імя ўжо рэдка сустракаецца ў крыніцах. «Ды й каму прыемна, — пісаў кс. Пшыялгоўскі, — бачыць сваю адкрытую труну, быць адхіленым з такой высокай пасады, і гэта праз асобу непараўнальна меншую і годнасцю, і паходжаннем». (Трэба заўважыць, што наступнік рабіў усё, каб адпавядаць таму месцу, якое так лёгка яму дасталася. Кс. Ян Курчэўскі ў сваёй фундаментальнай гісторыі віленскай катэдры адзначаў, што: «шмат праявіў пастырскай руплівасці і заклапочанасці ў кіраванні біскупствам»).

### Удзячны нашчадак

Віленскі біскуп Войцах (Альбрыхт) Радзівіл памёр 19 красавіка 1519 г. у сваім маёнтку ў Верках. Ён быў пахаваны ў віленскай катэдры. У другой палове XVI ст. віленскі ваявода Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка ўсталяваў надмагілле, на якім удзячны нашчадак не паскупіўся на вялікі, поўны пахвалы надпіс. На жаль, надмагілле было знішчана падчас рэстаўрацыі (у першай палове XIX ст. яно ўжо не існавала).

### На тле зброі і даспехаў

Войцах (Альбрыхт) Радзівіл нарадзіўся каля 1476 г. у сям'і Мікалая Радзівіла Старога, ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ, і Ганны з Манівідаў. Сярод яго родных братоў былі такія выдатныя постаці як ваявода віленскі і канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл пад красамоўнай мянушкай *Amor Patriae* і ваявода віленскі, вялікі гетман літоўскі Юрый Радзівіл Пераможца (*Victor*), ці Літоўскі Геркулес, партрэт якога аздабляе залы Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Трэба было здарыцца так, каб сярод гэтых грозных, ва ўсім бляску зброі і даспехаў воінаў з'явіўся чалавек духоўнага стану, характару ціхага і пабожнага, які так вызначыўся сваімі дабрадзейнасцямі, што папа Аляксандр VI 2 траўня 1502 г. зрабіў яго біскупам Луцкім, — гэта першая, заснаваная на крыніцах згадка пра біскупа Войцаха (Альбрыхта), хаця ў тыя рэнесансныя часы нават дабрадзейнасцяў магло не хапіць, таму здарылася гэта не без пратэкцыі бацькі — Мікалая Радзівіла Старога.



Жыгімонт І Стары.
Лукас Кранах. Музей Чартарыйскіх, Кракаў.

Аб дзейнасці біскупа Луцкага ў 1502–1507 гг. звесткі вельмі скупыя. Вядома, што ў гэты час ён разам з Аляксандрам VI прыкладаў высілкі ў імкненні да уніі паміж Касцёлам і Праваслаўнай Царквою, аб чым сведчыць папскае брэве да біскупаў Віленскага, Луцкага і Жмудскага. Заўважым, што гэтая інфармацыя ў чарговы раз падкрэслівае маштаб шматграннай постаці аднаго з самых вядомых Пантыфікаў, на плячах якога, акрамя кіравання Касцёлам, ляжала выкананне найважнейшай нацыянальнай задачы ў барацьбе за незалежнасць і аб'яднанне Сярэдняй Італіі.

...Юзаф Ігнацый Крашэўскі пісаў пра святой памяці біскупа Радзівіла як пра красамоўны прыклад таго, што «ніводная дабрачыннасць не прыніжае, а дакрананне да галечы не пляміць».


**ЛІТАРАТУРА**

1. Шаскольский П. Борджиа, Александр VI // Энциклопедический словарь, Брокгауз и Ефрон. Т. 2. — Москва: Большая российская энциклопедия, 1992. — С. 415–417.
2. Kotłubaj E. Galeria Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. — Wilno, 1857. — S. 31–32.
3. Kraszewski J. Wilno. T. II. — Wilno, 1840. — S. 242.
4. Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie. — Wilno, 1812. — S. 33.
5. Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym, ekonomicznym rozwoju. T. I. — Wilno, 1908. — S. 311.
6. Michalewiczowa M. Radziwiłł Wojciech (Albrycht)//PSB. T. XXX/2, zeszyt 125. — Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk–Łódź, 1987. — S. 377–379.
7. Przyjałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. I. — Petersburg, 1860. — S. 89–94.


[1] Называны таксама Альбрыхтам (ад лац. *Adalbert — Войцах*). У розных аўтараў згадваецца як Войцах (Альбрыхт, Альбэрт), Войцах, Альбэрт.

Юры Лаўрык

# УНІКАЛЬНАЕ ВЫДАННЕ НЯСВІЖСКАЙ ДРУКАРНІ

## «КАРОТКІ ЗБОР АДПУСТАЎ, ПРЫВІЛЕЯЎ І МІЛАСЦЯЎ, НАДАДЗЕНЫХ ВЯЛЕБНАМУ АРЦЫБРАЦТВУ БОЖАГА ЦЕЛА»[1]

Калекцыя «Старадрукі» Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь налічвае шэраг выданняў, якія выйшлі ў свет у Нясвіжскай друкарні езуітаў, заснаванай каля 1750 г. ардынатам Міхалам Казімірам Радзівілам (Рыбанькам). Адметнае месца сярод прадметаў калекцыі займае канвалют з пяці айчынных старадрукаў, сярод якіх ёсць і два нясвіжскія выданні. Канвалют быў прывезены Л. Д. Клокам з археаграфічнай экспедыцыі ў Гродне; бібліяграфічнае яго апісанне для каталога калекцыі склала Т. І. Рошчына, якая ў 1990-я гг. апрацоўвала ў музеі старадрукі на замежных мовах.

Першае са згаданых нясвіжскіх выданняў — гэта «Rekollekcye duchowne Na ośm dni rozłożone» аўтарства бэрнардынскага правінцыяла Францішка Пшылэнцкага [1]. Сёння «Rekollekcye duchowne...» ў айчынных кнігазборах сустракаюцца не часта, але ў XVIII ст. гэта была адна з найбольш папулярных кніг на Беларусі як у францішканскіх канвентах, так і ў асяродку свецкага чытача католіка. Асоба самога Францішка Пшылэнцкага, як і згаданы канвалют, патрабуе больш уважлівага разгляду, але цяпер мы маем намер засяродзіць увагу толькі на адным, вельмі рэдкім, алігаце гэтага канвалюта — на выданні пад загалоўкам «Krotkie zebranie odpustow, przywilejow i łask, nadanych od szczęśliwey pamięci Leona Papieża X. i od innych naywyższych Biskupów. Wielebnomu Arcybractwu Bozego Ciała, założonemu w Kościele farskim Swiętego Jakuba Scossacavili [sic!], na przedmieściu S. Piotra w Rzymie» [2].

Гэтае выданне не фігуруе ў грунтоўным паказальніку старадрукаў «Bibliografia Staropolska» Эстрайхера [3] і не сустракаецца ў літаратуры прадмету; у навуковы ўжытак яно не ўведзена (калі не лічыць нашай публікацыі пра нясвіжскія друкі ў фондах НГМ РБ, дзе даецца яго кароткае апісанне [4]). Цалкам верагодна, што старадрук захаваўся да сённяшняга дня толькі ў складзе названага канвалюта, і ў такім выпадку наш алігат з'яўляецца адзіным ацалелым на сёння асобнікам выдання.

Згаданая брашура мае выходныя дадзеныя ў калафоне: «Za dozwoleniem Starszych w Wilnie Roku 1632, a teraz powtórnie. W Nieświżu: w Drukarni Xiążęcey Collegii Soc: JESU, 1761», дзякуючы чаму мы даведваемся, што гэта нясвіжскі перадрук віленскага выдання. Тэкст віленскага выдання (у першай частцы) абапіраецца на італамоўны першаўзор, які ўбачыў свет у 1591 г. у Рыме, у друкарні папскага друкара Паўла Блада [2, с. 19 нн]. На жаль, сёння складана сказаць, ці быў італьянскі тэкст арыгінальным або і ён таксама з'яўляецца чарговым перакладам — на гэты раз з лаціны, афіцыйнай мовы Каталіцкага Касцёла. У бібліяграфіях і каталогах не ўдалося адшукаць згадкі ані пра італамоўны старадрук пад падобнаю назваю, ані пра яго імаверны лацінскі адпаведнік. Аднак з увагі на тое, што выданне разлічана на свецкіх вернікаў, можна меркаваць, што арыгінал напісаны па-італьянску.

Калі казаць пра віленскі прататып выдання, то, насуперак спадзяванням, такой пазіцыі таксама не выяўлена ані ў Эстрайхера, ані ў сучасных літоўскіх каталогах старадрукаў (у тым ліку ў грунтоўнай бібліяграфіі выданняў езуіцкай Акадэміі ў Вільні [5]). Усё вышэйсказанае схіляе да таго, каб выказаць перакананне адносна выключнай рэдкасці прадмету зацікаўлення; прычым гаворка ідзе пра рэдкасць не толькі самога нясвіжскага выдання, але і змешчанага ў ім тэксту, незалежна ад месца і часу публікацыі. Такім чынам, ёсць падставы бачыць у гэтым алігаце не толькі вельмі каштоўную крыніцу па кніжнай гісторыі Беларусі, але і ўнікальны дакумент, які кідае прамень святла на адну са старонак мінуўшчыны Касцёла як ў Еўропе ў цэлым, так і на нашых землях.

---

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

**Брацтвы Божага Цела і культ Найсвяцейшага Сакрамэнту**

Каб зразумець умовы, у якіх з’явілася разгляданае выданне, трэба хаця б коратка азнаёміцца з гісторыяй брацтва Божага Цела. Ужо з IV ст. з’яўляюцца аб’яднаныя вакол пэўнага храма групы вернікаў (як духоўных, так і свецкіх), якія ставяць на мэце выкананне літургічна-аскетычных і харытатыўных функцый. З увагі на цесную сацыяльную повязь паміж членамі такіх суполак па-беларуску яны зазвычай называюцца «брацтвамі», а ў лацінскай мове актаў Каталіцкага Касцёла для азначэння гэтай з’явы на працягу стагоддзяў сустракаецца цэлы шэраг больш ці менш блізкіх паводле сэнсу назваў: *confratria*, *frateria*, *geldonis*, *sodalitas*, *congregatio*, *liga spitirualis* і да т. п. Як і ўсялякае іншае навапаўсталае ўтварэнне ў межах сталай структуры, брацтвы афіцыйна зацвярджаліся адпаведнымі касцёльнымі ўладамі.

У Заходняй Еўропе брацтвы атрымліваюць значнае развіццё ў Сярэднявеччы, а ў XIV–XV стст. да іх ужо належыць значная частка насельніцтва, аднак з распаўсюджваннем Рэфармацыі іх роля змяншаецца. Што да ўсходнеславянскіх земляў, то пра заўважную прысутнасць тут брацтваў — як праваслаўных, так і каталіцкіх — можна гаварыць толькі з апошняй чвэрці XVI ст. Гэты ўсплёск быў звязаны з новай рэлігійна-палітычнай сітуацыяй у Еўропе: з аднаго боку, ён быў выкліканы актывізацыяй пасля Трыдэнцкага Сабору дзейнасці Каталіцкага Касцёла па змаганні з Рэфармацыяй; з другога ж — тым, што з прычыны развіцця гарадоў паводле заходнееўрапейскай мадэлі (на падставе магдэбурскага права) праваслаўнае мяшчанства пачало запазычваць заходнія формы


REKOLLEKCYE
DUCHOWNE
Na ośm dni rozłożone, lubo wſzel-
kiego ſtanu pobożnym Katolikom,
oſobliwie jednak Zakonnym O-
ſobom Zak: Oyca S. Francisz:
SŁUŻĄCE.
Dla pociechy y pożytku Duſzy na
puſtyni z Bogiem rozmawiaiącey.
PRZEZ X. FRANCISZKA
PRZYŁĘCKIEGO
Na ten czas Kuſtoſza Kuſtodyi Wil-
ſkiey á potym Prowincyała y Defi-
nitora Generalnego całego Za-
konu S. O. FRANCISZKA
XX. Bernardynów Pro-
wincyi Litewſkiey.
Za pozwoleniem Starſzych
powtórnie do Druku
PODANE.
w Roku Pańſkim 1770.
w Nieświżu w Drukarni J. X. Mości
Soc: JESU.

Тытульны аркуш «Духоўных рэкалекцый» Францішка Пшылэнцкага.

самаарганізацыі.

Менавіта змаганне з Рэфармацыяй было адной з асноўных задач, што ставіліся перад створаным у 1-й палове XVI ст. ордэнам езуітаў (Societas JESU — Таварыства Езуса). Для пашырэння працы з насельніцтвам езуіты актыўна займаліся арганізацыяй пры касцёлах брацтваў, дзейнасць якіх была сарыентаваная на ўкараненне каталіцкай пабожнасці, што праяўлялася і ў прапагандзе адпаведных поглядаў на тыя ці іншыя пункты міжканфесійнай палемікі. Менавіта з гэтай прычыны шмат якія са створаных членамі Таварыства брацтваў мелі ў сваіх назвах імя Святой Тройцы ці адной з яе асобаў.

Брацтвы пад тытулам Божага Цела ці Найсвяцейшага Сакрамэнту зазвычай ствараліся з мэтаю ўмацавання догмату пра перамяненне хлеба і віна падчас Эўхарыстыі ў сапраўднае Цела і Кроў Езуса, а ў сваёй дзейнасці займаліся пашырэннем культу гэтай таямніцы ў процівагу рэфармацыйным дактрынам. Культ Божага Цела развіўся ў Заходняй Еўропе у XIII ст. на аснове ранейшай традыцыі ўшанавання Найсвяцейшага Сакрамэнту.

Выразнай праяваю гэтага культу стала свята Божага Цела, якое першапачаткова ўмацавалася толькі ў некаторых дыяцэзіях, але ў 1264 г. булаю «Transiturus» папы Урбана IV было ўстаноўлена для ўсяго Каталіцкага Касцёла. Сам Урбан IV не паспеў абвясціць названай булы пры сваім жыцці, і яе апублікавалі ўжо ягоныя наступнікі на Апостальскім Пасадзе, пашыраючы такім чынам культ Божага Цела на ўсе дыяцэзіі. Адметнаю рысаю гэтага культу была арганізацыя падчас адпаведнага свята працэсій (называных у тэалогіі «тэафарычнымі» — «Баганоснымі»), якія ўяўлялі з сябе шэсце з Найсвяцейшым Сакрамэнтам, свечкамі ды харугвамі вакол касцёла, і інсцэнізацыі; гэтыя формы працы з насельніцтвам давалі магчымасць заангажаваць у літургічнае жыццё шырокія масы вернікаў.

Брацтва Божага Цела пры фарным касцёле св. Якуба на Пляцы Шасакавалі ў рымскім прадмесці св. Пятра[2] было створана на хвалі развіцця гэтага культу яшчэ ў дарэфармацыйны перыяд. Атрымаўшы ў 1513 г. ад папы Льва X права на адмысловыя адпусты ды прывілеі, яно здабыло статус арцыбрацтва, а падчас барацьбы з Рэфармацыяй было ўзорам для стварэння аналагічных арганізацый па ўсім свеце, у тым ліку і на Беларусі.

Касцёл у Нясвіжы, збудаваны ў 1587–1593 гг. па жаданні Мікалая Крыштафа Радзівіла, быў у 1601 г. кансэкраваны нунцыем Клаўдыем Рангоні менавіта пад

тытулам Божага Цела. Ён належаў езуітам (хоць меў за пробашча дыяцэзіяльнага святара) і, відаць з яго назвы, закладаўся як плацдарм для змагання з рэфармацыйнымі плынямі. Аўтарытэтная «Энцыклапедыя ведаў пра езуітаў на землях Польшчы і Літвы» датуе заснаванне пры ім брацтва Божага Цела 1621 годам [6, с. 458].

Паводле нормаў кананічнага права, філіяльныя брацтвы могуць фармальна далучацца да мацярынскага арцыбрацтва, на падабенства якога яны ствараліся, і, у выніку, прэтэндаваць на духоўныя даброты (т. зв. «агрэгацыя»). Аднак паколькі на момант выхаду рымскага выдання працэс выпрацоўкі гэтых нормаў яшчэ не быў завершаны[3], пункт пра папскі дазвол рымскаму арцыбрацтву Божага Цела на агрэгацыю аналагічных брацтваў з дапушчэннем іх да сваіх адпустаў быў змешчаны ў тэксце брашуры сярод пераліку папскіх прывілеяў: «GRZEGORZ ś. p. tego Imienia XII. Papież, dozwolił przerzeczonemu Bractwu, aby mogli insze Bractwa także Bozego Ciała gdziekolwiek będące, do swey społeczności przypuścić i onym udzielić wszystkich odpustow, okrom staciey wszelakich przywilejow nadanych od Papieżow wprzod idących temuż Bractwu, abo które będą dane wiecznemi czasy od Następcow jego. Co świadczy list Apostolski w Rzymie pisany, u S. Piotra, 20. Pazdziernika R. 1579. Osmego roku siedzenia jego na Stolicy Rzymskiey» [2, с. 8 нн]).

Такім чынам, нясвіжскае брацтва шляхам агрэгацыі магло атрымаць (і, відаць, атрымала) удзел у духоўных дабротах, нададзеных рымскаму арцыбрацтву Божага Цела. З гэтай прычыны перавыданне «Кароткага збору адпустаў, прывілеяў і міласцяў, нададзеных … Вялебнаму Арцыбрацтву Божага Цела … у Рыме» ў пе-


KROTKIE ZEBRANIE
ODPUSTOW, PRZYWILEJOW i ŁASK,
nadanych od ſzczęśliwey pamięci LEONA PAPIEZA X. od innych naywyżſzych Biſkupow. WIELEBNEMU ARCYBRACTWU. BOZEGO CIAŁA, założonemu w Kościele Farſkim Swięgo Jakuba Scoſſacavili, na przedmieściu S. Piotra w Rzymie. Też łaſki ſą przymnożone od ſzczęśliwey pamięci SIXTA PAPIEZA V. Roku 1590.
A z Włoſkiego na Polſkie przetłumaczone, za ſtaraniem BRACI BOZEGO CIAŁA w Nieświeżu będących.
Przydane też ſą nauki i upominania, które winni chować BRACIA i SIOSTRY tegoż Bractwa.

Тытульны аркуш
«Кароткага збору адпустаў...».

ракладзе на даступную мову (у нашым выпадку — польскую) было актуальным і для Беларусі, а дакладней, для Нясвіжа.

**Склад і змест нясвіжскага выдання**

Поўны загаловак выдання ў перакладзе на беларускую мову выглядае наступным чынам: «Кароткі збор адпустаў, прывілеяў і міласцяў, нададзеных шчаслівае памяці папам Львом X і іншымі найвышэйшымі біскупамі Вялебнаму Арцыбрацтву Божага Цела, закладзенаму пры фарным касцёле святога Якуба [на Пляцы] Шасакавалі ў прадмесці св.


Za dozwoleniem Starſzych W WILNIE Roku 1632. a teraz powtórnie W Nieświżu w Drukarni Xiążęcey Collegii Soc: JESU Roku 1761.

Калафон
«Кароткага збору адпустаў...».

Пятра ў Рыме. А таксама міласці прымножаныя шчаслівае памяці папам Сікстам V у Годзе 1590. З італьянскай на польскую перакладзеныя шчыраваннем братоў Божага Цела, што ў Нясвіжы знаходзіліся. Далучаны таксама навукі ды напаміны, якіх браты і сёстры гэтага брацтва павінны прытрымлівацца».

Паводле зместу тэкст брашуры падзяляецца на дзве часткі, адна з якіх тлумачыць правы, а другая — абавязкі членаў брацтва. Зазначым, што ў 2-й частцы, апрача «рымскіх» правілаў, змешчаны тэксты, падрыхтаваныя ў Нясвіжы і зацверджаныя дыяцэзіяльнай (віленскай) духоўнай уладаю, а таму для нашага артыкула больш актуальны падзел тэксту брашуры на «частку рымскую» і «частку нясвіжскую».

«Рымская частка». Першая, перакладная, частка тэксту пачынаецца на с. 3 нн, а заканчваецца на с. 19 нн калафонам, які паведамляе нам выходныя дадзеныя італьянскага выдання, што паслужыла ўзорам для перакладу: «w Rzymie V Pawła Blada Drukarza Papieskiego, Roku 1591».

Сыходзячы са звестак у загалоўку нясвіжскага выдання, пераклад з італьянскай мовы быў ажыццёўлены ў Нясвіжы — верагодна, езуітамі з ліку кіраўніцтва брацтва Божага Цела («A z Włoskiego na Polski przetłumaczone, za staraniem Braci Bożego Ciała w Nieświeżu będących»). Паколькі мы ведаем, што заснаванне брацтва датуецца 1621 г., то, хутчэй за ўсё, гэтая падзея павінна была адбыцца ў трэцяй дэкадзе XVII ст.

«Рымская частка» складаецца з 2-х раздзелаў. Першы з іх не мае адмысловага загалоўка: дакладней, загалоўкам служыць назва ўсяго выдання. У гэтым раздзеле змешчаны кароткі агляд духоўных дабротаў, нададзеных арцыбрацтву Божага Цела Рымскімі Папамі. Тэкст

пачынаецца з адпустаў, якія папа Леў X даў 21 кастрычніка 1513 г. братчыкам і ўсім вернікам, якія бралі ўдзел у дзейнасці арцыбрацтва або наведвалі брацкі касцёл падчас святаў (паміж іх асобна вылучана свята Божага Цела) у часе ад першых да другіх Нешпараў[4] і прамовілі там малітву на ўшанаванне Найсвяцейшага Сакрамэнту. Далей некалькі пунктаў прысвечаныя арганізацыйным момантам: папа Леў X зацвярджае ўсе парадкі і пастановы арцыбрацтва; дазваляе ягоным кіраўнікам «aby stanowić mogli ustawy z rozumem, i z cnotą zgodliwe, ... aby miane były, za uchwalone od teyże Stolicy Apostolskiey» [2, 4 нн]; абвяшчае права свецкіх братчыкаў самім выбіраць сабе спаведніка, якога надзяляе шырокімі паўнамоцтвамі, а таксама дае братчыкам некаторыя іншыя прывілеі (напрыклад, быць пахаванымі пры брацкім касцёле, калі гэта не закранае правоў іншых фарных касцёлаў). Далей пералічаюцца дабрадзействы арцыбрацтву наступнікаў папы — Пія IV, Грыгорыя XII і Сікста V. Унёсак Пія IV абмяжоўваецца тым, што ён у 1566 г., згодна з павевамі часу, мадэрнізаваў адпуст за наведванне брацкага касцёла ў дзень Божага Цела: дзеля яго атрымання Папа абавязваў вернікаў папярэдне выспаведацца, прыступіць да Камуніі і памаліцца за мір паміж хрысціянскімі манархамі ды за выкараненне ерасяў. Што датычыць апостальскага ліста Грыгорыя XII з дазволам рымскаму арцыбрацтву далучаць да сваёй супольнасці іншыя брацтвы Божага Цела і пашыраць на іх свае прывілеі, ільготы ды адпусты, то яго мы ўжо цытавалі вышэй.

Папа Сікст V у 1590 г. істотным чынам дапоўніў правы арцыбрацтва, даўшы поўныя адпусты вернікам, якія, паспавядаўшыся і прыняўшы Камунію,




Касцёл св. Якуба
на пляцы Шасакавалі ў XVI ст.
(паводле ілюстрацыі ў выданні
«Cose maravigliose dell'alma città
di Roma», Рым, 1588 г.)

уступалі ў брацтва, а таксама братчыкам, якія выспаведаліся і адбылі пакуту, але, не могучы гаварыць вуснамі ў смяротную часіну, заклікалі імя Езуса ў сэрцы. Таксама Папа надаў шэраг частковых адпустаў некаторым катэгорыям братчыкаў і проста вернікаў у сувязі з наведваннем брацкага касцёла ў тыя ці іншыя святочныя дні, з прычыны міласэрных і пабожных учынкаў (як, напрыклад, наведванне хворых, міласціна) або за праматўленне ў пэўныя дні адпаведных малітваў. Большасць з гэтых мераў была пакліканая актывізаваць літургічнае жыццё насельніцтва, і гісторык хрысціянства можа пачэрпнуць з пералічаных актаў нямала матэрыялу для разважанняў.

Другі раздзел гэтай часткі мае загаловак «Навукі і напаміны братам і сёстрам тых абавязкаў, якіх яны, уступіўшы ў брацтва, потым заўсёды павінны пільнавацца». Гэтыя правілы пачынаюцца з такіх пунктаў як абавязак узаемнага пільнавання ў захаванні паводзінаў паводле Божых запаведзяў і касцёльных пастановаў; паслушэнства кіраўніцтву брацтва; выкананне статутавых правілаў, а дзеля гэтага — іх ведання і рэгулярнага перачытвання (тут мы бачым прычыну, з якой брашура не раз перавыдавалася) і інш.

Братчыкам прадпісвалася выконваць шэраг патрабаванняў, агульных для усяго Каталіцкага Касцёла, і таксама спецыфічных; у некаторых выпадках пры згадцы агульнахрысціянскіх абавязкаў адмыслова вылучаецца брацкая спецыфіка, як, напрыклад: «Няхай захоўваюць пасты, Касцёлам прадвызначаныя, а асабліва — у вігілію Божага Цела як уласнага свята гэтага брацтва». Спецыфічныя абавязкі братчыкаў зазвычай звязаныя з ушанаваннем Найсвяцейшага Сакрамэнту, выкананнем запаведзі любові да бліжняга, а таксама з выкананнем традыцыйных формаў дзейнасці брацтва. Тут мы сустракаем, у прыватнасці, больш вялікі, чым для звычайнага верніка, штогадовы мінімум прымання Камуніі (натуральна, з папярэдняй споведдзю), прысутнасць на сходах і іншых брацкіх мерапрыемствах, удзел у штомесячнай працэсіі з Найсвяцейшым Сакрамэнтам, наведванне хворых, малітву за іх і інш.

Раздзел завяршаецца канцоўкаю, напісанаю ў духу таго досыць талерантнага часу: «І ўрэшце, практыкуючыся ў пабожных учынках, у Булах апісаных, атрымаюць [братчыкі] адпусты і міласці, нададзеныя арцыбрацтву Айцамі Папамі [Рымскімі]; а калі б хто гэтыя учынкі не здзяйсняў, то грэху ў гэтым ніякага не мае, але страціць гэтак вялікі скарб духоўны» [2, 18–19 нн].

«Нясвіжская частка». Другая частка тэксту была падрыхтаваная самімі нясвіжскімі езуітамі. Яна складаецца з некалькіх невялікіх раздзелаў рознага характару: першыя два маюць выразна тлумачальнае прызначэнне,



Пляц Шасакавалі на прадмесці святога Пятра ў Рыме з відам на касцёл св. Якуба (паводле гравюры XVII ст.).



Пляц Шасакавалі з відам на касцёл св. Якуба (паводле гравюры XVIII ст.).

апошні з'яўляецца статутавым.

Мэта першага раздзела, азагалоўленага як «Некалькі навук дзеля разумення і ўжывання адпустаў», зразумелая ўжо ў самой назве: ягоная задача — патлумачыць вернікам, што ўяўляюць з сябе адпусты. Трэба думаць, што на Беларусі гэтае паняцце ў той час было яшчэ мала пашыраным і патрабавала дадатковага тлумачэння; зрэшты, згадаем, што езуіты прыбылі ў Нясвіж, каб весці місійную працу сярод іншаверцаў, якія не заўсёды былі знаёмыя з рэаліямі каталіцкага рэлігійнага жыцця.

Не менш красамоўную назву мае і другі раздзел гэтай часткі — «Пажытак і спосаб чынення рахунку сумлення». З аднаго боку, штодзённы рахунак сумлення згадваецца асобным пунктам сярод абавязкаў членаў рымскага арцыбрацтва Божага Цела; з другога ж, гэтая практыка належала да найбольш папулярных духоўных практыкаванняў езуіцкай спірытуальнасці. Таму не дзіўна, што ў выданні ёсць адмысловая нататка, якая прапагандуе рахунак сумлення і вучыць, як яго ажыццяўляць.

Найбольшую цікавасць уяўляе трэці раздзел, які мае статутавы характар. У раздзеле ёсць канкрэтны загаловак: «Абавязкі брацтва Божага Цела Societas JESU, найвялебнейшым у Богу Яго міласцю святаром Бэнэдыктам Войнам, біскупам Віленскім, зацверджаныя»; змешчаная ў раздзеле інфармацыя дазваляе ўявіць, як фунцыянавала брацтва ў Нясвіжы.

Уступаючы ў брацтва, вернік павінен быў учыніць дасканалую споведзь з усяго папярэдняга жыцця і прыняць Сакрамэнт Найсвяцейшага Цела і Крыві Сына Божага. Гэтае месца ў тэксце не простае для каментавання, бо з XIII ст. у Касцёле Камунія прымалася вернікамі толькі ў постаці Цела Хрыстова, гэта значыць хлеба (віно пасля Эўхарыстыі спажываў толькі святар). Таму не зусім зразумела, ці мае працытаваны выраз даслоўнае значэнне: ці сапраўды падчас уступнага прычасця братчыкі спажывалі, як у Праваслаўнай Царкве, хлеб і віно. Больш рэальным здаецца метафарычны сэнс гэтай цытаты, бо цяжка ўявіць, што магло дапускацца такое парушэнне літургічнага канону. Зрэшты, можа быць, тут варта ўлічваць водгукі ватыканскіх рашэнняў у справе т. зв. *місійнай акамадацыі* (прыпадабнення да звычаяў місіянаваных народаў) — ва ўсялякім разе, гэтае пытанне патрабуе асобнага разгляду.

Далучыўшыся да брацтва, вернік атрымліваў адначасова правы і абавязак удзельнічаць у яго літургічным і сацыяльным жыцці. Так, у кожную першую нядзелю месяца ён мусіў наведваць агульныя спатканні братчыкаў, на якіх абмяркоўваліся супольныя праблемы, збіраліся грашовыя складкі і слухаліся прамаўляныя святарамі казанні. Такім спатканням, відаць, папярэднічала Імша (пра што ў тэксце не згадваецца, але вынікае з традыцыйнай практыкі Касцёла) і абавязковая працэсія з Найсвяцейшым Сакрамэнтам; каля алтара складалася адмысловае ахвяраванне, якое пазней таксама ўлівалася ў супольную касу — брацкую скрынку.

Апрача выканання агульнапрынятых у Каталіцкім Касцёле прадпісанняў, братчык прымаў на сябе шэраг спецыфічных абавязкаў, абумоўленых дзейнасцю брацтва. Так, разам з абавязковым для ўсіх вернікаў наведваннем Велікоднага набажэнства (з папярэдняю споведдзю) сябры брацтва павінны былі ў Вялікую пятніцу[5] — «дзеля заахвочвання іншых да сапраўднага жалю ды пакуты за грахі і для паказання добрага прыкладу» — чыніць самакатаванне бізунамі перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам і ўдзельнічаць у працэсіі.

У іншыя перыяды братчыкі павінны былі спавядацца яшчэ чатыры разы на год: у нядзелю сярод актавы Божага Цела (бо на само свята прыпадаў кірмаш,

і людзі, натуральна, былі занятыя свецкімі справамі); на свята Унебаўзяцця Панны Марыі; у дзень асвячэння фарнага касцёла Божага Цела — парафіяльны фэст, які прыпадаў на другую нядзелю кастрычніка; і на урачыстасць Усіх святых.

Штоквáртал, у адну з нядзеляў брацкага спаткання, пры ўпрыявілеяваным алтары Святога Крыжа мусіла быць адпраўленай жалобная Імша за памёрлых сяброў брацтва, на якую павінны былі збірацца ўсе братчыкі; ахвяраванні, сабраныя падчас гэтае Імшы, ішлі на ўтрыманне святароў і студэнцкае моладзі.

Калі братчык бачыў на вуліцы святара, які ішоў з Найсвяцейшым Сакрамэнтам да хворага, або чуў адпаведны звон (падчас падобных візітаў святару спадарожнічаў міністрант са званочкам), то або сам мусіў суправаджаць Найсвяцейшы Сакрамэнт, або пасланць з гэтаю мэтаю кагосьці з дамоўнікаў, або, у крайнім выпадку, укленчыўшы дзе выпадзе, прамовіць пацеры і «Анёльскае прывітанне» за здароўе той хворай асобы.

Сваімі паводзінамі братчыкі павінны былі паказваць добры прыклад іншым вернікам. У прыватнасці ім належала: настаўляць тых, хто блюзнерыць супраць Найсвяцейшага Сакрамэнту і ўнікаць размоваў з такімі людзьмі; наведваць набажэнствы і пабожна слухаць святую Імшу (што не для ўсіх было лёгка, бо ўніфікаваная пасля Трыдэнцкага Сабору богаслужба адпраўлялася выключна на лаціне); часта прыступаць да Камуніі; сцерагчыся смяротных грахоў (сярод якіх названыя ліхвярства, п'янства і цялесная разбэшчанасць); мірыць пасвараных; захоўваць паміж сабою адзінства ды любоў хрысціянскую, а таксама практыкавацца ў разнастайных цнотах «дзеля іншых паляпшэння, а для сябе атрымання ад Пана Бога неадменнай узнагароды».

Як і варта было чакаць, гэты тэкст хоць і з'яўляецца меншым паводле аб'ёму, але ў агульных рысах наследуе «Навукі і напаміны» з першай часткі: фактычна кожнае нясвіжскае правіла мае паралель у рымскім тэксце. Тым не менш, нясвіжскія аўтары праявілі і значную гнуткасць, вылучыўшы асобныя пункты або «згладзіўшы» шляхам простага пераліку іншыя. Разам з тым заўважныя ў змесце абавязкаў і некаторыя адрозненні: напрыклад, рымскі братчык павінен спавядацца і прыступаць да Камуніі, прынамсі, чатыры разы на год, а нясвіжскі — апрача абавязковай велікоднай споведзі — мінімум пяць разоў штогод. Былі, відаць, узятыя пад увагу і кліматычныя асаблівасці Беларусі: валасяніцы рымлянаў падчас працэсіі ў Вялікую пятніцу нашым суайчыннікам замяняла «dyscyplina» (самабічаванне) перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам.

Нясвіжскае выданне «Кароткага збору адпустаў, прывілеяў і міласцяў...» вядомае на цяперашні момант толькі ў адным асобніку. Гэта помнік кніжнай гісторыі Беларусі, унікальны дакумент, што пралівае святло на мінуўшчыну Каталіцкага Касцёла ў Еўропе і, у тым ліку, на некаторыя пытанні, звязаныя з Контррэфармацыяй і дзейнасцю езуітаў. Гэтае выданне ўяўляе з сябе пазнейшае ўзнаўленне больш ранняй, 1632 года, віленскай публікацыі, якая на сённяшні дзень даследчыкам не вядомая і пра якую сёння можна меркаваць толькі на падставе звестак нясвіжскага перавыдання.

**Выкарыстаная літаратура і крыніцы**

1. Przyłęcki, F. Rekollekcye duchowne Na ośm dni rozłożone, lubo wszelkiego stanu pobożnym Katolikom, osobliwie jednak Zakonnym Osobom Zak: Oyca S. Franci: służące. Dla pociechy y pożytku Duszy na pustyni z Bogiem rozmawiającey / przez X. Franciszka Przyłęckiego, S. O. Franciszka XX. Bernardynów Prowincyi Litewskiey. Za pozwoleniem Starszych powtórnie do Druku podane. — W Nieświżu: w Drukarni J. X. Mości in Col: Soc: JESU, 1770. — in 8°. — [366] p. (КП 45 142/1, алігат № 1 у аднайменным канвалюце).
2. Krotkie zebranie odpustow, przywilejow i łask, nadanych od szczęśliwey pamięci Leona Papieża X. i od innych naywyższych Biskupów. Wielebnomu arcybractwu. Bozego Ciała, założonemu w Kościele farskim Swiętego Jakuba Scossacavili [sic!], na przedmieściu S. Piotra w Rzymie. Też łaski są przymnożone od szczęśliwey pamięci Sixta Papieża V. Roku 1590. A z Włoskiego na Polski przetłumaczone, za staraniem Braci Bożego Ciała w Nieświeżu będących. Przydane też są nauki i upominania, które winni chować Bracia i Siostry tegoż Bractwa. — [W Nieświżu: w Drukarni Xiążęcey Collegii Soc: JESU, 1761]. — [24] s. (КП 45 142/3, алігат № 3 у канвалюце: Przyłęcki, F. Rekollekcye duchowne…).
3. Estreicher K. Bibliografia Staropolska: Электронны рэсурс // www.estreicher.uj.edu.pl. — Доступ: 05.07.2013.
4. Лаўрык Ю. М. Выданні нясвіжскай езуіцкай друкарні другой паловы XVIII ст. у фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь // Здабыткі: дакум. помнікі на Беларусі / НББ; склад. Т. А. Сапега, А. А. Суша. — Мінск, 2014. — Вып. 16. — С. 169–179.
5. Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai, 1576-1805: Bibliografija / K. Čepienė, I. Petrauskienė; Lietuvos TSR Mokslų akademijos Centrinė biblioteka. — Vilnius: Lietuvos TSR Mokslų akademijos Centrine biblioteka, 1979. — 540 p., [8] iliustr. lap.
6. Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy. 1564–1995 / Oprac. Ludwik Grzebień SJ przy współpracy zespołu jezuitów. — Kraków: Wyd-wo WAM, 1995. — 882 s., [4] k. tab.

---

[1] Тут і далей у цытаваных загалоўках і ўрыўках захоўваецца арфаграфія арыгінала.

[2] Гэтая старажытная царква, вядомая з VIII ст., была зруйнавана ў 1937 годзе падчас вядзення будаўнічых работ.

[3] Канчаткова яго аформіць толькі канстытуцыя папы Клімэнта VIII ад 7 снежня 1604 г.

[4] У абрадавасці Касцёла назва вечаровай малітвы (ад лац. vesperus).

[5] Менавіта да гэтага дня — г. зн. да смерці Хрыста на крыжы і Ягонага пахавання, пачаткова (у Сярэднявеччы), прымяркоўвалася свята Божага Цела; пазней яно было перанесенае на пазнейшы перыяд літургічнага года, паколькі жалоба ў часе «tridium Paschalis» не дазваляла ўрачыстага святкавання.



Роспісы галоўнай навы і купала касцёла Божага Цела ў Нясвіжы. 1751–1753 гг.

# Роспісы фарнага касцёла Божага Цела ў Нясвіжы

У XVIII ст. беларуская культура развівалася ў складаных умовах. Гэта было звязана з асаблівасцямі грамадска-палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага жыцця Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзілі беларускія землі. Айчынная культура ў гэты час развівалася няроўна і неаднолькава, асабліва ў мастацкіх стылях. Да сярэдзіны XVIII ст. тут вызначальную ролю адыгрывала барока, але з 1740—1750-х гг. у мастацкую практыку пачаў актыўна ўваходзіць напрамак ракако, а ў канцы стагоддзя з'явіўся класіцызм. Уся другая палова XVIII ст. пазначана суіснаваннем у беларускім мастацтве названых стыляў і кірункаў.

У гэты перыяд важную ролю ў развіцці культуры пачалі адыгрываць буйныя магнацкія маёнткі-рэзідэнцыі. Сярод такіх цэнтраў вылучаецца, у першую чаргу, Нясвіж, дзе быў заснаваны тэатр, збіралася бібліятэка, архіў, была створана карцінная галерэя, сабраны калекцыі археалагічнага і этнаграфічнага характару, будаваліся і аздабляліся фрэскамі велічныя храмы.

Роля манументальных роспісаў у інтэр'ерах храмаў была надзвычай вялікаю. Лепшыя прыклады такіх твораў паказваюць іх здольнасць аб'ядноўваць у адзіны мастацкі вобраз усе рашэнні інтэр'ера, даносіць да чалавека найважнейшыя ідэі хрысціянскага вучэння. Роспісы XVIII ст. ужо не будаваліся па кананічных схемах, як гэта было ў ранейшыя часы, у іх больш свабодна трактаваліся евангельскія сюжэты, уключаліся гістарычныя сцэны, змяшчаліся нават партрэты вядомых асобаў. Найбольш значныя жывапісныя цыклы вызначаліся зададзенай праграмнасцю, дзе галоўная ідэя ўспрымалася ў супастаўленні ўсіх частак роспісаў.

Выдатным помнікам манументальнага жывапісу ў сталіцы некаранаваных каралёў Вялікага Княства Літоўскага — Радзівілаў, з'яўляюцца роспісы нясвіжскага фарнага (да 1772 г. езуіцкага) касцёла Божага Цела, выкананыя ў 1751—1753 гг. Ксавэрыем Дамінікам Гескім з памочнікамі.

Па пластычным і вобразным вырашэнні, трактоўцы асобных сцэн, насычанасці выяваў сімваламі, алегарычнымі ўвасабленнямі фрэскі нясвіжскага касцёла адлюстроўваюць позні этап стылю барока. Але ў іх дастаткова адчувальныя настроі класіцызму, якія можна заўважыць у большай яснасці, стрыманасці кампазіцый, некаторым лаканізме формаў, узнёсласці характарыстык. Гэтыя рысы маглі з'явіцца і ў выніку




«Гэта чалавек».
Роспіс трансепта касцёла.

панаўлення пачатку XX ст., аднак ацаніць ступень умяшання майстроў, якія працавалі тады ў касцёле, вельмі цяжка.

Сістэма роспісаў храма даволі складаная. Яна ўключае больш за 40 кампазіцый: шматлікія выявы асобных фігураў, архітэктурных формаў, а таксама імітацый у тэхніцы грызайля скульптурнага дэкору. Яе пабудова пачынаецца з алтара, дзе змешчаны вялікі алтарны абраз «Тайная Вячэра», выкананы Ксавэрыем Дамінікам Гескім. Тут задаецца галоўная тэма манументальнага ансамбля — ахвяраванне, Эўхарыстычная таямніца, якая знайшла далейшае развіццё ў роспісах. У прасторы ад конхі да перакрыжавання трансепта змешчаны сцэны сімвалічнага ахвяравання, барацьбы нябесных сілаў са злом, якія завяршаюцца алегарычнай выяваю трыумфу Каталіцкага Касцёла. У першай паказаны анёлы, якія трымаюць ягня над ахвярнікам, у другой — барацьба анёлаў на чале з арханёлам Міхалам з дэманамі, якія падаюць у пекла. Кампазіцыя вылучаецца асаблівай дынамікай і складанымі ракурсамі фігур.

Бліскучым адлюстраваннем асаблівасцяў барочнай мастацкай мовы з'яўляецца сцэна, дзе паказаны трыумф Касцёла, вобраз якога ўвасоблены ў выглядзе маладой жанчыны з папскай тыярай на галаве. Да яе набліжаюцца фігуры, якія сімвалізуюць іншыя веравызнанні — юдаізм і іслам. У роспіс уключаны дэталі, закліканыя дадаткова тлумачыць і дапаўняць змест сюжэта: грубая вопратка персафінікаваных асобаў, келіх у руцэ жанчыны, з якога б'е маланка, талерка з хлябамі, сімвалічнае ўвасабленне веры ў выглядзе выявы якара. Сэнс кампазіцыі складаецца са зместу, што ўкладваецца ў выявы асобных прадметаў, таму выяўленае раскрываецца ў апасродкавым выглядзе. Цэльнае ўяўленне ад роспісаў фарміруецца быццам з кавалачкаў мазаікі, у кожным з якіх заключаны свой змест.

Скляпенні трансепта з паўночнага боку распісаны сцэнамі, прысвечанымі Хрысту, з паўднёвага — Марыі. Паводле сімволікі архітэктуры каталіцкай базылікі, рукавы трансепта звычайна трактаваліся як раскінутыя рукі ўкрыжаванага Хрыста, таму кампазіцыям надаваўся асабліва важны сэнс. У трансепце знаходзяцца сцэны «Гэта маці», «Нараджэнне Хрыстова», «Пакланенне кантынентаў», «Саламон і царыца Саўская» (паўднёвы бок) і «Гэта чалавек», «Бічаванне Хрыста», «Абрагам вядзе Ісаака на ахвяру», «Ахвяраванне Абрагама» (паўночны бок).

На скляпеннях галоўнай навы, за падкупальнай прасторай, і на скляпеннях бакавых наваў змешчаны вялікі цыкл



«Бічаванне Хрыста».
Роспіс трансепта касцёла.

кампазіцый: «Сустрэча Абрагама і Мельхізэдэка», «Сон прарока Іллі», «Цуд у Эмаўсе», «Давід — псальмапевец», «Святая Цэцылія», «Прарок Ілля ў пустыні» і «Вяртанне блуднага сына». Апошняя кампазіцыя з'яўляецца шырокавядомым біблейскім сюжэтам, які набыў у касцёле новы сэнсавы кантэкст, бо ён паказаны ў атачэнні іншых выяваў, якія перагукаюцца з Эўхарыстычнай тэмай. На высокіх прыступках дома сядзіць старац з сівымі валасамі, які толькі што падняў з каленяў свайго сына, што вярнуўся да бацькі. Асаблівай выразнасцю вылучаюцца рукі старога: адной ён падтрымлівае сына, другой, адведзенай убок, імкнецца яго абняць. У гэтых руках, у персанажах біблейскай прыпавесці знаходзяць сцвярджэнне важныя ідэі не толькі аб усёдаравальнасці і бацькоўскай любові, але і аб пошуках чалавекам правільнага шляху ў жыцці. Кампазіцыя нараджае думку аб няпростых

шляхах асобы да сапраўднай хрысціянскай веры.

У падкупальнай прасторы знаходзяцца дваццаць выяваў святых, айцоў Касцёла і Царквы — Аўгустына, Васіля Вялікага, Яна Златавуснага, Афанасія Александрыйскага, Грыгорыя Назіянзскага, святых Казіміра, Мікалая, Ганны, Тэафіла, Яўфіміі, Станіслава і інш. Кожная з іх — выкананая ў тэхніцы грызайль скульптура, змешчаная ў напісанай нішы. Жывапіс вельмі дакладны і прафесійны — ён не толькі перадае пластыку, але і ўлічвае характар натуральнага асвятлення. Ніжэй, на паверхнях ветразяў, у акружэнні архітэктурных формаў прадстаюць чатыры Евангелісты з кананічнымі для кожнага атрыбутамі.

Роспісы Нясвіжскага касцёла Божага Цела займаюць пачэснае месца ў гісторыі беларускай культуры. У іх увасобіліся галоўныя рысы манументальнага мастацтва XVIII ст., асноўныя прынцыпы барока — яго сімвалічнасць, імкненне да алегорый, і іншасказальнасці. Аўтары фрэсак выкарысталі ілюзіяністычныя эфекты не толькі для таго, каб паказаць фігуры ў складаных ракурсах, але і для перадачы важнага сэнсу евангельскіх сцэнаў. Разам з тым роспісы дэманструюць увагу мастакоў да бытавых дэталяў — у іх шмат трапна перададзеных момантаў рэальнага жыцця, але гэта не перашкаджае аўтарам насычаць сцэны алегорыямі, сімваламі, іншаказаннямі, што характэрна для стылістыкі перыяду позняга барока.

*Вячаслаў Мазалеўскі — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж».*




«Ахвяраванне Абрагама».
Роспіс трансепта касцёла.




«Святая Сям'я».
Роспіс трансепта касцёла.



Роспіс конхі прэзбітэрыя касцёла.



Данута БІЧЭЛЬ

# Толькі словы

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), «Дайсці да Каложы» (2017), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016). Жыве ў Гродне.

## Анёлы на дрэвах

На дрэвах мае анёлы
гукаюць са мной вясну…
Калі ёсць у каго сумленне —
то яно мае формулу сну.

Нейкая жменя, імгненне
мінулага захаплення,
нейкая рэштка
на дне дзіравага рэшатка
памяці
пасля лютаўскай замеці…

як бліскавіцы пасля навальніцы,
адчуванне бязмежнага шчасця,
ігнараванне напасцяў…

Адважнымі ў снах бываем,
у небе падтрымку маем,
анёлы ўздымаюць высока,
куды — ні сінічка, ні сойка…

Анёлы перасяляюць
на пляцы дзівосных местаў,
дзе людзям бывае цесна,

на светлае сумаўленне —
за каго ўзносім маленне…
каб змог з нябёсаў спусціцца
ціхім піскам сініцы…

У дзявочым гаёчку,
невідочны, схаваўся дзе ты,
калі рассыпала ночка
свае залатыя манеты?..

Страх смерці глыбей, чым сорам,
глыбей, чым сон і сумленне,
ды смерць, нібы вызваленне —
для замучаных горам…
Несмяротнасць — жыве ў імгненні,
мастацтва рамак не мае…
Малітва ў рамках трымае.

А звычайныя простыя словы
не разбудзяць людзей талковых,
ні народу не родзяць, ні мовы…
Марны клопат, дармовы.

*19.01.2018 г.*

## Малітва

Божа, маіх дзяцей —
Віку, Валеру, Стася,
Аксеню, Андрэя, Антося,
пад крылы свае схавай,
строгім Айцом з імі будзь,
калі на грахі ідуць,
як патруль, спыні, затрымай.

Надзялі іх думкі пакорай,
каб не было яшчэ горай!
Выводзь на светлую радасць,
адганяй ад іх супастатаў.

Запоўні іх розум святлом
мудрасці Твайго Евангелля!
Навучы тварыць Тваю волю, Спасе!
Добрым з імі застанься!

Ты, наш Божа Адзіны!
Уладар Усясветны!
Змілуйся над дзецьмі маімі!
Вяртай да Тваіх запаветаў!

Захавай іх пад сваім крыллем!
Збаўляй ад духа злога,
адгані ад іх ворагаў, злыдняў,
напоўні любоўю да Бога!

*31.01.2018 г.*

## Залатая пчала ў залатым садку

*…сон, вызвалены лётам пчалы*

Залатая пчала ў залатым садку
назбірала залатога мядку.
І я свае кросенцы ціха датку.

Залатое сонейка па срэбнай рацэ
купаецца ў маці-зямлі малацэ.
Залатая хмарка, распрануўшыся дагала,
па халодным Нёмане ў Балтыку паплыла,
У Нёмане донца дастала,
залатыя клубочкі зматала,
так і я свой сувой у восемдзясят нітоў
аснавала, даматала, даткала.

Добра было тут мне
ў сонечнай цёплай вясне,
у срэбным восені-лецейку,
у пуша́най зіме.
Пчолкі слоўцы збіралі,
трутні не любілі мяне.

Кроцікі-дроцікі-плотачка-кротачка-верш.
Ты маім болем полем жытнёвым — найлепш.
А я ад тых успамінаў
у салодкі машок уцяку…
на мядзведзіку ці на ваўку,
на спаленым залатым павуку,
сярод вужакаў, соў ды імхоў —
у сончыкавы захоў…

Як мы беглі па мосце,
як нам бераг зайздросціў —
не раскажуць ім нашы косці!

*11.02.2018 г.*

## Спярша

Спярша…
У шыбы вокнаў б’ецца пан Падвей.
У снах жыццё праходзіць цікавей.
У тым старым бяздомным цёплым сне
шчэ нехта не забыўся пра мяне…
шчэ нехта, файны, памяць не згубіў:
заўважыў некалі, служанкай не зрабіў,
сам быў вялікім, стаў цяпер малым,
душой прыліп, як смоўжык да скалы,
лячыўся, а заснуў, стаміўся, усох,
так прыляпіўся да жыцця, як мох…
Як у смаўжа, ў асілка-малыша
у выспятку сухім яго душа…
Тут продкі птахамі былі спярша…

## Птахамі продкі былі

Але
не на каменнай скале,
на касцях,
на болесцях, на стагоддзях —
Каложа,
вогненны птах,
з валуноў і плінфы на небаўзыходзе.

Гэтак паўстанеш і ты,
наш святы і грэшны народзе,
з Божанькам — не пры чужым стале…

Дойлід — ён шліфаваў лекавыя камяні —
у агні.
Лучнік пацэліў у сэрца чужое лук.
Цвіў, не крануты касой, не пакошаны луг.
Братка Нёман. Паводка…
Барыс і Глеб…

Вежы замкаў князёў, каралёў.
У капцах палае галлё…
Ад Грунвальда жар не ачах!
Адчыняе вароты матка з дзіцём на плячах,
у руках у сына вянец,
учапіўся за косы, абхітрыў яе — маладзец!
вырасце князь ці купец!
Сцяна.
Сутарэнне. Склеп.

*12.02.2018 г.*

## Світанак

Світанак пасля начных прыгнятанак…
Світанак глыбокіх сэрцавых ранак…
Світанак — перад адлётам прыстанак…
Світанак на цёплых зёлках палянак…
Світанак у трох куточках альтанак…

А хмаркі плывуць нацянькі,
нібы мосцікі ўдоўж ракі.
На дваістым дне той ракі
рак палюе, вялізны такі.
А на мосцік драўляны ўдоўж
прысмактаўся той слізкі смоўж.
Паслізнешся, нібы няўзнак —
будзеш там, дзе зімуе рак.

Я не плачу аб слове памерлым,
я на полымі скамянелым
малюю сцяжок белым мелам.

А нехта маўчыць за сталом,
пад скамянелым крылом
гартае стратаў важкі том…

А на яблыні зоркі расіцу п’юць,
зялёным яблыкам заядуць,
напіўшыся, у хмаркі свае палятуць.

Жаўранак будзіць дасвецце,
з хмаркі страсае вецер,
расцвітае акна ружы-квет,
усміхаецца ўвесь белы свет!

Вядзёрка ў студню дае нырца,
падстаў збаночак — налье жыцця.

Завуркоча ў коміне гром,
Дух Святы прыходзіць з дажджом.
Божанька вітае дабром,
дабрынёй напаўняе дом
і праводзіць з поўным вядром.

# «Гродзенская ратуша, 1784»

## Пра габелен Алены Шунейкі




Гарады і мястэчкі нашай Краіны прыгожыя, і кожнае места мае сваё аблічча, сваю царкву ці касцёл. А некаторыя гарады маюць ратушу, якая звычайна ўзвышаецца ў гістарычным цэнтры. Калі была ратуша, горад меў прывілеі самакіравання, дадзеныя яму вялікім князем літоўскім. Праўда, першыя гарады ВКЛ, якія атрымалі правы самакіравання каля 1390 г., — Вільня, Брэст і Гародня — мелі так званае рускае, ці літоўскае права. А ўжо пазней магдэбурскае права Гародні даў вялікі князь літоўскі Аляксандр у княскім двары ў Берштах, дзе праходзіў сойм, у дзень святога Бэнэдыкта, 11 ліпеня 1496 года. Ратуша ў Гародні была пабудавана ў 1513 годзе, яе выгляд захаваўся на гравюры Цюнта (1568 г.). У канцы 1660 г. будынак з вежаю быў пашкоджаны нашэсцем маскоўскага войска і паўтара стагоддзя стаяў не адноўлены.

У канцы XVIII ст. ратушу перабудавалі ў класічным стылі. У такім выглядзе будынак з гандлёвымі радамі вакол яго прастаяў да 1946 года. Цяпер у Гародні няма ратушы, а Мінск і Магілёў свае ратушы аднавілі.

...На святой Імшы па-беларуску ў катэдры Францішка Ксавэрыя мы з Аленаю Шунейка сядаем справа на другой лаўцы. Алена Шунейка — хросная маці маіх унукаў — Стася і Антона. Алена ходзіць пешкі на працу ў АНМЦ, на вуліцу Савецкую, 8. У гэты раз мы з Аленаю вяртаемся пешкі з касцёла і размаўляем пра габелен «Гродзенская ратуша, 1784», які Алена ткала каля года, а 25 красавіка яго знялі з кроснаў і вывесілі ў фае Навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці для агляду...

Алена паказвае мне тое месца, дзе яна нарадзілася на вуліцы Зялёнай, дзе сям'я Шунейкаў доўга жыла (іх дом разбурылі, калі расшыралі вінзавод). З горкі над Гарадніčанкай відаць цэнтр Гародні… «Гэта нейкі цуд, — кажа Алена, — горад разбураюць, перабудоўваюць, а ён усё роўна мае столькі красы, што ўсяго ў душы не змясціць! Я вось так хаджу пешкі на працу і дадому, увесь час тымі ж вулкамі, і душа напаўняецца харством. Я ўжо выткала ўсе касцёлы і Каложу, толькі францішканскі касцёл Маці Божай Анёльскай не кладзецца на кросны: у ім столькі архітэктурных дэталяў, што перанесці іх нават на графічны малюнак цяжка, а спрасціць для габелена нельга, бо змарнуецца ўся прыгажосць»…

Захапленне народным ткацтвам, вывучэнне традыцый гродзенскіх ткачых, асваенне падвойнага ткацтва і прыдуманае Шунейкамі ткацтва габеленаў у тэхніцы аднабаковага перабору — усё пачыналася ад бацькі, Фелікса Антонавіча. Прыехаўшы




Ратуша ў Гародні (паштоўка).

ў Мінск з вёскі, бацька навучыўся ткаць у майстра Міхася Тарасікава. З Мінска прыехаў у Гародню ў 1947 годзе і ўладкаваўся працаваць у Дом народнай творчасці: паставіў кросны і набраў таленавітых ткачых, з якімі пачаў ткаць вялікія тэматычныя габелены, прысвечаныя гістарычным і палітычным падзеям. Эскізы для майстроў малявалі вядомыя мастакі… Неўзабаве сустрэў дзяўчыну — Рэгіну Васільеўну, родам з вёскі Масаляны, якая працавала швачкай на швейнай фабрыцы. Пажаніліся, нарадзілі дзяцей — Алену, а праз чатыры гады Яўгена.

У 1974 годзе Алена скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, факультэт мадэлявання і мастацкага афармлення тканін для тэкстыльнай прамысловасці, працавала на фабрыках мастацкіх вырабаў у Магілёве і Гародні. Яўген скончыў аддзяленне мастацкага ткацтва; каб абараніць дыплом, выткаў габелен «Народныя ткачыхі».

Другі габелен Яўгена Шунейкі, «Крыніца жывой вады», быў вытканы ў 1981 г. у Гародні да 90-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча і падараваны музею паэта. З гэтага габелена пачаў стварацца Музей Максіма Багдановіча ў Гародні. Габелен, змешчаны ў верандзе музея, прыцягваў наведвальнікаў, спрыяў разуменню паэзіі Максіма. Фелікс Антонавіч часам прыходзіў у веранду і любаваўся габеленам сына...

З гэтага габелена пачаўся новы этап ткацтва сям'і Шунейкаў. Фелікс Антонавіч прыдумаў вертыкальныя кросны, замяніўшы панажы ручным пераключэннем блока, што давала магчымасць бачыць палатно з усіх бакоў. Яўген ствараў эскізы на кардоне. Бацька падбіраў адпаведныя ніткі. За кросны пасадзілі Алену. Яна гэтыя ніткі перабірала, сукаючы часам тонкія нітачкі некалькіх адценняў таго самага колеру ў адну нітку, каб стварыць адпаведную гаму. На тканіну накладваецца празрыстая пераборная плёнка-дошчачка, графічна падзеленая на 5-міліметровыя квадраты. Знайсці колеравую гаму для кожнай дэталі — вельмі складаная і марудная праца…

У Фелікса Антонавіча было незвычайнае адчуванне колераў: ён умеў змяшаць фарбы так, што атрымліваў дасканалыя адценні. Гэтае ўменне ад бацькі перадалося дачцэ. Калі Алена стамляецца ад кроснаў, яна малюе акварэллю кветкі і ўжо стварыла калекцыю такіх далікатных акварэляў.

Няўрымслівы Фелікс Антонавіч, вывучаючы народнае ткацтва, нічога не прапусціў: завёз Алену ў Адэльск, пакуль была жывая адна на ўсю Беларусь ткалля Ядвіга Райская, якая ткала падвойныя дываны. Алена навучылася ў яе гэтаму мастацтву і таксама тчэ падвойныя дываны…

У народным ткацтве — посцілках, перабіранках — вуток кладзецца на аснову, ніткі асновы і вутка пераплятаюцца, і ўзор відаць з двух бакоў. Прыдуманая Шунейкамі тэхніка аднабаковага перабору дае магчымасць заткаць ніткі асновы так, што іх



Алена Шунейка з бацькам і братам.

зусім не відно. Гэта ўнікальнае майстэрства.

Творчасць Алены Шунейкі па тканні габеленаў падвойнага і пераборнага аднабаковага ткацтва занесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

Так Алена «даткалася» да свайго на сённяшні дзень самага дасканалага габелена — «Гродзенская ратуша, 1784».

«Каб параўнаць рэальнасць з мараю, — гаворыць яна, — я выбіраю старую паштоўку ратушы: перад калонамі — фурманкі з людзьмі і без людзей, коні хрумстаюць авёс у мяшэчках на мордах. Відаць прыгожы горад, на месцы якога пабудавалі палац тэкстыльшчыкаў».

Вытканая ратуша — сонечная, святочная, бо яна ў марах, у нябёсах...

Чаму нам так хочацца павярнуць гэты пясочны гадзіннік на пляцы, пераставіць Гародню з мінулага ў будучы час, пакінуць нашчадкам і болей не разбураць? Няхай бы гэтыя бязвізавыя госці з Расеі куплялі сувеніры з ратушай, з Каложай, вярталіся б дадому не толькі з ваўкавыскімі кілбасамі, а з сэрцамі, запоўненымі нашай дабрынёй...

Вакол ратушы Шунейкаў — нябёсы зверху і знізу. На вежы — Алень з залатым крыжам… Людзі спакойныя. На небе, паміж фараю Вітаўта і катэдраю Францішка Ксавэрыя, па зорнай дарожцы яны ідуць парамі, святочна прыбраныя... Каложская царква таксама віднеецца пад месяцам на даляглядзе. Месяц і сонца свецяць адначасна. Угары некалькі тыповых гродзенскіх будынкаў. Насупраць ратушы пляц завяршае дом купцоў Мураўёвых. Гэтага дома «з вушамі» не было ў 1784 годзе! Яго пабудавалі пазней, нягледзячы на раскраданне таго, што ў ім было, калі пачыналі рэстаўрацыю ў канцы мінулага стагоддзя — дом



Алена Шунейка за працаю.

вытрымаў і памятае ратушу.

Перад фасадам ратушы — вартаўнік з ружжом і сабакам, маладая пані з дзецьмі: адно ў калясцы, другое гуляе побач. Конік, запрэжаны ў брычку. Вусаты дворнік з венікам і коцікам... Перад параднымі дзвярыма стаіць сабе ратман у мундзіры, у шапцы з пяром, трымае жэзл таго славутага магдэбурскага самакіравання...

На даляглядзе за ракой Гараднічанкай на гарыстай Зялёнай вуліцы, пад месяцам і пад сонейкам, выткана з успамінаў дзяцінства вясковая хата, у якой нарадзілася Алена. Нарадзілася, навучылася ткаць, як ткалі жанчыны ў Беларусі — ад простых тканін з кужалю і лёну да прыгожых дываноў, ручнікоў і паяскоў. Яна ўдасканаліла народную дасканаласць, каб выткаць гарадзенцам разбураную ратушу, каб людзі памяталі, які прыгожы горад з плінфы, каменя, металу, дрэва і любові пабудавалі гродзенскія майстры...

Алена любіць паўтараць: «Я не ўмею гаварыць…» Але сумела, сказала! Алена сваёй «Гродзенскай ратушай» здзівіла ўсіх майстроў народнага ткацтва, бо ніхто не падумаў, не ўявіў, што так можна выткаць на кроснах. Як наіўна цяпер выглядае любімая намі дзяружка-вясёлка! Народнае ткацтва — гэта аплікацыя: кветкі, птахі накладваюцца на поле, на квадраты…

Я гэты габелен стаўлю побач з мастацкімі шэдэўрамі свету. Уявіць немагчыма, які гэта быў год для Алены! А мы ж увесь час сустракаліся, маліліся разам на ружанцы. Разумею, што брат і сястра працавалі ў звязцы. Прадумаць, вылічыць карціну на кардоне — мастацкая і канструктарская работа, Яўген падказваў сястры напрамак у пошуках гамы колераў, бо цяжка знайсці тыя самыя патрэбныя нітачкі, ссукаць іх і папрыкладваць так, каб выткаць глыбіню, якая б перадала час, напластаванне вёснаў і зімаў, смугу і яснасць дзён у стагоддзях, перспектыву, аб'ём калонаў, якія аж вагаюцца, і шчымлівую радасць жыцця… І ўставіць, уткаць у габелен жывое дзявочае сэрца. Каб такое выткаць, трэба было нарадзіцца Аленаю, прыняць ад Бога долю Алены Шунейкі.

Я віншую Алену з шэдэўрам са слязьмі шчасця!

*Данута Бічэль, Гродна.*



**Аксана Данільчык** — паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005) і інш. Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

# Аксана ДАНІЛЬЧЫК

## Гадзіннік

*Felices los amados y los amantes*
*y los que pueden prescindir del amor.*
Horhe Luis Borjes, «Evangelio apócrifo»[1].

1.
Зрушылася з месца старая хата
і пайшла па дарозе
снягоў дажджоў і тumanоў

азірнулася на падворак
пагладзіла камяні
і пакінула стары гадзіннік

бо нехта ж вернецца

2.
Куды ісці ў якую бездань
таму хто пражыў свой век
шукаць якую таямніцу
ў чаканай цішыні быцця?
Аддаленасць чужога свята
і неагучанасць пачуццяў
ўзыходзяць па галінах дрэваў
і асыпаюцца на дол.

Мажлівасць рухацца па часе
без спланаванага маршруту
напэўна маюць толькі рэчы
застылыя ў чаканні рук.
Іх успаміны быццам казкі
узноўленыя выпадкова
далонямі ў якія ўрэшце
трапляе знойдзеная рэч.

Куды ісці ў якую бездань
таму хто пражыў сябе
каханага і закаханасць

сваю нарэшце адпусціў
туды, дзе спынены гадзіннік
і аднастайныя аблокі,
і дзе прамоклая дарога
снягоў дажджоў і туманоў…

Рука твая кранае вусціш
напружанага наваколля,
над непяройдзеным парогам
застылы нерашучы крок,
і лёгкае падзенне кропляў
як шлях разгортваецца ў часе
да абсалютнасці спакою
які знайсці ты ўрэшце

змог?..

## Творчасць

А ўласна кажучы,
здавалася б, пра што?
Калі ўсе душы прарастуць травою
раней або пазней,
калі ніхто
перакрычаць не здолее
адлегласць,
а ўсе караблікі і караблі
ўрэшце лягуць у адным сутонні,
і ўся непераможная армада
на дно апусціцца,
нашто ўздымаць далоні,
каб сцвердзіць бачнасць
нейкага ўмельства?

І калі ноч
павісне чорным кажаном,
а раніцай
гатычныя настроі
уздымуцца
у чысціню паднеб'я,
і сонца блісне
водбліскам вясёлкі
па вострых выступах
спічастых вежаў,
жыццё напоўніцца
прыкметамі
сапраўднага майстэрства
Таго,
Хто ўсё стварыў.

Каб ты засведчыў.

І ты ўглядаешся
ў абрыс Яго стварэнняў
і адпаведнае знаходзіш
вымярэнне...

* * *

*El olvido es la única venganza y el único perdón.*
Horhe Luis Borjes, «Evangelio apócrifo»[2].

Толькі так — ад Міранкі да Кромані,
Па шляху ад вады да вады.
То між пушчаў таропкага гоману,
То мастом дзераўляным над Нёманам,
Што вось-вось разбяруць назаўжды.

Хто кіруе тваімі дарогамі,
Да якіх разуменняў вядзе?
Запалоханыя перасцярогамі,
То натхнёныя, то нямоглыя,
Спатыкаемся ў звыклай хадзе.

Асыпаемся згаслымі зорамі,
Адгукаемся спеўным трысцём,
Адбываем свой тэрмін пакорліва,
Рэчка Белая, рэчка Чорная,
Забыццё забыццё забыццё…

Па зямлі, прыгажосцю азоранай,
Мы свае суцяшэнні нясём.
Уздымаемся над прастораю,
Рэчка Белая, рэчка Чорная,
Забыццё забыццё забыццё…

## Дарога ля катэдры

Пляцам Волі,
а можа — гэта пляц Волі Божай,
вечаровы вяртаецца
звон,
каб за колькі імгненняў
даць сваё блаславенне,
абвясціць нараджэнне
і скон.

Пляцам Волі,
а можа — гэта пляц Волі Божай,
ля сусветаў
нябачнай мяжы,
разрываюць
простую лінію
і ўздымаюцца ў неба
крыжы.

Я плыву ў запаволенай
плыні
гарадскіх непазбежных
дарог
і прашу,
каб мяне не пакінуў,
каб заўсёды мне
дапамог…

---

[1] *Шчаслівыя каханыя і тыя, хто кахае. І тыя, хто можа абысціся без кахання* (Хорхе Луіс Борхес, «Апакрыфічнае Евангелле»).

[2] *Забыццё ёсць найлепшая помста і найлепшае дараванне* (Хорхе Луіс Борхес, «Апакрыфічнае Евангелле»).



Вайсковы лагер Цілі ў Зальцгітэры. Мастак Макс Котт.

## Георг Освальд Котт

# Вайсковы лагер Цілі ў Зальцгітэры

### 27 жніўня 1626 года

Вынік бітвы каля Лютэра-на-Барэнберге прадвырашаны: Цілі, ваявода Каталіцкай лігі, перамагае разам са сваёй арміяй пратэстанцкае войска дацкага караля Крысціяна IV.

Барвоваю зрабілася вада ў рацэ Нэйле. На полі бітвы ляжаць горы мёртвых — уздоўж і ўпоперак, адзін на адным. Іх целы непазнавальныя, знявечаныя, пасечаныя. Некаторыя з трупаў ляжаць застыўшыя, проста выцягнуўшыся, усё яшчэ сціскаючы шаблю, нібы гатовыя нанесці ўдар.

Хахаўзэн гарыць. Клубы дыму засцілаюць неба. Узрываюцца бочкі з порахам. Параненыя стогнуць, і грукат гарматаў змешваецца з трыумфаваннем членаў Лігі. Пераможцы рабуюць нябожчыкаў. Яны бязлітасна дабіваюць тых, хто яшчэ падае прыкметы жыцця. Лейб-гвардыя дацкага караля разбітая. Манарх раптам апынуўся без абароны. Яго пераследуюць харвацкія коннікі. Ён насілу разварочвае свайго каня, уцякае на ўсход у лясы каля Вальмодэна, хаваецца на гары Пагенберг. Потым, пасля язды зігзагам і галавакружнай гонкі, яму ўдаецца ўцячы ад пераследнікаў.

У даліне ракі Інэрстэ каля Рынгельгейма ён апынаецца на свабоднай зямлі, трапляе на купку коннікаў з ягонай разбітай

**Георг Освальд Котт** — пісьменнік, паэт. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў Зальцгітэры. Закончыўшы рамесніцкае навучанне, вывучаў дыеталогію і германістыку; працаваў выкладчыкам у прафесійнай школе і ва ўніверсітэце ў Гановеры. Аўтар радыёп’есаў, апавяданняў, эсэ і вершаў, некаторыя з якіх пакладзеныя на музыку і перакладзеныя на розныя мовы. Аўтар 25-ці кнігаў, сярод якіх апошнія — выданні вершаў: «След ад воза» (Берген/Галандыя, 2001), «Палёт сарокі» (Хаўцэнберг, 2006), «Марыенборн» (Хаўцэнберг, 2014), «Вершы за ўсмешку» (Лейпцыг, 2014). Узнагароджаны прэміяй «Новая кніга» ў Ніжняй Саксоніі і Брэмене (1998), Крыжом за заслугі Ніжнесаксонскага ордэна (2011) і інш. Сябра Саюза нямецкіх пісьменнікаў і ПЭН-клуба. Жыве ў Германіі, у Браўншвайгу.

кавалерыі. Адзін з драгунаў дакладае каралю: пратэстанцкае войска знішчана, генерал Фукс фон Бімбах забіты, ландграф Філіп Гесэнскі прапаў без вестак. Цэлыя палкі ў паніцы ўцякаюць, пакідаюць гарматы і боепрыпасы. Толькі некалькі смельчакоў яшчэ адчайна ваююць у забарыкадаваным магістраце горада Лютэр супраць перавышаючых сілаў членаў Лігі.

Кароль усклікае: «Ратуйся, хто можа, у Вольфенбютэльскай крэпасці!» Крысціян прышпорвае каня і галопам скача прэч у суправаджэнні купкі коннікаў.

Харваты Цілі рэзка спыняюць праследаванне. Яны разварочваюць коней, каб яшчэ паспець у Лютэр на рабаванне. Гэтая змена абставінаў выратоўвае ўцекачоў ад знішчэння.

Цяжка рухаецца пры адступленні пратэстанцкі абоз. Забалочаныя лугі па берагах Інэрстэ робяцца перашкодаю. У бродзе пад Хоэнродэ абозныя павозкі загразаюць. Даверху нагружаныя жывёлаю, жанчынамі і дзецьмі, яны гразнуць у пойме ракі, гатовыя пайсці на дно. Слугі ў паніцы скідаюць баласт, не шкадуючы нават дзяцей. Адна павозка з гарматнымі ядрамі перакульваецца, і ўвесь груз коціцца ў ваду.

Разрозненыя часткі арміі паступова прабіваюць сабе дарогу да ракі Інэрстэ: адзіночныя ландскнехты, маленькія групкі з пяці ці шасці чалавек і цэлыя гурты пікінёраў пехатою. Трапляюцца таксама і добра ўзброеныя коннікі, і загартаваныя ў баях ваякі з агнястрэльнай зброяй. Некаторыя з іх трымаюць за аброць коней без седакоў. З грукатам пад'язджаюць нават тры павозкі з гарматамі. Гэта марціры, гарматы з кароткімі ствaламі, якія навясным агнём могуць страляць запальнымі



Былая царква-крэпасць святых Марыі і Якуба ў Зальцгітэры-Бадзе.

снарадамі праз муры.

Гэтыя вайсковыя часткі хоць і ўзброеныя, але без камандавання. Няма афіцэраў. Толькі капітану Максу Губэру ўдалося дабрацца да ракі. Ён разумее, што здарылася, і бярэ камандаванне на сябе. Не вагаючыся, ён выстралам выбівае з сядла драгуна, які ўзбунтаваўся, і выклікае да сябе павагу. Ён абачліва парадкуе разбэрсаныя вайсковыя часткі. Спачатку ён збірае вакол сябе некалькіх смельчакоў і прызначае іх малодшымі камандзірамі. Потым ён фарміруе калону з павозак, размяшчае з абодвух бакоў узброеных коннікаў. Ён таксама арганізоўвае конны галаўны атрад і атрад тылавога прыкрыцця.

Алебарднік Аўгуст Кёпельман добра ведае мясцовасць. Яго пасылаюць наперад у якасці разведчыка. Неўзабаве ён дакладае: у Зальцгітэры, што знаходзіцца недалёка, вароты зачыненыя. На валах стаяць узброеныя вартавыя. Акрамя таго, запруджаная рака Варнэ таксама становіцца перашкодаю. З дахавых вокнаў царквы-крэпасці святых Марыі і Якуба тырчаць гарматныя ствалы, кожную хвіліну гатовыя адкрыць агонь і адбіць напад.

Такім чынам, Зальцгітэр трэба абысці. Каб уцячы ў Вольфенбютэль, застаецца толькі ваенная дарога праз Кніштэдт. Тым часам зрабілася цёмна, але зоркі даюць досыць святла, каб убачыць шлях. Павозкі, коннікі і пяхота вырушваюць у дарогу. Яны без перашкодаў даходзяць да Фоспаса. Там, на гары Манэрберг, стаіць вятрак. Ягоныя крылы вымалёўваюцца на фоне зорнага неба. Гэтая карціна абуджае ў маркітанткі Сібілы бязмежную прагнасць. Яна падбухторвае наёмных салдатаў пашукаць у ветраку мукі і збожжа. Шэсць коннікаў імчацца на гару, спустошваюць вятрак, падпальваюць яго і забіваюць млынара. Полымя шугае. Ягонае святло відаць да самай Фёпштэцкай царквы.

Нарэшце наступнаю раніцаю капітан Губэр са сваёю калонаю дабіраецца да выратавальнага Вольфенбютэля. Цілі застаецца ноччу разам са сваім войскам. Ён са сваёй гвардыяй скача па полі бітвы і загадвае збіраць выкіну-



Руіны Фёпштэцкай царквы ў Зальцгітэры-Бадзе.

тыя сцягі і штандары пратэстантаў. Сцягі з'яўляюцца жаданымі трафеямі, а для членаў Каталіцкай лігі — знакамі трыумфу.

Каталіцкае войска таксама панесла страты: яшчэ не пералічаны забітыя і параненыя. Не хапае хлеба, мяса і корму для коней. Вопратку таксама трэба змяніць. Вамсы[1] забруджаныя, скрываўленыя і парваныя. Шмат зброі страціла прыдатнасць, некаторыя намёты прадзіраўленыя. Навакольныя вёскі гараць, не даюць салдатам прытулку, да таго ж у некаторых калодзежах плаваюць трупы. Пітная вада атручаная. У жнівеньскай спякоце трупы на полі бітвы пачынаюць гніць. На зямлі ляжаць сотні коней з уздутымі трыбухамі, і зграі варонаў выдзёўбваюць кішкі. Разносіцца рэзкі смурод, які ўсё мацнее.

Цілі ведае, што яму трэба пакінуць гэтую мясцовасць, каб знайсці далей на ўсходзе бяспечны вайсковы лагер. Ягоным жаўнерам неабходны адпачынак. Армію трэба нанава арганізаваць і ўзброіць.

Таму ваявода пасылае перадавы атрад у Зальцгітэр. З ультыматумам здаць горад без супраціўлення. Бургамістр і рада падпарадкоўваюцца. Яны загадваюць адчыніць вароты.

Армія ўступае ў горад, акружае яго. Жаўнерам Цілі патрэбныя ежа і корм для коней. Жыхары Зальцгітэра і сяляне з блізкіх вёсак ад Гаверла да Лібэнбурга змушаныя несці даніну. Падчас катавання яны выдаюць свае тайнікі: у склепе ў скале, у горнай пячоры на поўдзень ад вала, дзе яны хаваюць гарэлку, піва і сідр. З грукатам коцяць пераможцы бочкі ў іх лагер. У вымаіне, адлеглай даліне каля гары Гамберг, сяляне з Кніштэдта схавалі сваіх кароваў. Жывёлу знаходзяць і пад лямант забіваюць.

Большая частка жаўнераў размясцілася па-за гарадскімі валамі. Іх намёты і павозкі запруджваюць тэрыторыю паміж Кніштэдтам і Пецярсхагенам. Сярод мітусні маркітанткі прапаноўваюць свае тавары: ігральныя карты і шнапс, ігральныя косці і кубкі, капелюшы з пёрамі, туфлі з доўгімі вузкімі насамі і плюдзерхозэ[2]. Асаблівым попытам карыстаюцца чарадзейныя сродкі: яны быццам бы робяць жаўнераў куленепрабівальнымі <...>

Далей на ўсход каля ракі Варнэ ляжаць на голай зямлі параненыя. Сонца пячэ іх агаленыя целы. У раку сцякае кроў. Фельчары адпілоўваюць рукі і ногі.

На лобным месцы каля ямы Фінкенкуле да двух дубоў прыхілілі драбіны. На галінах вісяць дзясяткі павешаных.

Унутры гарадскіх валаў знаходзіцца склад зброі, бітком набіты коп'ямі, пікамі, алебардамі, парахавымі бочкамі і мушкетамі. Побач з карцеччу штабялямі



Зальцгітэр-Бад, дом Цілі.




Шыльда з назваю вуліцы ў Зальцгітэры-Бадзе.

складзеныя гарматныя ядры. Нагрудныя шчыты і ярка начышчаныя шлемы ззяюць на сонцы.

Адразу за складам знаходзіцца пакручасты завулак — там брадзяжныя распусніцы б'юцца за лепшыя месцы.

Рэзідэнцыя ваяводы Цілі знаходзіцца насупраць саляварні ў багатым фахверкавым доме. З вялікага пярэдняга пакою адкрываецца від на сталовую. На сценах вісяць габелены, а перад адкрытым камінам стаяць абабітыя аксамітам крэслы. Багата ўпрыгожаная разьбянымі фігурамі лесвіца вядзе з першага паверха наверх у спальны пакой. Там пад балдахінам стаіць двухспальны ложак з рознакаляровымі падушкамі. Адсюль відаць стойла, у якім багата аўса, саломы і свежай вады. Там слугі чысцяць коней Цілі.

Цілі выклікае афіцэраў на рапарт. Побач з кузняй па вытворчасці патэльняў ён загадвае разбіць намёт для правядзення сходаў. Мужчыны стаяць перад сталом з картаю мясцовасці насупраць ваяводы. Першым дакладвае граф Ангальта, фельдмаршал членаў Лігі. Затым Цілі дае слова графу дэ Фуру. Той з'яўляецца палкоўнікам войскаў Валенштэйна. Камандзіры кавалерыйскіх і пяхотных палкоў, бароны Рэйнбахскі і Кронэнбергскі, таксама апісваюць бітву і яе вынікі: пятнаццаць тысяч забітых ляжаць на ратным полі, дзве тысячы пратэстантаў узятыя ў палон, захопленыя дваццаць адна гармата і безліч мушкетаў і іншых вайсковых прыладаў.

Цілі стаіць, выпрастаўшыся ва ўвесь рост, жэстам падзывае пісара, дыктуе лісты імператару Фердынанду II і Папу Рымскаму. Ваявода паведамляе пра перамогу членаў Каталіцкай лігі. Конныя кур'еры бяруць скручаныя ў трубачку і запячатаныя паперы і галопам скачуць прэч.

* * *

На працягу стагоддзяў назва і межы горада Зальцгітэр змяняліся шмат разоў. Вайсковы лагер Цілі знаходзіўся на тэрыторыі сучаснага Зальцгітэр-Бада. Тут Цілі за выкуп аддаў цела ландграфа Філіпа Гесэнскага. Дзякуючы гэтаму стала магчымаю перавозка нябожчыка з Зальцгітэра ў Касель, у склеп пад касцёлам святога Марціна. Філіп быў сімвалічнаю фігураю пратэстанцтва: праўнукам евангельскага ландграфа Гесэнскага, Філіпа Велікадушнага, які ў 1531 годзе заснаваў Шмалькальдзенскі саюз супраць католікаў.

Пасля паражэння каля Лютэра-на-Барэнберге пратэстанцкія войскі дацкага караля Крысціяна IV схаваліся ў Вольфенбютэльскай крэпасці. Папэнгейм, генерал Цілі, спачатку безвынікова намагаўся ўзяць горад у аблогу. Толькі пасля таго, як Папенгейм загадаў запрудзіць раку Окер і вада заліла горад, імператарскія войскі Каталіцкай лігі ў 1627 годзе захапілі Вольфебютэльскую крэпасць. Пасля гэтага яны шмат гадоў займалі горад.

*Пераклад з нямецкай мовы Алены Сямёнавай-Герцаг.*

*Фота Георга Освальда Котта.*




Памятная дошка на былых гарадскіх валах у Зальцгітэры-Бадзе.

[1] Вамс — нямецкая мужчынская распашная куртка ў XV-XVIII стагоддзях, якая шчыльна прылягае да цела і мае ватную падбіўку. — Заўв. перакл.

[2] Плюдзерхозэ — у XVI ст. у Германіі штаны тыпу шараварaў, якія спускаюцца мудрагелістымі складкамі амаль да шчыкалаткі. Вынаходнікам гэтай вопраткі ландскнехтаў называюць курфюрста Морыца Саксонскага. — Заўв. перакл.



Кастусь Качан. «Восеньскі сум», 2003 г.

Лідзія Камінская

# Спавядаюцца фарбы...

*Пра карціны Кастуся Качана*

Калі б мне дАручылі выбраць для Музея адной карціны жывапіс, напоўнены высокім сэнсам, і зямным, і нябесным, я выбрала б палатно «Перад Пакровамі» (1999) Кастуся Качана. Хата на ўскрайку, неба, восеньскае поле і — авечкі (на першым плане, схіліўшы галовы, згрудзіўшыся). І шмат святла — усёабдымнага, цёплага, шчодрага, міласэрнага, Божага. Святла абароны і любові — святла Пакроваў. Такія авечкі, напэўна, з першага ж разу спадабаліся б Маленькаму прынцу, які ўрэшце задаволіўся малюнкам скрынкі, бо дзеці здольныя бачыць скрозь шчыліны ў скрынцы тое, што ім трэба. «Гэта ж авечкі Божыя? Мы?» — запыталася я ў мастака, а ён, ужо ссівелы, сталы, паспяховы, вядомы, па-дзіцячы праўдзіва адказаў: «Не, гэта проста авечкі. Я нічога такога не задумваў». «Правільны адказ, — падумала я. — Задумвае Бог, а мы — толькі прылады ў Яго руках». У гэты час (па працы ў часопісе «Наша вера») я чытала «Чатыры віды любові» К. Льюіса (у добрым перакладзе з англійскай мовы Ю. Шэдзько), і мне здавалася, што я зразумела нешта большае пра самую галоўную любоў — безумоўную Божую любоў да кожнага з нас, да кожнай адзінокай хаты на ўскрайку поля. Менавіта любоўю, светлаю, шчымліваю, напоўненыя ўсе карціны Кастуся Качана — кожная па-свойму. Імя яго Узлюбленай — Беларусь, і мастак малюе сваю любоў да яе...

Паўтару агульнавядомае паводле Экзюперы: усе мы родам з маленства, і ўсё пачынаецца з любові. Сагрэты, ахутаны любоўю і цяплом маці, якая на руках насіла свайго сыночка ў старую Лаўрышаўскую царкву, мастак памятае яе цяпло як найцяплейшае ў свеце. Народжаны ў 1950-м, праз пяць гадоў пасля спусташальнай вайны, ён на імгненне становіцца хлопчыкам, успамінаючы, як гуляў з featureрознакаляровымі ласкуткамі (маці была швачкаю), разглядаючы іх фарбы і немудрагелістыя малюнкі, а трохі падросшы, «стварыў» сваю ўласную «мастацкую галерэю» з рэпрадукцый «Огонька», наклейваючы «карціны» бульбаю (а цяпер у яго свая мастацкая галерэя ў Наваградку, каля Замкавай гары )...

Усё ж такі відавочна, што толькі нямногім абраным даецца асаблівы зрок, асаблівае бачанне, адчуванне бясконцага хараства Божага свету, бо «*„У тым выявілася любоў, што не мы палюбілі Бога, а Ён сам палюбіў нас” (1 Ян 4, 10) <...> Вось малюнак Самой Любові, вытоку ўсіх іншых. Бог, Стварыцель усяго прыроднага, уклаў у нашу істоту любоў-дар і любоў-патрэбу. Любоў-дар — натуральны вобраз Яго самога, блізкі Яму паводле падабенства, які не заўжды і не ў кожным чалавеку становіцца блізкасцю праз набліжэнне*» (чытайце К. Льюіса ў «Нашай веры»!).

Кастусь Качан прыйшоў у беларускі жывапіс

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978–1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980–1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986–1992), у часопісе «Роднае слова» (1992–2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

на пачатку 1980-х, калі ўсе кірункі ў выяўленчым мастацтве, усе стылі, тэматыка і праблематыка былі амаль напоўніцу занятыя, распрацаваныя мноствам таленавітых творцаў. У мастацкай прасторы заўважна ўзвышалася аўтарытэтная постаць народнага мастака БССР (і СССР) Міхаіла Савіцкага, які ў агромністых палотнах ілюстраваў нават Янку Купалу, і яго палотны ў музеі паэта ў Мінску відавочна кантраставалі (і цяпер кантрастуюць) з геніяльнай простасцю карцінаў Ф. Рушчыца («Зямля»), М. Філіповіча («На Купалле»), П. Сергіевіча («А ты, сіраціна, жыві», «Званар»), з тонкім псіхалагізмам І. Ахрэмчыка («Янка Купала») і Я. Кругера («Партрэт Янкі Купалы»), работы якіх, таксама змешчаныя ў музеі, натуральна, праўдзіва супадаюць з Купалам. Менавіта М. Савіцкі, убачыўшы палатно К. Качана «Апошні шлях хрысціяніна» (1984), кінуў яму легкадумна-жорсткую фразу: «Религия нам не нужна». Зрэшты, можна пашкадаваць народнага мастака, які нават пасля жахаў канцлагернага існавання так і не спасцігнуў для сябе найважнейшых праўдаў быцця, і парадавацца за прынцыповага маладога мастака з Лаўрышава, які, прыйшоўшы ў выяўленчае мастацтва Беларусі ў час апантанага атэізму, прынёс з сабою мараль сваіх продкаў, любоў да роднага кутка і яго традыцый і спакойна, ненавязліва, някідка і нягучна, але вельмі ясна, пераканана, з любоўю напаўняе святлом хрысціянскага быцця сваю творчасць (магчыма, не заўсёды свядома: проста ён так жыве, так адчувае, бачыць, любіць). А карціна «Апошні шлях хрысціяніна» — гэта не «пра рэлігію», а пра кожнага з нас, таму зліты ў адно шчыльны людскі натоўп, які ідзе ад расчыненай брамы на могілкі, звужаючыся, пакорліва цячэ да капліцы, да Бога, усведамляючы, дзе яго апошні прыстанак. Мноства дробных крыжоў (дакладней, крыжыкаў) і помнічкаў таксама нібы гатовае растварыцца ў небе — так сімвалізуецца наша хуткая зямная прамінальнасць, нявечнасць (*«кароткае доўгае жыццё»*, як трапна напісаў вядомы польскі ксёндз і геніяльны паэт Ян Твардоўскі, але яшчэ ён напісаў, што *«канец — гэта падманшчык у свеце бясконцым»*).

Тэма бясконцасці, вечнасці найдасканалейшага Божага тварэння (прыроды, якой дадзена трыумфаваць у кожную вясну) і прамінальнасці, нявечнасці зямнога жыцця не вельмі дасканалага чалавека, які часам кепска жыве з-за таго, што сумняваецца ў існаванні жыцця вечнага, з'яўляецца найважнейшаю ў мастацкай творчасці Кастуся Качана. Тэма вечнасці Божага свету перадаецца мастаком традыцыйнымі для ўсіх пейзажыстаў вывамі прыроды (вада, зямля, неба, дрэвы, яблыкі, кветкі, снег, дождж, святло і г. д.), але для ўвасаблення чалавечай прамінальнасці на зямлі Кастусь Качан, апрача сваіх адметных фарбаў, мае свой стыль, сваю энергетыку, свае (ужо пазнавальныя гледачамі) мастакоўскія сродкі: няпэўны, эскізны, амаль не заўважны малюнак птушыных гнёздаў; невыразна акрэсленыя, з нябачнымі тварамі фігуркі людзей у полі, на лодках, на возе, на сцежках і дарогах; пераважна фрагментарна, не напоўніцу намаляваныя хаты (на ўскрайку, адсунутыя ўглыб, калі бачныя толькі дах, адно-два акенцы); нетрывалыя агеньчыкі ў вокнах; старыя яблыні, якім ужо не дадзена пладаносіць (метафара нядоўгага жаночага веку). Менавіта эскізнасць, немаштабнасць чалавека і яго жытла, што было не прынята на карцінах пра «будаўнікоў камунізму», надаюць пейзажным палотнам Кастуся Качана асаблівы настрой, адчуванне непазбежнай прамінальнасці, што нараджае ў тых, хто прыйшоў паглядзець на яго карціны, раптоўнае шчымлівае пачуццё, якое выклікае неадольнае жаданне пакінуць горад і паехаць у родныя мясціны, каб абняць сваіх блізкіх і надыхацца родным паветрам. Так адбываецца, калі глядзіш на карціны Кастуся Качана «Вясна ў Лаўрышаве» (1997), «Хутар» (1998), «Дарога дамоў» (2000), «Самы доўгі дзень» (1993), «Шарая гадзіна» (2001), «Сакавіцкая самота» (1997).



Кастусь Качан. «Вясна ў Лаўрышаве», 1997 г.

Усведамленнем непазбежнасці знікнення, сумам і разам з тым светлаю ўдзячнасцю за аддадзенае чалавеку цяпло напоўненыя карціны мастака «Хутарок» (2001), «Старыя яблыні» (2007), «Забытае» (2015), «Зімовы вечар на хутары» (2002). Драма адзіноты чалавека выразна ўвасобленая мастаком на карціне «Удавец» (2010). Напісаная з глыбокай праўдзівасцю, яна надоўга захоўваецца ў памяці — як спынены кадр з кароткаметражнай стужкі пра адзінокага старога чалавека, асірацелага ў сужэнстве праз страту жонкі. Гэта і сапраўды «дакументальны кадр»: мастак расказваў, што да яго ў час працы над карцінаю (зіма, вуліца, касцёл)



Кастусь Качан. «За гадзіну да зімы», 1996 г.

падышоў мужчына, які раптам пачаў гаварыць яму пра сваё ўдаўства, а калі ён павярнуўся, каб пайсці, мастак намаляваў яго са спіны, і менавіта гэтая спіна найбольш падкрэслівае гаротнасць удаўца, яго бяду, адрынутасць ад сямейнага цяпла, ад звыклага жыцця, яго неабароненасць, нетрываласць, што перададзена і праз яго сагнутасць, і праз кавеньку, на якую ён абапіраецца (і нават здаецца, што чувацць, як ён цяжка ўздыхае). Ён ідзе па заснежанай дарозе, у якой выразна акрэсленая адмеранасць (адмеранасць яго жыцця), але наперадзе, справа на ўзгорку, ёсць палёгка і паратунак — касцёл. Трэба толькі дайсці... Дарэчы, у кіно і выяўленчым мастацтве паказ чалавека са спіны стварае эфект загадкі, таямніцы: а што там у яго цяпер на твары — слёзы, усмешка, спакой або трывога? І ўвогуле хто ён? Хочацца дагнаць, зазірнуць у вочы, магчыма, нешта выправіць… Вобраз дарогі, сцежкі (кладкі, броду) — адзін з найважнейшых у карцінах мастака (часам гэта сімвал лёсу, выбару, сустрэчы, вяртання, расстання, абранага шляху). У жывапісе Кастуся Качана нямала твораў, дзе людзі паказаны менавіта на дарозе каля царквы або касцёла. Гэтыя карціны маюць амаль аднолькавую кампазіцыю і падобныя назвы, што і выклікае асацыяцыі з «дакументальнымі кадрамі»: «Зіма ў Трабах» (2001), «Зіма ў Нясвіжы» (2004), «Зіма ў Жупранах» (2012), «Зіма ў Іўі» (2007), «Зімовы вечар у Гальшанах» (2007), «Зімовы вечар у Івянцы» (2012), «Пасля Імшы» (2010). Немудрагелістасць назваў і зместу твораў падкрэслівае паўсюдную аднолькавасць чалавечага побыту, а выявы цэркваў і касцёлаў (на заднім плане, як абарончыя крэпасці) сведчаць пра тое, што духоўнае жыццё людзей у заходнебеларускіх гарадах, мястэчках, вёсках пераважна засяроджанае вакол хрысціянскіх святыняў. Гэты пейзажны цыкл мастака сваёю простаю праўдзівасцю нагадвае мне мудрую «Камароўскую хроніку» нашага таленавітага апавядальніка Максіма Гарэцкага: «покуль недзе будуюцца амерыкі», людзі жывуць сваім звыклым жыццём — нарадзіўся, хрысціўся, вучыўся, ажаніўся, выгадаваў дзяцей, памёр…

Адштурхоўваючыся ад вобраза дарогі, нельга не заўважыць, што вобраз вады таксама асэнсоўваецца мастаком як шлях і як лёс. Здаецца, што мастак ведае, пра што маўчыць вада, і шануе яе таямніцы. Захоўваючы паўсюдную таемную маўклівасць, вада на карцінах К. Качана ўвасобленая па-рознаму: на карціне «Блакітная царква» (1997) вада — як прыгожае люстэрка, у якім дакладна адбіваюцца выявы неба, царквы і дрэваў; на карцінах «Брод» (1996), «Белы касцёл» (1997), «Вечар у Гальшанах» (2001), «Восеньскі сум» (2003) ёсць выразная акрэсленасць шляху; але на карцінах з выявамі мясцінаў, у якіх людзі залежаць ад вады, уладарна-маўклівае панаванне стыхіі набывае сімволіку лёсу, наканаванасці — гэта карціны «Шарош» (1994), «Вялікая вада» (1996), дзе вадою «ўзятыя ў палон» маленькія хаты; карціны «Рыбакі» (2000), «Вясна на Палессі» (2003), «Напрадвесні» (2002), «Бабіна лета» (2001), дзе вада паказана як неадʼемная частка жыцця чалавека. Паважлівае адлюстраванне таямніцы вады на палотнах сведчыць пра тое, што мастак разумее яе як увасабленне вялікай жыццёвай сілы: яна і нараджае, і наталяе, і ачышчае (падчас хросту і кожны дзень), і можа быць патопам (зямным і біблейскім). Напэўна, таму на палотнах К. Качана вада і неба сэнсава (і фарбава) паяднаныя — яны быццам пераціякаюць адно ў адно. Дарэчы, старажытныя арыі верылі, што рэкі бяруць пачатак на небе, а індусы менавіта так успрымаюць свяшчэнныя воды свайго Ганга; і суша-зямля (паводле Кнігі Быцця) таксама з’явілася з вады (згадаем і рускі выраз «мать сыра земля» — сырая пасля вады)…

Я не прыхільніца параўнанняў, бо кожны творца цікавы сваёю індывідуальнасцю, але ў асобных карцінах Кастуся Качана ёсць настрой і фарбы, уласцівыя творам Станіслава Жукоўскага (светлы сум і прыглушаныя фарбы), і ёсць тая таемная запаветная цішыня, якую шмат гадоў настойліва шукаў у сваіх фарбах Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля, шукаў для таго, «каб ёю адгукнуцца на вечны спакой Левітана» (так пісаў Віктар Карамазаў у аповесці-эсэ «Крыж на зямлі і поўня ў небе»). Адметнасць гэтай урачыста-таемнай цішыні ў Кастуся Качана ў тым, што яна дыхае, яна жывая прысутнасцю Усюдыіснага, Найвышэйшага. Найбольш выразна гэтая цішыня ўвасобленая мастаком на палатне «Вада, зямля і неба» (1997), на якім глыбінная таемная бясконцасць вады таленавіта паяднаная з таемнай бясконцасцю неба маленькім лапікам зямлі, дзе вясковыя хаты нібы ўзятыя пад ахову касцёла і царквы (белым святлом іх дахаў пазначаны і дахі хатаў, і сама зямля, хоць

гэта ўсяго толькі святло першага снегу). Пра гэтую карціну цяжка разважаць адназначна, як цяжка (а часам і не трэба) гаварыць пра ўсё натхнёнае звыш, бо толькі простыя ісціны маюць ясныя словы, а вялікія ісціны — маўклівыя (так лічыў Рабіндранат Тагор). Ёсць на карціне «Вада, зямля і неба» просты прадмет — кладка на вадзе. Доўгая, вузкая, збітая з некалькіх частак, таксама выразна асветленая, яна заканчваецца на сярэдзіне глыбокай, таемнай вады, а далей... напэўна, трэба проста паверыць і, прайшоўшы «вузкім шляхам», адважна пайсці па вадзе, як і вучыў Езус сваіх вучняў. Вертыкальная незавершанасць кладкі, што імкнецца да гарызантальнай палоскі неба і зямлі, умацаванай святынямі (царквою і касцёлам), нібы стварае, малюе ў прасторы нябачны, але такі «чытэльны», зразумелы знак крыжа, які і павінен выразна акрэсліваццa вераю і ўласным крыжам кожнага з нас. Менавіта ў гэтай карціне, у яе бачнай зямной прадметнасці і таленавітай сімволіцы, найбольш асэнсавана, глыбінна засведчана хрысціянская пазіцыя Кастуся Качана (гэтае палатно ён выбраў для сваёй візітоўкі, і гэта сапраўды самая важная праца ў яго творчасці, тое, што называюць вяршыняю).

Цішынёю, дзе ў прасторы высокага неба жыве ласкавая прысутнасць Бога, уражвае карціна, якой Кастусь Качан даў па-філасофску шматзначную назву: «За гадзіну да зімы» (1996). Калі ўспрымаць гэты твор як звыклы каляндарны сюжэт (восеньскі пейзаж з амаль голымі бярозамі на пачатку зімы), можна захоплена гаварыць пра шчымліва-кранальны лірызм палатна, пра яго надзвычай трапна, далікатна падабраныя фарбы, якімі перадаецца прыгожая безабароннасць бярозак, іх наіўная ружовасць на фоне ўсёабдымнага неба. Калі думаць пра тое, што непазбежная зіма — гэта метафара нашага чалавечага ўзросту і завяршэння зямнога быцця, то ў гэтых бярозаў Кастуся Качана можна вучыцца простай, спакойнай пакоры і даверу: ружова-аголеныя, чыстыя (як аголеным, чыстым становіцца чалавек пасля споведзі, скідаючы, нібы лісце, свае грахі), гэтыя бярозы з пакораю гатовыя прыняць зіму з яе вятрамі і сцюжамі, гатовыя да сну і кароткага нябыту, бо яны поўныя надзеі на вясновае ўваскрасенне. А ці ёсць такі давер і спакой у чалавека перад яго непазбежнаю зімою?.. У каталогу «Кастусь Качан. Жывапіс» (2004) пазначана, што цяпер гэтая карціна знаходзіцца ў прыватнай калекцыі ў Аўстрыі, і хоць немагчыма «вывезці» ўсе нашы бярозы і «купіць» наша неба, хочацца, каб найлепшыя творы беларускага жывапісу набывалі нашы калекцыянеры і нашы музеі.

Вясною ў Мінску ў Мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага экспанавалася выстава карцін Кастуся Качана, у назве якой — «Правінцыя» — увасобіліся і паблажлівая іронія, і выклік, і гонар, і бязмежная любоў да роднай мастаку Навагрудчыны, якую ніводны свядомы, адукаваны беларус усур'ёз ніколі не назаве правінцыяй, бо да сённяшняга часу (і назаўсёды!) гэтая зямля застаецца для нас духоўным княствам, прастору якога з XV ст. ахоўвае сам арханёл Міхал, адлюстраваны на гербе Навагрудка з мечам у правай руцэ. Выйшаўшы з выставы, я думала пра фенаменальную таямніцу мастацтва: вось на вуліцы вясна, і ў яркай зялёнай траве мноства задзірліва-ўсмешлівых жоўтых дзьмухаўцоў, і я толькі што бачыла дзьмухаўцы на карцінах мастака («Май» (2014), «Хутарок» (2001), стоячы перад імі ў захапленні і замілаванні, глытаючы вачыма менавіта іх святло і цеплыню. У чым жа справа? Можа быць, у тым, што, «абменьваючыся» дзьмухаўцамі, два творцы, зямны і нябесны, проста і радасна сведчаць пра сваю любоў да ўсяго стварэння, і нябесны Творца благаслаўляе зямнога напоўніцу сцвярджаць, абвяшчаць, услаўляць зямное хараство, радуючыся найменшай яго драбніцы. І ад гэтага іх абмену, іх раднаснага творчага дыялогу становіцца так светла, так хораша ўсім, хто проста прыйшоў паглядзець на карціны. Можа быць, так мастак напрамую спавядаецца перад Найвышэйшым Творцам, пацвярджаючы, што не змарнаваў дадзенага яму таленту... Вось і я, едучы ў метро, у той дзень пасля наведвання выставы лёгка склала верш, што са мною здараецца рэдка.

*Спавядаюцца фарбы на прыгожых карцінах*
*улюбёнага ў Беларусь Качана Канстанціна.*
*Спавядаюцца фарбы ў любові да неба —*
*да нясмелага сонца, да дажджу і да снегу.*
*Спавядаюцца фарбы ў любові да поля,*
*да закінутых хатаў, да буслвай волі.*
*Спавядаюцца фарбы ў любові да тых,*
*хто прастуе па снезе да святыняў сваіх.*
*Адгукаюцца фарбам званы ў касцёлах,*
*і ў адказ на шорганне стомленых ног,*
*што ідуць да храмаў з усіх дарог,*
*усміхаецца фарбам Бог.*

Правінцыя, увасобленая ў карцінах Кастуся Качана, — гэта Краіна ў Краіне, аднак творы мастака — не ўзнёслы гімн Краіне, не «Песня Песняў»: у прыглушанасці яго фарбаў нібы схаваны боль за Беларусь, якая не адчувае, не ўсведамляе сябе напоўніцу беларускаю — мы ўсё яшчэ «тутэйшыя». Але мастак любіць Беларусь такою, якою яна ёсць. Гэтак кожны чалавек любіць (ці павінен любіць) сваю маці — такую, якая ёсць, але з жаданнем большай радасці для яе, большага святла, большага духоўнага здароўя. Вяртаючыся да пачатку артыкула, дзе я «выбрала» жывапіс для ўяўнага Музея адной карціны, мушу ўнесці карэктывы ў свой «выбар» — большасць палотнаў Кастуся Качана вартая і музеяў, і галерэяў самага высокага ўзроўню, бо яны абуджаюць, высвечваюць, мацуюць у сэрцы тое, без чаго наша існаванне немагчымае: любоў да роднай зямлі і жаданне нешта рабіць для яе — кожнаму на сваім месцы, каб у розных кутках разам ствараць светлую ахоўную аўру любові да Радзімы.



Святая мучаніца Параскева.

Ігар Сурмачэўскі

# Палескі іканастас

Ёсць на Палессі і «бабская святая» — **Параскева Пятніца, Параска, Пяцёнка.** Яе месца ў народным календары — 28 кастрычніка. Яна — заступніца жанчын і сям'і, апякунка жаночага рукадзелля. У яе дзень дзяўчатам і жанчынам забаранялася прасці, ткаць, купацца. Існавала павер'е, што ў гэты дзень сама Параскева ў вобразе старой хадзіла па вёсках і цікавала, ці не прадзе хто кудзелю? Таго, хто парушаў гэтую забарону, святая карала: насылала хваробу, блытала ніткі ў кудзелі, рвала палатно. У святой Параскевы прасілі нарачонага, маліліся пра заступніцтва сямейнага агменю і аб здароўі немаўлятаў, таму абразоў з выяваю святой захавалася даволі шмат.

Калі ў сям'і хацелі, каб сын вырас моцным і здаровым, яму давалі імя Міхась. 21 лістапада па народным календары — дзень **святога Архістратыга Міхаіла, Міхайлы Архайлы, Страхадзёра**. На палескіх абразах ён намаляваны як рымскі воін, з вогненным мячом у руцэ на тле цёмных навальнічных аблокаў — ён валадар прыродных стыхіяў, грому, ветру і маланкі. На Міхайлаў дзень зазвычай бывае вельмі моцны вецер і непагадзь. У гэты дзень палешукі моляць Архістратыга, каб лістападаўская бура не разнесла хату і не пабіла громам блізкіх. «На Міхайла не працуем, бо ён вельмі злы, аж дахі ірве». Адсюль пайшло адно з імёнаў святога — Страхадзёр. У гэты дзень, на Міхайлаўскія дзяды, палешукі паміналі сваіх продкаў на могілках, унукі ў

*Заканчэнне. Пачатак у № 1 за 2018 г.*

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

Міхайлаў дзень абавязкова павінны былі пагасцяваць у сваіх бабуляў.

На апошнія дні восені па народным календары прыпадае дзень **святога Юр'я Восеньскага**. 26 лістапада — гэта памяць пра асвячэнне ў Кіеве храма святога Георгія (1051 г.). Восеньскі Юр'я адмыкае пашчы ваўкам, і крыважэрныя драпежнікі ў гэты дзень збіваюцца ў зграі, нападаюць на скаціну і нават на людзей. Таму пасля Юр'я хатнюю жывёлу больш не выганялі пасвіцца, а падарожнік, які выходзіў з хаты, маліўся святому Юр'ю, каб абараніў у дарозе ад ваўкоў. З Юр'я пачынаюцца першыя вялікія маразы («Юр'я мосціць, а Мікола гвоздзіць»).



Святы арханёл Міхал.

«Зімовыя абразы» пачынаюцца з выявы **святой Барбары, Варкі, Міколінай маткі**. На Палессі ў адзіны цыкл звязаны тры святы, якія ідуць адзін за адным: святой Барбары (4 снежня), святога Савы Асвячонага (5 снежня), святога Міколы Зімовага (6 снежня). Таму палешукі кажуць: «Сава — гэта бацька Міколы, а Варвара — яго матка. Мікола сказаў: Ня празднуйце мяне, празднуйце маці і бацьку». Святая Барбара — збавіцелька ад раптоўнай смерці, бо яна перад смерцю маліла Бога, каб Ён уратаваў тых, хто просіць збавення ад раптоўнай смерці без споведзі. У палескім доме абавязкова мусіў быць абраз святой Барбары, «каб дзеці і жывёла ня тапіліся», — так казалі палешукі, якія спрадвеку жывуць сярод балотаў, азёраў і рэк.

Перад Калядамі ў палескім іканастасе найважнейшае месца займае абраз **святога Міколы Зімовага**. Характэрнай іканаграфіяй гэтага абраза з'яўляецца выява святога з каптуром біскупа — мітраю, «у зімняй шапцы», — так казалі ў народзе. Іконаў з выяваю святога Міколы з мітраю на галаве захавалася больш за ўсіх — такі абраз упрыгожваў чырвоны кут кожнай палескай хаты.

І нарэшце пра апошні значны абраз палескага іканастаса — **святога Стыліяна Пафлагонскага**, Усціліяна, нябеснага апекуна дзяцей і бясплодных жанчынаў. 9 снежня — дзень яго ўспаміну. Абразоў з выяваю святога абаронцы немаўлятаў вельмі шмат, бо ў кожнай сям'і марылі пра дзяцей і звярталіся ў малітвах да гэтага нябеснага заступніка. Першыя абразы святога прыйшлі на Палессе з праваслаўнай Еўропы (Грэцыі, Балгарыі, Румыніі), дзе шанаваліся з даўніх часоў.

Вось так выглядае своеасаблівы палескі іканастас, пабудаваны паводле круга народнага календара.

Духоўная крэпасць палешукоў узмацнялася і галоўнымі праваслаўнымі абразамі — **Усядзяржыцеля і Багародзіцы**. Вобраз палескага Хрыста ўзыходзіць да першакрыніцы — да візантыйскай іканаграфіі Вялікі Архірэй, або Цар царом, якая склалася па словах з Евангелля: «Кароль над каралямі і Пан над панамі». Звычайна па візантыйскім каноне такая іканаграфія, Цар царом, сустракаецца побач з Багародзіцаю і Янам Хрысціцелем, што дае агульную кампазіцыю — Дэісус. Але палескі Збаўца, як правіла, намаляваны адзін у каралеўскім адзенні з мітраю-каронаю на чале. У левай руцэ Хрыстус трымае Евангелле, а правай благаслаўляе вернікаў. Ён — Валадар над усім палескім светам.

Іканаграфія другога галоўнага абраза, **Суцяшальніцы Палесся, Багародзіцы,** таксама мае сваю значнасць у палескім іканастасе — у асноўным, гэта спісы, зробленыя тутэйшымі майстрамі з шанаваных абразоў Багародзіцы ва Украіне і Расіі, куды пілігрымы хадзілі з палескіх мястэчак.

Самы ўшанаваны абраз на Палессі — гэта **Маці Божая Трохручніца,** і трэцяя Яе рука на іконе намалявана не як срэбраная вота, а як частка плоці. Аднойчы я запытаўся ў антыкварнага дылера з Гомеля: «Чаму так распаўсюджана ў палешукоў такая дзіўная іканаграфія Божай Маці?» І атрымаў дзіўны адказ: «Трохручніца была вельмі папулярная ў злодзеяў! Гэта каб рукі былі больш спрытныя і хваткія! Вось і маліліся мясцовыя зладзюжкі Божай Маці, каб дапамагла пацягнуць у суседа кабанчыка ці мех бульбы». Вось так часам «народныя мары» не супадаюць з біблейскімі запаведзямі, але пазней я знайшоў у літаратуры такую палескую прыкмету: «Як на Барбару ўкрадзеш і ня пападзешся, то ўвесь год будзеш красці і ня пападзешся!» Можа, на Палессі з часам забыліся пра сапраўдны цуд іконы Божай Маці Трохручніцы? Давялося знайсці мясцовы цудатворны аб-

раз Трохручніцы па гістарычнай і краязнаўчай літаратуры. Гэта быў Белабярэжскі абраз Багародзіцы з манастырскай мясціны ў Белым Беразе пад Бранскам. Шанаванне абраза Маці Божай Трохручніцы ў Расіі звязана з імем патрыярха Нікана, які для сцвярджэння Масквы як цэнтра праваслаўнага свету запрасіў архімандрыта Хіландарскага манастыра Феафана прывезці ў Маскву грэчаскія святыні і рэліквіі, у тым ліку і спіс з цудатворнага абраза Трохручніцы. Але паданне аб цудатворным выратаванні Яна Дамаскіна, які малітвамі да Багародзіцы выратаваў сваю адсечаную руку, забылася, і трэцяя рука на іконе ўжо малявалася не як срэбраная вота, а як рэальная рука. Спіс з грэцкай іконы, выкананы царскімі майстрамі Арцеміем Фёдаравым і Апанасам Івановым у 1718 г., быў перанесены ў манастырскую мясціну пад Бранскам. На працягу некалькіх стагоддзяў Белабярэжскі абраз праславіўся цудамі аздараўлення хворых, і да яго сталі штогод прыходзіць тысячы пілігрымаў, асабліва ў святочны дзень — 28 чэрвеня.

Сярод ацалелых палескіх святыняў вылучаецца абраз з выявою **Ахтырскай Божай Маці**. Яго лёгка пазнаць па журботнай постаці Багародзіцы з непакрытаю галавою і складзенымі ў малітве рукамі — Яна стаіць перад невялікім Распяццем на Галгоце. Незвычайную іканаграфію і прамую перспектыву, не характэрную для візантыйскага канона, можна растлумачыць першаўзорам Ахтырскай Багародзіцы з італа-крыцкай школы іканапісу. Аб'яўленне цудатворнага абраза адбылося 2 ліпеня 1739 г. каля сценаў Пакроўскай царквы горада Ахтырка (цяпер Сумская вобласць Украіны). Дарэчы, насельніцтва Ахтыркі на той час пераўзыходзіла па колькасці насельніцтва такіх гарадоў, як Харкаў і Сумы. Па загадзе імператрыцы Лізаветы Пятроўны на месцы з'яўлення цудатворнай іконы па праекце архітэктара Д. Б. Ухтомскага быў узведзены велічны каменны сабор, асвечаны ў 1768 г., што паспрыяла пашырэнню культу ўшанавання цудатворнага абраза. Кожны год 2 ліпеня да іконы ідуць тысячы пілігрымаў. На Палессі склаўся такі звычай: ваду, якой абмывалі абраз у святочны дзень, ужывалі як лекавую, асабліва ад ліхаманкі, а звычка гэтая пайшла ад легенды пра з'яўленне абраза: ахтырскі святар, які знайшоў яго падчас сенакосу, абмыў яго і хацеў выліць ваду ў раку, але па дарозе яму сустрэлася Багародзіца і сказала: «Вярніся дадому і захавай гэтую ваду, яна дапаможа ад ліхаманкі».

**Пачаеўская Багародзіца** — таксама Збавіцелька ў чырвоным куце палескай хаты, і гэта тлумачыцца цудамі, якія адбываюцца нават ад спісаў выявы Божай Маці з Пачаева. Больш за чатыры стагоддзі знаходзіцца цудатворны абраз у Пачаеўскай Свята-Успенскай Лаўры (Украіна). Іканаграфія Багародзіцы ўзыходзіць да старажытнай візантыйскай кампазіцыі Елеуса, дзе лік Багародзіцы ў бязмежнай любові схілены да Сына. Тры разы ў год — 31 сакавіка, 23 ліпеня і 8 верасня — адзначаюцца святы ў гонар Пачаеўскай Багародзіцы. У гэтыя дні асабліва шмат пілігрымаў з усяго Палесся прыходзіць у Лаўру. У кнігах Лаўры запісаныя шматлікія сведчанні цудаў, таму вернікі моляцца гэтай іконе ў розных патрэбах, але асабліва, каб захаваць спакой і любоў у сям'і, таму гэтым цудадзейным абразом благаслаўлялі маладых на вянчанне.

Асобнай некананічнай іканаграфіяй здзіўляе палескі абраз **Укаранаванне Багародзіцы**. Прататып гэтай іканаграфіі вядомы ў заходнім сакральным жывапісе з XIII ст. У цэнтры абраза намаляваная Дзева Марыя. У малітве Яна склала далоні на грудзях. Злева і справа ад Багародзіцы ў аблоках намаляваны Бог Сын і Бог Айцец, якія разам падтрымліваюць вялікакняскую карону над галавою Багародзіцы. Усё гэта сакральнае дзеянне благаслаўляе зверху Дух Святы, які пазначаны на іконе выяваю белай галубкі. Магчыма, гэта іканаграфія была ўзятая з малітоўных кніг сярэдзіны XVII ст., якія выдаваліся ў манастырскіх друкарнях на землях Украіны. Ужо ў канцы XVII ст. абраз Укаранавання Багародзіцы атрымаў распаўсюджанне і ў расейскім іканапісе, асабліва ў майстроў Зброевай палаты Крамля. Самы вядомы з іх — Укаранаванне, напісанае крамлёўскім майстрам Кірылам Уланавым у сярэдніку іконы Успенне Багародзіцы (1694 г.). Такое сумяшчэнне іканаграфій прыводзіць да думкі, што палескі абраз Укаранавання Багародзіцы — гэта напамін пра іншы цудатворны абраз блізу Палесся — Кіева-Пячэрскае Успенне Багародзіцы. Галоўная святыня Кіева-Пячэрскай Лаўры вядомая з 1073 г., калі абраз Успення ў Кіеў прынеслі грэчаскія дойліды, якія ўзвялі па загадзе Багародзіцы Успенскі сабор. Абраз праславіўся мноствам цудаў, таму 15 жніўня, у свята Успення Найсвяцейшай Багародзіцы, у Кіева-Пячэрскую Лаўру ідуць з малітвамі тысячы пілігрымаў.

Сярод ацалелых палескіх Багародзічных абразоў рэдка сустракаюцца мясцовыя ўшанаваныя іконы. Толькі аднойчы ў маю калекцыю трапіў абраз **Мішкоўскай Адзігітрыі**, які атрымаў назву ад месца праслаўлення — вёскі Мішкоўка (цяпер Старадубскі раён Бранскай вобласці). Іканаграфія, а дакладней, убор Панны Марыі і Яе непрыхаваныя валасы, свед-



Укаранаванне Багародзіцы.



Іверскі абраз Маці Божай.

чаць пра заходнееўрапейскае паходжанне кампазіцыі. Адметная асаблівасць кампазіцыі — выява Дзіцяткі Езуса не толькі з дзяржаваю і скіпетрам, але і з кветкаю ў правай руцэ — звычайна гэта быў гваздзік, як сімвал пакутаў Хрыста. Час праслаўлення абраза пачынаецца з канца XVII стагоддзя. Паданне аб праслаўленні Мішкоўскай Багародзіцы сведчыць пра дачыненне да гэтай справы свяціцеля Дзімітрыя Растоўскага, які пабываў у гэтых месцах і загадаў, каб цудатворны абраз быў змешчаны ў алтары мясцовага храма (пра гэта нагадвала сярэбраная вота з выяваю свяціцеля).

Сярод палескіх Багародзічных абразоў у другой палове XIX ст. пачалі з'яўляцца і спісы з цудатворных абразоў, праслаўленых у Царкве: Знаменне, Казанская, Іверская, Ціхвінская, Уладзімірская...

На жаль, час не быў літасцівым да палескага іканастаса, але хрысціянская вера за гэтым духоўным бастыёнам выжыла сярод лясоў і балотаў нават у страшныя гады багаборства. З часам на палескіх іконах праступілі, нібы сляды ад слёз, светлыя палосы — гэтак абсыпаецца маляўнічы слой, агаляючы тэкстуру драўлянай асновы, некалі стогадовых смалістых сосnaў, якія ўвабралі ў сябе залатыя промні з бязмежных палескіх нябёсаў і срабрыстую ваду Прыпяці. Гэтыя слёзы часу зносяць у нябыт памяць аб велізарных райскіх кветках, сярод якіх белы конь святога Юр'я дапамагаў таптаць свайму гаспадару палескага цмока, і нават сусветная бясконцасць чорных нябёсаў за святым Міколам ператвараецца ў пыл адыходзячых стагоддзяў. Вядома, хочацца не даць сысці ў нябыт гэтаму непаўторнаму палескаму іканастасу — нібы яркаму сакральнаму «дывану» з сотняў абразоў ад падлогі да столі. Гэтую карціну падчас адной з размоваў мне намаляваў вядомы мастак-манументаліст Валеры Даўгала, род якога паходзіць з Гомельшчыны. Ён вырас у гомельскай вёсцы старавераў, дзе не ў навіну былі вялікія хатнія іканастасы, якія мясціліся ад падлогі да столі. Перад Вялікаднем іконы працiралі ад пылу, а пасля шчыльна выкладвалі на стале, каб прасыхалі. Ледзь затрымцелі першыя ранішнія промні, і хлопец паляшук, які з нецярплівасцю чакаў свята, адчыніўшы цяжкія дзверы ў святліцу, убачыў невыказны цуд — яркія промні вясновага сонца толькі-толькі прабіліся праз белыя фіранкі-прошвы і «запалілі» сусальнае золата і яркія фарбы мноства іконаў, якія ў чаканні Уваскрэсення Хрыстова ляжалі суцэльным дыванам на велізарным стале. Ззянне золата, водбліскі кветак і фігураў святых, здавалася, трымцелі паўсюдна: на столі, на сценах святліцы. Здавалася, што яны лёталі ў паветры, што імі поўніўся ўвесь свет — гэта быў казачны рай, які застаўся ў душы маленькага палешука на ўсё жыццё...



Святлана Шэйпа

# Magnum opus Ф. Міладоўскага

Вясною 2019 года мы будзем адзначаць 200-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі і Фларыяна Міладоўскага. Даты нараджэння класікаў айчыннай музычнай культуры ў календары побач — 4 мая і 5 мая 1819 года. Дзіўна, колькі агульнага ў іх жыццёвых і творчых біяграфіях: землякі, нараджэнцы Міншчыны, абодва валодалі выключнымі здольнасцямі, змалку сачынялі танцавальныя п'есы, наведвалі ўрокі Д. Стафановіча, марылі пра вялікія творчыя дасягненні і шукалі ведаў у прызнаных еўрапейскіх музычных сталіцах. Наколькі падобна пачынаўся іх прафесійны лёс, настолькі па-рознаму ён склаўся ў сталасці. Прызнаны і запатрабаваны музыкант С. Манюшка, аўтар мноства твораў розных жанраў, заўсёды імкнуўся знаходзіцца ў гушчы музычных падзей, з'яўляючыся арганістам касцёла святых Янаў, дырыжорам у віленскім гарадскім тэатры і Вялікім тэатры ў Варшаве, прафесарам Варшаўскага музычнага інстытута. А Ф. Міладоўскі, які ў сваёй дзейнасці заставаўся ў ценю С. Манюшкі, быў простым настаўнікам музыкі ў сям'і мецэната Б. Тышкевіча і капельмайстарам яго мясцовага аркестра, прафесарам фартэпіяна ў езуіцкай калегіі св. Клімэнта ў Мецы. Ён напісаў няшмат кампазіцый, але і яны, нягледзячы на ўсю магчымую дапамогу яго добрага сябра, амаль не выдаваліся. Прычына няпоўнага раскрыцця творчага патэнцыяла Ф. Міладоўскага не ў меншай яго адоранасці, працаздольнасці ці мэтанакіраванасці, а ў збегу абставінаў, якія прывялі да таго, што значная частка яго жыццёвага шляху прайшла ў эміграцыі ў Францыі, і гэта зрабіла яго незапатрабаваным і нерэалізаваным кампазітарам. Ненадрукаваныя сачыненні Ф. Міладоўскага так і заставаліся ў рукапісах, расцярушаных па архівах і сховішчах замежных бібліятэк і фондаў і пакуль не выяўленых даследчыкамі.

У сучасным музыказнаўстве праведзена шмат даследаванняў музыкі С. Манюшкі, але навуковых распрацовак па музыцы Ф. Міладоўскага, на жаль, мы амаль не маем. Мэта нашай публікацыі — пазнаёміць чытача з асобаю і творчай спадчынай Ф. Міладоўскага, які зрабіў вялікі ўнёсак у музычную культуру Беларусі XIX стагоддзя.

Фларыян Станіслаў Міладоўскі нарадзіўся 4 мая 1819 года ў Мінску ў сям'і калісьці заможнай наваградскай шляхты, што пераехала ў горад пасля страты маёнтка Навадворкі ў пошуках сродкаў для існавання. Згодна з культурнымі традыцыямі шляхецкіх сем'яў у Беларусі, у доме Міладоўскіх ладзіліся музычныя вечарыны, папулярныя сярод мінскіх прыхільнікаў музыкі. Малы Флорак прыслухоўваўся да розных інструментаў — фартэпіяна, скрыпкі і гітары, якімі свабодна валодаў яго бацька, Фабіян Міладоўскі, але асаблівую прывязанасць праяўляў да фартэпіяна. Менавіта бацьку, руплівому і сумленнаму настаўніку музыкі, Фларыян абавязаны сваімі першымі ўрокамі.

Пасля курсу заняткаў з аўтарытэтнымі педагогамі Д. Стафановічам і Ф. Цібэ, акурат у дзень нараджэння Фларыяна, адбылося першае публічнае выступленне дзесяцігадовага хлопчыка, які з каласальным поспехам выканаў сёмы канцэрт Д. Штайбельта. Лёгкасць, праяўленая ў навучанні, характарызавала і яго канцэртнае выкананне, аб чым красамоўна сведчаць гэтыя словы: «Падскокваючы, Флорак падбег да фартэпіяна, агледзеў слухачоў з упэўненасцю, што сярод іх няма здольных да спаборніцтва; падаў аркестру знак да ўступу і пайшоў у скокі па клавіятуры. О дзіва! Адразу постаць Флорака згубіла дзіцячую паставу, і праз некалькі хвілін на сцэне можна было ўбачыць артыста, які замілоўваў, здзіўляў і чараваў моцай спелага таленту» [1, с. 121]. Карэспандэнт «Літоўскага кур'ера» таксама адзначыў «неверагоднае майстэрства, дакладнасць рытма, незвычайную смеласць, вялікую прысутнасць духу і эмацыянальнасць» Фларыяна [2].

Актыўная сольная канцэртная дзейнасць хлопчыка-віртуоза ў Мінску, Слуцку і Вільні працягвалася да 1834 года, але, пасталеўшы, юнак ужо не мог здзіўляць і ўражваць сваім мастацтвам музычнае асяроддзе. Аднак усе найважнейшыя імпрэзы ў Вільні з удзелам знакамітых выканаўцаў не абыходзіліся без Фларыяна Міладоўскага, шматгранны талент якога праявіўся ў ансамблевым музіцыраванні і акампаніятарскім майстэрстве.

Хоць Фларыян быў адзіным сынам у бацькоў, на выхаванне

**Святлана Шэйпа** — кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры педагогікі Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі. Займалася харавым дырыжыраваннем ў Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. К. Агінскага, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У 2000-м годзе закончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай музыкі БДАМ і абараніла дысертацыю па тэме «Музычная практыка каталіцкай царквы ў Беларусі ў другой палове XIX — першай палове XX стагоддзяў». Вярнула ў сучасны айчынны культурны кантэкст спадчыну музычных дзеячаў Беларусі другой паловы XIX — першай паловы XX стагоддзя — Ю. Грыма, Я. Галіча-Сулінскага, Я. Глінскага, Л. Герынга, А. Мілера і інш. Аўтар публікацый па іх творчасці. Жыве ў Мінску.

якога не шкадавалі ані сілаў, ані выдаткаў, грошай катастрафічна не хапала. Гэта, верагодна, і стала штуршком да ранняй педагагічнай кар'еры Ф. Міладоўскага, які ўжо ў 14 гадоў даваў заняткі ігры на фартэпіяна ў заможных віленскіх дамах з узнагародаю, вартаю «найлепшых мэтраў музыкі» [1, с. 122]. У 1836 годзе Фларыян прыняў запрашэнне выкладаць фартэпіяна ў сям'і Бэнэдыкта Тышкевіча. Час побыту ў Чырвоным Двары (сучасны Раўдондварыс) быў для яго самым шчаслівым і бесклапотным. У кароткі пяцігадовы перыяд прабывання ў графскім маёнтку, дзякуючы спрыяльным умовам, адбылося прафесійнае сталенне Ф. Міладоўскага: менавіта тут ён адчуў смак да кампазіцыі, пазнаёміўся з аддадзеным ў яго распараджэнне аркестрам, акунуўся ў сферу тэатральнага мастацтва. Нягледзячы на вялікі практычны досвед, веданне тэарэтычных трактатаў і класічных партытураў, Ф. Міладоўскі адчуваў недахоп адукацыі, таму пад кіраўніцтвам дасведчаных музыкантаў рушыў у вандроўку ў культурныя цэнтры Еўропы.

На фармаванне кампазітарскага светапогляду Ф. Міладоўскага аказалі ўплыў заняткі з Ф. Мендэльсонам-Бартольдзі, «меркаванні і парады якога малады артыст прыняў з рэлігійным ушанаваннем і ўдзячнасцю» [1, с. 125]. Ф. Мендэльсон «гадзінамі слухаў сачыненні Фларыяна, хваліў вартае ў іх..., указваў на памылкі з усёй шчырасцю і зацікаўленасцю» [1, с. 125]. Прыняўшы наказы геніяльнага кампазітара ўдасканальваць фартэпіяннае майстэрства, пашыраць веды па гармоніі, кантрапункце і кампазіцыі і ўзяўшы дзеля гэтага рэкамендацыйныя лісты да прафесараў венскай кансерваторыі, Фларыян накіраваўся ў сталіцу Аўстрыі, дзе па гармоніі і кампазіцыі наведваў клас А. Хёльтцля, вакала — Ё. Хаўзэра, фартэп'яна — Ё. Фішхофа[1].

Пасля вяртання на Радзіму Ф. Міладоўскі займаўся рознабаковай дзейнасцю: настаўнічаў, дырыжыраваў аркестрам і займаўся кампазіцыяй у Чырвоным Двары, даваў урокі ігры на фартэпіяна ў



«Спевы да святой Імшы». Тытульная старонка рукапісу з аўтографам С. Манюшкі і старонка з нотным рукапісам.

Вільні, пісаў сачыненні і артыкулы ў Мацках, кіраваў вакальна-сімфанічнай трупай тэатра ў Мінску.

Вір паўстання 1863–1864 гадоў раздзяліў жыццё і творчасць Ф. Міладоўскага на дзве часткі. Цудам пазбегнуўшы пакарання за ўдзел у паўстанні [3], ён быў вымушаны эміграваць у Францыю. Міладоўскія[2] пераехалі ў Страсбург, пасля — у Мец, дзе на працягу пяці гадоў Фларыян выкладаў фартэпіяна ў езуіцкай калегіі св. Клімэнта. Яго педагагічную дзейнасць абарвала хвароба вачэй, у выніку якой у пачатку 1870 года ён страціў зрок. Паспяхова праведзеная аперацыя дазволіла Фларыяну займацца напісаннем музыкі, але актыўна працаваць ён ужо не мог. Апошнія гады Ф. Міладоўскі правёў у Бардо, дзе і памёр 8 ліпеня 1889 года.

Ф. Міладоўскі быў бліскучым піяністам-віртуозам, выключным дырыжорам[3], але галоўным яго пакліканнем стала кампазітарская творчасць. Нягледзячы на прызнанне яго таленту Ф. Мендэльсонам і С. Манюшкам, М. Ельскім і А. Валіцкім, уся вялікая творчая спадчына Ф. Міладоўскага — вакальна-інструментальныя і камерна-інструментальныя кампазіцыі — вядомая нам толькі па назвах. Выдадзены і ўведзены ў навуковы і выканаўчы ўжытак фартэпіянныя мініяцюры і вакальныя сачыненні Ф. Міладоўскага (мазуркі *C-dur* і *e-moll*, паланэз «Для Міхася і Ясі», пяць кантрдансаў (*E-dur*, *A-dur*, *E-dur*, *a-moll*, *A-dur*), тры песні («Стары гуляка», «Шара гадзіна» і «Ты так далёка») з цыклу «Польскія спевы», раманс «Матыў» і 7 нумароў з аперэты «Канкурэнты».

У сучасным музыказнаўстве нават не існуе поўнага і дакладнага спісу сачыненняў Ф. Міладоўскага. У крыніцах пра яго спадчыну пададзена даволі супярэчлівая інфармацыя адносна назваў, выканальніцкага складу, года і месца выдання кампазіцый. Б. Хмара-Жачкевіч [4], З. Хехлінская [5], Е. Мараўскі [6], Ю. Валіцкі [1] у сваіх біяграфічных артыкулах узгадваюць сцэнічныя музычныя п'есы (аперэты «Канкурэнты» і «Таверна пад капуснай галавой», сімфанічная ўверцюра), вакальныя (цыкл «Польскія спевы», рамансы) і фартэпіянныя (мазуркі, кантрдансы, накцюрны) мініяцюры, камерныя ансамблі («Альбом сляпога» для віяланчэлі і фартэпіяна, трыа), а таксама іншыя творы Ф. Міладоўскага — балеты, фантазіі, канцэрты, паланэзы, скерца, месы, літаніі, харавыя касцёльныя спевы, напісаныя ў розныя творчыя перыяды, пацвердзіць існаванне якіх змогуць толькі знойдзеныя партытуры.

Творчасць Ф. Міладоўскага высока ацэньваў С. Манюшка, наракаючы на недастатковыя

апублікаванасць і гучанне яго твораў. Водгукі ў крытычнай літаратуры XIX стагоддзя сведчаць аб «поўных сапраўднай паэзіі, натхнення, густу і арыгінальнасці» [8] сачыненнях Ф. Міладоўскага, якім уласцівыя «яснасць стылю і каларыту», «паслядоўнасць філасофскіх думак» і адсутнасць «пустаслоў'я» [1, с. 126], «чыстае, як крышталь, натхненне» [9].

Асаблівае месца ў творчай спадчыне Ф. Міладоўскага займае музычная публіцыстыка. У «Музычным руху» ў перыяд з 1857 па 1860 гады былі надрукаваны яго артыкулы «Карэспандэнцыя» [10], «Некалькі слоў пра музычнае развіццё» [11], «Пра напісанне музыкі» [12], «Карэспандэнцыя: пан Кале і Сімфарыён Паўза» [13], дзе кампазітар узнімаў шэраг вострых праблемаў тагачаснай музыкі. Так, у нарысе «Некалькі словаў пра музычнае развіццё» ён разважаў на тэму сутнасці свецкай і літургічнай музыкі, іх узаемаадносінаў: «Музыка для неба павінна адрозніваццa ад свецкай музыкі так, як адрозніваецца неба ад зямлі. Гэта добра адчувалі нашы папярэднікі, значыць, і мы адчуваць павінны. Па праўдзе кажучы, дзеля ўпрыгожвання Хрыстовага Касцёла нам неабходна з ахвярай прыносіць усё самае прыгожае і дарагое, народжанае зямлёй, а таксама багацце нашых ведаў, талентаў і геніяў. Усё гэта мы павінны ўскладаць на алтар Пана над панамі, ад якога ўсё бярэ пачатак» [11, с. 315]. Акрамя таго, Ф. Міладоўскі закранаў пытанні напісання сур'ёзнай і глыбокай музыкі: «Дзе кампазітары месаў, нешпараў, харалаў і араторый? Калі яны ёсць, параўнаем іх творы з велізарнымі шэдэўрамі майстроў мінуўшчыны. Што датычыцца музычнай думкі і апрацоўкі, сачыненні сучасных аўтараў падобны да дзіцячых нібы plaque[4] цацак» [11, с. 315].

Богаслужбовую музычную спадчыну Ф. Міладоўскага складаюць пераважна вядомыя нам толькі па назвах наступныя духоўныя сачыненні: тры месы («Меса», меса *B-dur*, меса «Спевы да св. Імшы»), кантата на рэлігійную тэматыку і дробныя кампазіцыі (псальм «*O, Domino*», «*Magnificat*», «*O Salutaris*», «*Ojcze nasz*», «*Tantum ergo*»), напісаныя паміж 1855 і 1862 гадамі ў віленскі перыяд творчасці. Пакуль удалося выявіць толькі яго літургічны цыкл «Спевы да св. Імшы» [14], рукапіс якога знаходзіцца ў Варшаўскім музычным таварыстве імя С. Манюшкі (шыфры WTM 729[1], WTM 729[2], WTM 729[3])[5].

Рукапіс «Спеваў да св. Імшы» Ф. Міладоўскага дайшоў да нас у кепска захаваным выглядзе: выцвілі разлінееныя нотныя радкі, пабляклі чарнілы, пацямнела папера, забрудзіліся, надарваліся, пашкодзіліся вадою і цвіллю нотныя аркушы, згубіліся вялікія фрагменты нотнага тэксту вакальна-інструментальных партый. Дрэнная захаванасць нотаў тлумачыцца складанай гісторыяй бібліятэкі ВМТ, нібы «спісанай» з лёсаў сотняў бібліятэчных фондаў, якія знянацку застала Другая сусветная вайна. З часу існавання таварыства, дарэчы, адным з яго заснавальнікаў у 1871 г. з'яўляўся С. Манюшка, і арганізаваных пры ім Я. Карловічам секцый імя С. Манюшкі (1891) і імя Ф. Шапэна (1899), а таксама вялікай працы па збіранні звязаных з імі дакументаў і да пачатку другой чвэрці XX стагоддзя ў фондзе ВМТ зберагаліся каля 30 000 музычных рукапісаў і бясцэнныя асабістыя рэчы кампазітараў. Падчас нямецкай акупацыі рукапісныя матэрыялы бібліятэкі сталі часткаю «*Staatsbibliothek Warschau*» і былі перавезены ў снежні 1944 года ў Адэлін (Ніжняя Сілезія), а калі ў жніўні наступнага года іх знайшлі варшаўскія бібліятэкары, высветлілася, што загінула каля 40% даваеннага фонду: амаль уся калекцыя нотных старадрукаў і значная колькасць незакаталагізаваных рукапісаў.

Рукапіс «Спеваў да св. Імшы» складаецца з трох самастойных зборнікаў:
— харавая партытура з партыяй аргана (28 аркушаў);
— харавыя і вакальныя партыі (92 аркушы);
— інструментальныя партыі сімфанічнага аркестра (78 аркушаў).

Паводле атрыбуцыі супрацоўнікаў Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы, аўтарства «Спеваў да св. Імшы» памылкова залічылі С. Манюшку. Так, у бібліяграфічным апісанні да першага сшытка імя Ф. Міладоўскага сціпла значыцца ў канцы: «Станіслаў Манюшка. Спевы да св. Імшы для чатырох галасоў з суправаджэннем аргана (словы Уладзіслава Сыракомлі), музыка Фларыяна Міладоўскага». У каталагічных вопісах другога і трэцяга сшыткаў ён не ўзгадваецца ўвогуле. Спрыяў гэтаму той факт, што меса была зафіксавана ўласнай рукою С. Манюшкі — надзвычай шаноўнага ў польскай культуры дзеяча. Несумненна, такая акалічнасць нябачна ахоўвала рукапіс ад занядбання, бо архіварыусы ВМТ збіралі ўсе матэрыялы, звязаныя з ім, але гэта ж прадвызначыла і лёс дакумента: яго доўгае небыццё. Знайсці ноты сачынення нам удалося не па прозвішчы кампазітара, а толькі дзякуючы Божаму Провіду і нашай уважлівасці да прозвішча першага выканаўцы твора, сябра і паплечніка Ф. Міладоўскага — С. Манюшкі.

Напісанне месы было прымеркавана да інаўгурацыі Таварыства св. Цэцыліі, арганізаванага С. Манюшкам і Ф. Міладоўскім. У паперах С. Манюшкі захаваўся сшытак з актам заснавання аб'яднання і нататкамі, што тычыліся збораў, рэпетыцый і фінансавых справаў — так званай хронікай Таварыства св. Цэцыліі, дзе акурат узгадваецца сачыненне Ф. Міладоўскага: «Віленскія музыканты і аматары з мэтай пашырэння добрай і сур'ёзнай музыкі пажадалі аб'яднацца ў хор, каб спяваць падчас набажэнстваў найлепшыя творы замежных і мясцовых кампазітараў <...> На ўрачыстасць св. Цэцыліі, што прыпадае на 22 лістапада, пан Міладоўскі напісаў месу, якую выканаюць усе віленскія аматары і артысты добрай волі» [15, с. 224].

Водгукаў на выкананне сачынення Ф. Міладоўскага ў прэсе мы не выявілі, але на гэты твор спасылаліся ў слынных часопісах XIX стагоддзя [16; 17; 18] пры аглядзе спадчыны кампазітара: «Меса [Міладоўскага. — С.Ш.],

што калісьці гучала ў нашым горадзе [Вільні. — С.Ш.], дае падставы меркаваць пра выключнасць яго рэлігійных гімнаў» [17]. С. Манюшка ў ліставанні са сваім сябрам і рэдактарам «Музычнага руху» Ю. Сікорскім абмяркоўваў праблемы выдання «Спеваў да св. Імшы» (так і не ажыццяўлёнага ў XIX ст.) [19, с. 202], а таксама прыгадваў іх у сувязі з інаўгурацыяй 22 лістапада 1854 года Таварыства аматараў касцёльнай музыкі (Таварыства св. Цэцыліі) [15, с. 224]. Менавіта ў гэты дзень і адбылася прэм'ера месы Ф. Міладоўскага ў касцёле святых Янаў.

Варта зазначыць, што праз год цыкл месы зноў прагучаў у лістападаўскім канцэрце ў гонар патронкі музыкі і касцёльных музыкантаў, аб чым сведчаць дадзеныя з «Малога календара» С. Манюшкі [19, с. 625]. Далейшая будучыня кампазіцыі Ф. Міладоўскага залежала ад харызматычнасці С. Манюшкі, які згуртоўваў вакол сябе творчых людзей, і яго таленту рэалізоўваць цяжказдзяйсняльныя праекты[6]. Думаецца, што меса выконвалася і ў шматлікіх касцёлах, улічваючы вялікую канцэртную практыку калектыву [15, с. 220], створанага на базе віленскіх катэдральных музыкантаў з удзелам настаўнікаў музыкі, артыстаў музычнага тэатра графа Б. Тышкевіча і музыкантаў-аматараў [15, с. 77].

Не выключана, што «Спевы да св. Імшы» маглі выконвацца, напрыклад, падчас значных культурных імпрэзаў. Пра адну з такіх — акцыю па зборы грошай для помніка кампазітара К. Курпінскага ў Варшаве — апавядаецца на старонках «Музычнага руху», дзе разам з праграмаю канцэрта змешчаны вытрымкі з ліста віленскага спевака А. Банольдзі ў рэдакцыю часопіса: «Віленскае музычнае таварыства св. Цэцыліі нясе Вам[7] удовін грош для ўсталявання помніка шаноўнаму спадару К. Курпінскаму. Крыніцай гэтай мізэрнай ахвяры стаў імправізацыйны вечар, афішу якога мы далучаем на ўспамін аб гарачай гатоўнасці дапамагчы і сардэчным спачуванні нашай групкі да ўсяго, што толькі мае сувязь з гонарам і дасягненнямі нацыянальнага




«Спевы да святой Імшы»,
выдадзеныя ў 2016 годзе.

мастацтва» [20].

Лёс месы Ф. Міладоўскага пасля пераезду С. Манюшкі ў Варшаву быў прадвызначаны, і, здаецца, сачыненне больш не выконвалася[8]. Адной з галоўных прычынаў незапатрабаванасці твора ў літургічнай практыцы буйных культурных цэнтраў былой Рэчы Паспалітай (у Вільні, Мінску, Варшаве і інш.), акрамя яго ненадрукаванасці, стаў вялікі і стракаты склад выканаўцаў «Спеваў да св. Імшы», утрымліваць які ў рэакцыйны перыяд 30-х і 60-х гадоў маглі пераважна ў катэдральных касцёлах.

Па сваёй гістарычнай ролі, маштабе творчай рэалізацыі і ўнутраным змесце, меса з'яўляецца найбуйнейшым *magnum opus* кампазітара, які ўвабраў усю моц таленту Ф. Міладоўскага. Разам з пахавальным цыклам «Жалобныя спевы» С. Манюшкі (1850) яна адкрывае новую старонку ў гісторыі беларускай каталіцкай музыкі XIX стагоддзя, даючы імпульс укараненню ў айчынную богаслужбовую практыку новага тыпу літургічных цыклаў — польскіх месаў — у творчасці іншых музыкантаў Беларусі акрэсленага перыяду: ксяндза Яна Галіча і Юзафа Грыма.

З'яўляючыся жанравым падвідам месы, вырашальную ролю ў польскіх месах займаюць тэксты, якім, дарэчы, у XIX стагоддзі давалі назвы тыпу «Гімны да св. Імшы», ці «Песні да св. Імшы». Нягледзячы на польскамоўную тэкставую аснову, чужародную каталіцкаму цырыманіялу, выкарыстанне такіх месаў у богаслужбовай практыцы былой Рэчы Паспалітай актыўна падтрымлівалася мясцовым духоўным кіраўніцтвам. Вершаваны тэкст, прапушчаны праз фільтр творчай фантазіі, у большай ступені, чым яго лацінскі адпаведнік, спрыяў праяўленню суб'ектыўных адчуванняў аўтараў месаў.

Асноваю для «Спеваў да св. Імшы» Ф. Міладоўскага сталі спецыяльна напісаныя У. Сыракомлем[9] вершы. Польскамоўная парафраза вабіла Ф. Міладоўскага, даючы свабоду натхнення ў межах традыцыйнай закаснелай абрадавасці. Разам з новымі словамі нараджаліся не характэрныя для традыцыйных эталонаў жанру месы новыя музычныя формы, шматлікія вобразы, прыёмы музычнага выказвання, што нараджае разнастайныя пачуцці і настроі.

Індывідуальнасцю пазначаны стыль месы: старажытныя літургічныя традыцыі, што праявіліся ў агульнай пабудове цыклу і паліфанізаванасці фактуры, сплавіліся з дасягненнямі свецкага музычнага мастацтва XVII — XIX стагоддзяў. Так, разнастайнае і кантраснае формаўтварэнне, заснаванае на практыцы *alternatim* («*Kyrie*», «*Graduale*», «*Offertorium*», «*Agnus Dei*»); прынцыпы канцэртавання, якія дазволілі пашырыць асобныя сегменты месы ўнутры частак і вылучыць іх у самастойныя раздзелы (тэкстава насычаныя «*Gloria*» і «*Credo*»); самастойнасць вакальных партый («*Credo*», «*Offertorium*», «*Benedictus*», «*Agnus Dei*») запазычаны з оперна-тэатральнага мастацтва, звязанага з фарміраваннем духоўнай драмы, духоўнага канцэрта, і станаўленнем неапалітанскай навай школы адзначанага перыяду.

На стыль «Спеваў да св. Імшы» значна большае ўздзеянне мела сімфонія, што ў эпоху класіцызму стала флагманам жанравай іерархіі, уплываючы і трансфармуючы аблічча многіх жанраў інструментальнай і вакальнай музыкі. Ф. Міладоўскага захапіла ідэя вялікай сімфанічнай музыкі, з

выдатнымі ўзорамі якой яму давялося пазнаёміцца яшчэ ў гады творчага сталення падчас побыту ў Вільні і Чырвоным Двары, падчас навучання ў Вене, а таксама творчага супрацоўніцтва з С. Манюшкам па арганізацыі канцэртаў Таварыства св. Цэцыліі ў Вільні.

У «Спевах да св. Імшы» захаваны галоўныя атрыбуты сімфоніі: разгорнутая канцэпцыя формы, вялікі і дыферэнцыраваны выканальніцкі апарат. Разам з тым месе Ф. Міладоўскага не ўласцівы пафас сімфанічных месаў папярэдняй эпохі (Ё. Гайдна і Л. Бетховена), а таксама манументалізм, які ў тым ліку выяўляецца і праз увядзенне пераважна ў канцы асобных частак разгорнутых канонаў і фугаў. Такая канцэпцыя літургічнага цыклу цалкам адпавядае поглядам кампазітара на богаслужбовую музыку, выказаным С. Манюшкам у «Нататцы пра касцёльную музыку»: «Трубы, трамбоны, літаўры, вытанчаныя вакалізацыі, сольныя інструментальныя эпізоды мы сустракаем у кожнай месе Гайдна, Гумеля, Вебера. Раскошныя, як само мастацтва, практыкаванні па кантрапункце, фугі і каноны, акрамя таго, што моцна знясільваюць, дык яшчэ і не патрэбны ў месцы свайго выканання» [19, с. 619].

У вобразным і музычна-тэматычным строі месы Ф. Міладоўскага выразна пануе суб'ектыўны лірычны пачатак, знітаваны з музычным рамантызмам, парасткі якога ляглі на спрыяльную глебу прыроджанай далікатнасці, чуллівасці і эмацыянальнасці творцы. Надаючы індывідуальнае аблічча кожнай частцы цыклу, кампазітар развівае спеўныя традыцыі, успрынятыя ад Ф. Шуберта і Ф. Мендэльсона, а таксама ад сваіх суайчыннікаў М. К. Агінскага і С. Манюшкі. Асаблівая роля лірыкі, насычаны спеўны меладызм пераважна славянскага паходжання, з'яднанасць музыкі і тэксту, багатае формаўтварэнне, заснаванае на распаўсюджаных у вакальнай музыцы формах (куплетная, куплетна-варыянтная, форма бар), экспрэсіўнасць гармоніі, яскравая, разнастайная ладавая і тэмбравыя сферы надаюць «Спевам да св. Імшы» Ф. Міладоўскага выразную адметнасць.

Публікацыя «Спеваў да св. Імшы» павінна была адбыцца яшчэ ў беларускі перыяд жыцця і творчасці Ф. Міладоўскага, аб чым сведчаць неаднаразовыя просьбы самога кампазітара і яго сябра С. Манюшкі да ўладальніка выдавецтва Фрыэдляйна і іх абгрунтаваныя хваляванні, адлюстраваныя ў перапісцы С. Манюшкі з Ю. Сікорскім: «Чаму Фрыэдляйн не адказвае на мае і Фларыяна прапановы адносна выдання яго месы?.. ні слова — ані чорнае, ані белае» [19, с. 201–202]. На жаль, публікацыя месы так і не ажыццявілася.

Другое жыццё «ўдалая меса» (меркаванне С. Манюшкі) атрымала ў нашыя дні дзякуючы Віктару Кісцяню, які ажыццявіў сучасную рэдакцыю партытуры сачынення, аднавіўшы цалкам незахаваную арганную партыю ў «*Sanctus*», «*Benedictus*», «*Agnus Dei*», «*Benedictio*» і часткова захаваныя партыі першай і другой валторны і трамбона, а таксама карпатлівай працы па перакладзе вершаў У. Сыракомлі паэткі Юліі Шэдзько. А ўдыхнуў гэтае жыццё ў «Спевы да св. Імшы» Ф. Міладоўскага ў спрыяльны час першы іх выканаўца — хор «Залатая Горка» — «анёл-ахоўнік» рэлігійнай спадчыны беларускіх кампазітараў, якому нібы звыш наканавана іграць важную ролю ў рэканструкцыі і адраджэнні музычна-касцёльнай практыкі Беларусі, перадаўшы выканальніцкую эстафету Акадэмічнаму хору Белтэлерадыёкампаніі (кіраўнік А. Саўрыцкі) і хору «*Salutaris*» (кіраўнік В. Янум) з надзеяй, што «Спевы да св. Імшы» стануць пярлінай іх канцэртных выступленняў і моцным духоўным інструментам *ad majorem Dei gloriam inque hominum salutem. Avibus bonis!*


**Літаратура**

1. Шэйпа, С. «Жыццяпіс Фларыяна Міладоўскага, складзены айцу як матэрыял (Аляксандру Валіцкаму)» / С. Шэйпа // Спадчына. — 2003. — № 2/3. — С. 121–130.
2. Ахвердова, Е. И. Из истории фортепианного искусства Белоруссии XIX в. / Е. И. Ахвердова // Вопросы культуры и искусства Белоруссии: респ. межвед. сб. / гл. ред. Н. Н. Заренок. — Минск, 1984. — Вып. 3. — С. 74.
3. Караткевіч, У., Мальдзіс, А. Горад паўстае / У. Караткевіч, А. Мальдзіс // З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, постаці, крытычныя творы, інтэрв'ю, летапіс жыцця і творчасці. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. — Т.8. — Кн.2. — С. 255–267.
4. Chmara-Żaczkiewicz, B. Miładowski Florian / B. Chmara-Żaczkiewicz // Encyklopedia muzyczna: część biograficzna: [w 11 t.] / pod red. E. Dzięboswkiej. — Kraków, 2000. — T. 6. — S. 275.
5. Chechlińska, Z. Miładowski Florian / Z. Chechlińska // Polski słownik biograficzny / Pol. akad. nauk., Inst. historii. — T. 21/2, Z. 89. — Wrocław [etc.], 1976. — S. 248–249.
6. Morawski, J. Miładowski Florian Stanisław / J. Morawski // Słownik muzyków polskich / Inst. Sztuki Pol. akad. nauk. — Kraków: PWM, 1967. — T. 2. — S. 37–38.
7. Żeleźniak, A. Korrespondencya: [Konkurenci, komedyo-opera, z muzyką Miładowskiego] / A. Żeleźniak // Ruch muz. — 1861. — T. 5, № 14. — S. 215–217.
8. Капилов, А. Л. Музыкальная культура Беларуси XIX — начала XX в. / А. Л. Капилов, Е. И. Ахвердова. — Минск: Ин-т соврем. знаний, 2000. — С. 44.
9. Сапранкова, А. М. Міхал Ельскі — выканаўца, кампазітар, публіцыст / А. М. Сапранкова. — Мінск: Беларус. дзярж. акад. музыкі, 2002. — С. 79.
10. Miładowski, F. Korrespondencya / F. Miładowski // Ruch muz. — 1857. — T. 1, № 18. — S. 138–139.
11. Miładowski, F. Arkuz słów o postępie muzykalnym / F. Miładowski // Ruch muz. — 1858. — T. 2, № 40. — S. 313–315.
12. Miładowski, F. Jeszcze o uprawie muzyki / F. Miładowski // Ruch muz. — 1860. — T. 4, № 2. — S. 22–24.
13. Miładowski, F. Korrespondencya: pp. Kahle i Symforyon Pauza / F. Miładowski // Ruch muz. — 1860. — T. 4, № 45. — S. 726–728.
14. Miładowski, F. Śpiewy do Mszy św. [Mikrofilm] / F. Miładowski / Bibl. Nar. w Warszawie. — [Wilno: s.n., 1854]. — Pag. var.
15. Rudziński, W. Stanisław Moniuszko : Studia i materiały : w 2 t. / W. Rudziński. — Kraków : PWM, 1955. — T. 1. — 477 s.
16. Przęgląd kompozycyj : śpiewy polskie Floryana Miładowskiego // Pamiętnik muzyczny i teatralny. — 1862. — R. 1(6), № 42. — S. 664.
17. Nowości krajowe : Wilno // Ruch muzyczny. — 1859. — T. 3, № 50. — S. 432.
18. Florjan Miładowski // Echo muzyczne, teatralne i artystyczne. — 1889. — № 312. — S. 449.
19. Moniuszko, S. Listy zebrane / S. Moniuszko. — Kraków : PWM, 1969. — 678 s.
20. Nowości krajowe // Ruch muzyczny. — 1858. — № 3. — S. 23.


[1] Пасля 1851 года Ф. Міладоўскі здзейсніў яшчэ адно падарожжа ў Вену, дзе займаўся кампазіцыяй у С. Зэхтэра.

[2] Разам з Ф. Міладоўскім у Францыю адправіліся яго жонка Аўгустына Паро і дзеці Міхась і Яніна.

[3] Тут дарэчы прыгадаць уражанні А. Валіцкага ад працы Ф. Міладоўскага над партытурай «Канкурэнтаў» у мінскім тэатры: «[Міладоўскі] выцягнуў са спевакоў усё, што было магчыма. Аркестр, не зважаючы на непакорлівасць і недысцыплінаванасць, пад магічным уздзеяннем дырыжорскіх жэстаў гучаў не так, як звычайна» [7].

[4] Запазычанае Ф. Міладоўскім з французскай мовы слова *plaque* ў прыведзеным кантэксце азначае штосьці штучнае, ненатуральнае.

[5] Кіраўніцтва знакамітага музычна-культурнага аб'яднання з мэтаю захавання гэтага важнага дакумента передало ноты месы ў Нацыянальную бібліятэку Польшчы, каб перанесці іх на стужку мікрафільма (№ 3532).

[6] Да такіх праектаў можна аднесці выкананне ў гонар трохсотгоддзя лютэранскай царквы ў Вільні твора С. Манюшкі «Хвала Богу», для чаго ён арганізаваў магутны зводны хор са спевакоў каталіцкіх і пратэстанцкіх парафій [15, с. 222].

[7] Тут маецца на ўвазе Ю. Сікорскі, які выступіў ініцыятарам збору сродкаў.

[8] Тым не менш існуе верагоднасць таго, што «Спевы да св. Імшы» Ф. Міладоўскага, па прыкладзе некаторых месаў С. Манюшкі, маглі ўпрыгожваць варшаўскія богаслужэнні і выкарыстоўвацца ў якасці дадатковага дапаможнага матэрыялу ў педагагічнай дзейнасці апошняга ў Музычным інстытуце (сёння Музычны ўніверсітэт Ф. Шапэна) у Варшаве.

[9] У. Сыракомля змясціў парафразу ў сваім зборніку паэзіі пад назваю «Гімны да св. Імшы» (1854).

Уладзіслаў Сыракомля

# Спевы да святой Імшы

**KYRIE**

Да збаўчай ахвяры святых таямніцаў
ў святыню народ Твой прыходзіць маліцца.
Пачуй жа, як сэрца ўсклікае,
змілуйся над намі, о Пане.
Усе нашы маленні і просьбы ў святыні
хай ласка Твая годным дарам учыніць.
Нам думкі і сэрцы ачысці,
змілуйся над намі, о Хрыстэ!

**GLORIA**

Слава Пану на Сіёне
хай пральецца, злучыць у коле!
Хай спакой святы агорне
ўсюды люд Твой добрай волі.

**GRADUALE**

Устаньма з пашанай, бо Збаўца сам
праўды жыцця аб'яўляе нам
і адкрывае ўсім свой закон,
дае ўзор нам жыццёвы Ён.
Дай вучням, Збаўца, Слова пачуць,
хай сэрцы грэшныя ажывуць,
хай жа нарэшце ў іх закіпіць
любоў да Бога і душ людскіх.

**CREDO**

Верым у Бога, Творцу сусвету,
Хрыстус — Сын Божы, ведаем гэта.
Каб збавіць з грэху душы людскія,
выйшаў з улоння Дзевы Марыі.
І Бог стаў чалавекам, і ў постаці гэтай
Ён быў укрыжаваны за віны сусвету.
Чало Яго ў ранах, і прабіта Сэрца,
сканаў Ён, ка́там дараваўшы міласэрна.
Уваскрос Ён урачыста
ў нябёсы Ён ўзыходзіць!
Нам сказаў, што хутка прыйдзе,
ўчыніць суд над народам.

**OFFERTORIUM**

Вось з рук святарскіх выбраных
Бог прыме святасць Ахвяры,
а Слова станецца Целам,
І цуд убачым у веры.
Дзе хлеб з віном стаў Асобай,
Бог сам да дзяцей прыходзіць,
Нас Цела Божае корміць,
Кроў Божая ўсіх нас поіць.

**SANCTUS**

Божа! Божа найсвяцейшы!
як з Табою зраўняцца?
Люд Твой можа толькі кленчыць,
ў мальбе долу схіляцца.

**BENEDICTUS**

Гасанна, гасанна! У велічы й славе
Сышоў на алтар сам Бог вечны ў яве!
Душою, Крывёю і Целам прысутны,
Ён здзейсніць бяскроўнай ахвяры пакуту.
Не марна, не марна, о Збаўца, о Хрыстэ,
Ліюцца патокі крыві гэтай чыстай.
Жывыя здароўе і шчасце ў ёй знойдуць,
Памерлых палёгка ў чыстцы напоўніць.

**AGNUS**

Сэрца няхай больш не раніць
і не гняце беспрасветна,
ўзяў чысты Божы Баранак
На сябе грахі сусвету.
Вы, хто ачысціў сумленне,
жалем абмыўся і скрухай,
Бог вас ўрачыста сустрэне,
І будзе свята для духа.

**BENEDICTIO**

Цяпер ўсе разам устаньма,
ў праўдзе, ў радасці трывайма,
святар нас крыжам жагнае,
а ў небе Бог бласлаўляе.

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле рукапісу «Спеваў да св. Імшы».*

Тамара Габрусь

# Драўляныя базылікі Беларусі



Касцёл святых Пятра і Паўла, 1927–1929 гг. Дрысвяты. Браслаўскі р-н.

Рэпрэзентатыўны архітэктурны тып каталіцкай базылікі ў часы позняга барока атрымаў пашырэнне ў грэка-каталіцкім храмабудаўніцтве Беларусі, што надало драўляным базылікам яшчэ больш самабытных этнаграфічных рысаў. Уніяцкая царква «Старая каля Ляхаў» (б. Лідскі павет, цяпер Пружанскі р-н) вядомая па фотаздымку канца XIX ст. Гэтая драўляная класічная базыліка з прамавугольным планам была пабудаваная ў канцы XVIII ст. Над яе галоўным фасадам мясцілася сігнатурка. Уваход быў аформлены васьміграннаю крухтай-экзанартэксам «сармацкага» тыпу, зробленым аднолькавым па вышыні з сакрыстыямі і накрытым шатровым дахам. Вокны мелі паўцыркульныя арачныя завяршэні.

Уніяцкая **Пакроўская царква ў в. Ганчары** (Лідскі р-н) была пабудавана ў 1774 г., але ў XIX ст., пасля забароны ўніяцтва, была перададзеная праваслаўным і ў 1878 г. нанава асвячоная пасля рамонту. Паводле архітэктонікі, гэта строгая класічная трохнававая базыліка з прамавугольным алтарным зрубам, які працягвае цэнтральную наву. Абапал алтарнага зруба ўкампанаваны квадратныя ў плане сакрыстыі. Мастацкі акцэнт зроблены на ўваходнай частцы будынка, у вырашэнні якой арыгінальна злучаны вузкі ўнутраны нартэкс з музычнымі хорамі і вонкавы экзанартэкс у выглядзе трох'яруснай чацверыковай вежы з гранёным купалкам і крыжам. Захавалася традыцыйная вертыкальная шалёўка сценаў. Унутры тры пары калонаў вылучаюць цэнтральную наву, перакрытую корабавым скляпеннем з двухсхільным дахам. Асобна па восі ўвахода пастаўлена двух'ярусная чацверыковая званіца, накрытая шатром-«каўпаком».

Уніяцкая **Міхайлаўская царква ў в. Сцяпанкі** (Жабінкаўскі р-н) была пабудаваная ў 1780 г. у стылі позняга беларускага барока. Архітэктоніка гэтай святыні дакладна паўтарае мураваную лацінскую трохнававую базыліку

*Заканчэнне. Пачатак у № 2 за 2018 г.*

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

з двухвежавым галоўным фасадам. Прамавугольная ў плане пабудова падзелена ў падоўжным напрамку на тры навы і мае класічнае базылікальнае папярочнае сячэнне з верхнім асвятленнем цэнтральнай навы невялікімі вокнамі. Алтарная частка вылучана прамавугольным выступам цэнтральнай навы, а вузкі нартэкс-бабінец — дзвюма калонамі, на якія абапіраюцца музычныя хоры. Вертыкальную экспрэсію вежаў падкрэслівае чляненне іх прычолкамі на два ярусы, якія змяншаюцца ўгору па вышыні, што характэрна для мясцовай мураванай архітэктуры віленскага барока. Тарэц даха на галоўным фасадзе закрывае заглыблены франтон з шырокім прычолкам. Усю выцягнутую падоўжную кампазіцыю, падобную да марскога лайнера, вянчаюць тры фігурныя барочныя «банькі» з крыжамі, сімвалізуючы Святую Тройцу. Характэрна, што базылікальная структура сцяпанкаўскай Міхайлаўскай царквы заснаваная ўсяго на чатырох калонах, крыху зрушаных да ўваходнай часткі кафалікона. Пры гэтым дзве заходнія калоны прасторава вылучаюць бабінец і хоры, а дзве другія дзеляць малітоўную залу роўна пасярэдзіне. Мастацкая цэласнасць кампазіцыі храма была парушаная пасля яго перадачы праваслаўным і рэканструкцыі ў 1858 годзе: да галоўнага фасада прыбудавалі вялізны экзанартэкс-прытвор з псеўдабазылікальным сячэннем, які ў пачатку XX ст. быў завершаны двух’яруснай васьмерыковай вежай з высокім шатром і цыбулістай галоўкай.

Грэка-каталіцкая **царква св. Ануфрыя ў вёсцы Агароднікі** (Камянецкі р-н), пабудаваная ў 1782 г. у стылі барока, мае структуру трохнававай базылікі без верхняга асвятлення. Аднасхільныя дахі бакавых наваў падведзены пад карніз цэнтральнай навы. Будынак мае вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі і сцяжкамі-«лісіцамі», вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Унутраная прастора падзеленая апорнымі слупамі, над уваходам размешчаны музычныя хоры. У 2-й палове XIX ст. да галоўнага фасада быў прыбудаваны невысокі прытвор з двух’яруснай чацверыковай вежай, накрытай высокім шатром.



Царква св. Параскевы Пятніцы. 1796 г. Опаль. Іванаўскі р-н.

Уніяцкая **царква св. Параскевы Пятніцы ў вёсцы Опаль** (Іванаўскі р-н), пабудаваная ў 1796 г., у 1841 г. была перададзеная праваслаўным. Архітэктоніка храма дакладна імітуе формы мураванай трохнававай базылікі з класічным базылікальным папярочным сячэннем. Прамавугольная цэнтральная нава накрыта двухсхільным дахам з трохвугольнымі франтонамі на тарцах і невялікай вежачкай з фігурным купалкам над алтаром. Бакавыя навы з аднасхільнымі дахамі завершаныя з боку алтара вялікімі сакрыстыямі са скошанымі сценамі, што ўзбагачае пластыку будынка. З боку галоўнага фасада бакавыя навы раней завяршаліся дзвюма сіметрычнымі чацверыковымі вежамі, а цэнтральная — заглыбленым уваходным васьмікалонным парталам. Пазней вежы былі знятыя, а партал пераатвораны ў нартэкс. Інтэр’ер падзелены 4-ма слупамі на тры навы, яшчэ два слупы падтрымліваюць музычныя хоры над уваходам. З харамі аб’яднаны галерэі-эмпоры, якія праходзяць па версе бакавых наваў. Відавочна, што архітэктоніка і мастацкі вобраз разгледжаных грэка-каталіцкіх базылікаў зусім не адрозніваецца ад узору касцёлаў.

У 1723 г. у **в. Блонь** (Пухавіцкі р-н) на сродкі Язэпа Бака быў пабудаваны **касцёл місіі езуітаў**, які пацярпеў ад пажару ў 1820 г. і быў істотна перабудаваны да 1826 г. у стылі класіцызму. Пасля скасавання ордэну ў межах Расійскай імперыі касцёл быў перададзены праваслаўным і асвечаны як Троіцкая царква ў 1873 годзе. Гэта трохнававая крыжова-купальная базыліка лацінскага тыпу, увенчаная на сяродкрыжжы вялікім васьмігранным светлавым барабанам, накрытым самкнутым купалам. Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе класіцыстычнага порціка з чатырма папарна згрупаванымі мураванымі калонамі і завершаны масіўным атыкам, васьмеры-



Троіцкая царква (былы касцёл езуітаў). 1723, 1826, 1873 гг.
Блонь. Пухавіцкі р-н.

ковай вежай з купалам і высокім спічаком, што надае збудаванню рысы ампіру. Сцены ашаляваны гарызантальна і дэкараваны прафіляваным карнізам з «сухарыкамі», а таксама накладнымі ордэрнымі пілястрамі, якія на тарцах трансепта імітуюць порцікі. У інтэр'еры 10 мураваных калонаў вылучаюць бакавыя навы і нартэкс, над якім былі размешчаны музычныя хоры. Аснова светлавога барабана аздобленая разьбянаю агароджаю. Алтарны праём афармлены фігурнай аркаю. У архітэктуры помніка спалучаныя рознастылёвыя і рознаканфесійныя рысы, што адлюстроўвае складаную гісторыю яго існавання.

Актывізацыя новага будаўніцтва драўляных касцёлаў тыпу базылікі адбылася ў часы 2-й Рэчы Паспалітай, што выявілася ў адметных тэндэнцыях стварэння мастацкага вобраза помнікаў, дзе часам дамінавалі архітэктурныя традыцыі розных рэгіёнаў Польшчы. Замест бязвежавых ці двухвежавых базылікаў часоў барока сталі пераважаць аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі з адной магутнай вежаю над бабінцам. У асіметрычным размяшчэнні частак традыцыйнай сакральнай структуры храмаў назіраюцца праявы мадэрну. Адным з ініцыятараў пашырэння ў міжваенны перыяд у сакральным дойлідстве Заходняй Беларусі так званага закапанскага стылю, які імітаваў архітэктурныя формы драўляных храмаў прыкарпацкага рэгіёна, стаў віленскі архітэктар Ю.Клос, паводле праекту якога ў 1923–1925 гг. быў пабудаваны **касцёл Маці Божай Анёльскай у Мяжанах** (Браслаўскі р-н), знішчаны пажарам у 1985 годзе. Характэрныя прыкметы закапанскага стылю (ад горада Закапанэ на поўдні Польшчы, дзе ў XVII ст. сыходзіліся межы Рэчы Паспалітай, Аўстра-Венгерскай і Асманскай імперый) — клінчатыя гонтавыя дахі з пластычным прагібам схілаў, больш высокія за традыцыйныя беларускія, шырокія гонтавыя прычолкі ў некалькі ярусаў, наяўнасць вежы-вестверка на галоўным фасадзе і абхадных галерэй-апасаней, што візуальна імітавалі бакавыя навы. Касцёл у Мяжанах быў не базылікаю, а двухзрубавым клецевым храмам, абкружаным галерэяй з шырокім гонтавым прычолкам.



Пакроўская царква. 1774 г. Ганчары. Лідскі р-н.

У ацалелым да нашага часу драўляным **касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Баранавічах**, пабудаваным у 1924–1925 гг. (арх. Л. Жаландкоўскі), спалучаныя рысы неаготыкі і мадэрну з элементамі польскага манументальнага дойлідства. Яго аснову складае класічная трохнававая базыліка з верхнім асвятленнем. Цэнтральную наву па тарцах

завяршаюць больш нізкая пяціграння апсіда прэзбітэрыя і невялікі прамавугольны аб'ём нартэкса, які ўвенчвае васьмігранная вежа. Дынамічнае завяршэнне вежы складаецца з гранёнага купала, скразнога металічнага ліхтарыка і высокага шатра-спічака. З поўдня да прэзбітэрыя прылягае вялікая асіметрычная сакрыстыя гранёнай формы. Інтэр'ер падзелены шасцю парамі калонаў на тры навы, перакрытыя плоскімі столямі.

Станаўленне архітэктурнай плыні нацыянальнага рамантызму звязана з імем архітэктара Лявона Вітана-Дубейкаўскага, які тэарэтычна і практычна імкнуўся зразумець і захаваць дух айчыннай гісторыі і культуры. Яго першы праект 1916 г. касцёла ў Янатрудзе (б. Полацкі павет) не быў рэалізаваны, аднак свае асноўныя ідэі архітэктар увасобіў у 1927—1929 гг. пры будаўніцтве велічнага **касцёла святых Пятра і Паўла ў Дрысвятах** (Браслаўскі р-н). Святыня была пастаўленая на старажытным замчышчы над возерам Дрысвяты, на мураваным з расколатых валуноў подыуме, адкуль, як лічыў архітэктар, «відаць прапорцыі паасобных частак, якія ствараюць маналітную, манументальную форму, нагадваючы нам беларускі стыль». Будынак мае строгую рацыянальную структуру традыцыйнай трохнававай базылікі з пяцігранным прэзбітэрыем, сіметрычнымі бакавымі сакрыстыямі і вузкім унутраным нартэксам. Аднак вонкавы мастацкі вобраз збудавання з ускладнёнай пластыкаю формаў мае чужародныя нам рысы закапанскага стылю: пяціярусная вежа-вестверк, надзвычай шырокі прычолак з прагібам, падперты на галоўным фасадзе чатырма калонамі, высокі дах з заломам, больш нізкі за асноўны вільчык даха над прэзбітэрыем, і інш.


Касцёл Узвышэння Святога Крыжа, 1924 г. Баранавічы.

**Касцёл Маці Божай Ласкавай у Крэва** (Смаргонскі р-н) быў пабудаваны ў 1934–1936 гг. да 650-годдзя Крэўскай уніі (арх. П.Стаброўскі, Ф.Норбскі). Гэта самая вялікая па памерах драўляная трохнававая базыліка таго часу — яна мела ў даўжыню каля 30 м і ў шырыню (у межах трансепта) звыш 15-ці. Архітэктура збудавання была вытрыманая ў формах неабарока, што выяўлена ў двухвежавым вырашэнні галоўнага фасада з заглыбленым фігурным франтонам. У 1961 г. касцёл быў зачынены (зняты чацверыковыя вежы, надбудаваны бакавыя навы), і цяпер у яго будынку дзейнічае ўрачэбная амбулаторыя.

У канцы 1930-х гг. былі рэалізаваныя праекты іншых драўляных базылікаў: **касцёл у в. Хаценьчыцы** Вілейскага павета (1937, арх. Я.Бароўскі, Л.Фаркевіч) з асіметрычна пастаўленай вежаю тыпу кампаніле, **касцёл св. Станіслава ў в. Далёкія** на Браслаўшчыне (1934) і **касцёл Маці Божай Вастрабрамскай у Дайлідках** на Астравеччыне (1938) — два апошнія маюць магутныя чацверыковыя вежы над бабінцамі, увенчаныя купаламі-«банькамі». Іх архітэктура ў цэлым адлюстроўвае эклектычныя пошукі нацыянальнага стылю ў спалучэнні з павевамі мадэрну і ідэалагічным дамінаваннем традыцый польскай культуры. Архітэктоніка драўлянай базылікі ўспрымалася дойлідамі таго часу як базавы архетып каталіцкага храмабудаўніцтва ў Беларусі, але яна аранжыравалася запазычанымі і стылізаванымі мастацкімі формамі польскага дойлідства.

Драўляныя базылікі і колькасна, і якасна ствараюць значную і адметную групу беларускіх хрысціянскіх святыняў, аднак гэты самабытны тып сакральнага дойлідства Беларусі раней ніколі не вылучаўся ў айчынным мастацтвазнаўстве як асобны і самастойны, хоць, як сведчыць мастацтвазнаўчы аналіз, менавіта ён сфарміраваў эстэтычныя крытэрыі агульнай базылікальнай канцэпцыі, уласцівай традыцыйным беларускім драўляным храмам перыяду барока.

# CONTENTS

We open the new issue of the quarterly magazine «Our Faith» with the report of Bishop A. Yasheuski «Why Marriage and Family Are of Great Importance for the Church», which he performed at the Third Belarusian Congress of Catholic family movements in Baranavichy (p. 2-5).

Writer I. Zharnasiek offers the readers her article "Today He Has Murmured My Name...", which is dedicated to the Butkevitch family that nurtured for the Church in Belarus today's Ordinary of the Vitebsk diocese Bishop Aleg Butkevich (p. 6-8).

A.Zhlutka in his article " Frantishak Skaryna: for Studying to Padua" continues to acquaint readers with the remarkable work of the Belarusian first printer (p. 9-11).

"To Be a Priest Doesn't Mean to Be a Prophet" is the title of an interview of Polish journalist W. Bogaczyk with fr. A. Draguła (p. 12-14).

We continue to publish translation of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (transl. from Spanish by S. Gresvi) and the translation of "The Four Loves" by C.S. Lewis (transl. from English by Y. Shedzko) (p. 15-21).

Article by nun B. A. Fliak CSFN "Where Did They Get Strength?" is dedicated to the memory of the Sisters of the Holy Family of Nazareth from Navagrudak (p. 22-24).

Material «This Article Is Very Important to Me...» by I. Bagdanovich is dedicated to the memory of the outstanding folklorist A. Lis. Here we also publish article by A. Lis «The Mentality of the Belarusians...» (p. 25-29).

Historian A. Shpunt in his article "Eleemosynarius" tells about the personality of bishop Wojciech (Albrecht) Radziwiłł, one of the Lithuanian magnates and the head of Wilno episcopate (p. 30-32).

Y. Lauryk in his article «The Unique Edition of Niasvizh Printing House» continues to acquaint the readers with the book treasures of Belarusian monks (p. 33-38).

V. Mazaleuski in his article «The Murals of the Corpus Christi Church in Niasvizh» tells the story of an outstanding monument of monumental painting of the 18th century (p. 39-41).

In the column «Poetry» we print poems by famous Belarusian poets D. Bichel and A. Danilchyk (p. 42-44; 48-49).

D. Bichel in the essay "Grodno City Hall, 1784" acquaints the readers with the works of artist A. Shunieyka (p. 45-47).

Translator A. Siamionava-Herzog offers the readers the historical story of the German writer G. O. Kott «Military Camp Tilly in Salzgitter" (p. 50-53).

Essay by L. Kaminskaya "Paints Confess..." is dedicated to the works of prominent Belarusian artist K. Kachan (p. 54-57).

In the column "Art" a well-known collector and restorer I. Surmacheuski in his article "Paleski Iconostasis" writes about the unique folk icons (continuation) (p. 58-61).

Musical expert S. Sheypa in her article "Magnum opus of Florian Miładowski" interestingly talks about the work of one of the outstanding figures of musical culture of Belarus (p. 62-66).

Y. Shedzko offers the readers her translations of "Chants to the Holy Mass" by U. Syrakomla (p. 67).

Doctor of Arts T. Gabrus in her article "Wooden Basilicas in Belarus" tells about one of the most interesting forms of sacred architecture (p. 68-71).

# RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift "Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit dem Bericht „Warum sind Ehe und Familie für die Katholische Kirche von großer Bedeutung" von Bischof A. Jascheuski, den er während des III. Allbelarussischen Kongresses katholischer Bewegungen in Baranowitschi vorgetragen hat (S. 2-5).

Die Schriftstellerin I. Sharnasek präsentiert den Leserinnen und Lesern ihren Artikel „Heute wurde mein Name leise ausgesprochen …", den sie der Familie Butkewitsch gewidmet hat. Diese hatte für die Katholische Kirche in Belarus Bischof Aleg Butkewitsch, den Ordinarius der Diözese Witebsk, großgezogen (S. 6-8).

A. Shlutka macht im Artikel „Franzischak Skaryna: zum Studium nach Padua" die belarussischen Leserinnen und Leser weiter mit der hervorragenden Tätigkeit des ersten belarussischen Buchdruckers bekannt (S. 9-11).

„Priester sein bedeutet nicht ein Prophet zu sein" — unter diesem Titel ist das Interview des polnischen Journalisten W. Bogaczyk mit Priester A. Draguła veröffentlicht (S. 12-14).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" (aus dem Spanischen von S. Greswi) und des Buches „Vier Arten der Liebe" von C. S. Lewis (aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 15-21).

Dem Andenken an die Schwestern von der Heiligen Familie von Nazareth aus Nawahrudak ist der Artikel „Woher hatten sie Kraft?" der Schwester B. A. Fliak CSFN gewidmet (S. 22-24).

Dem Andenken an den herausragenden Folkloristen A. Lis ist der Beitrag „Das ist ein für mich sehr wichtiger Artikel …" von I. Bagdanowitsch gewidmet. Es folgt der Artikel „Über die Mentalität eines Belarussen …" von A. Lis (S. 25-29).

Der Historiker A. Spunt berichtet im Artikel „Eleemosynarius" über Bischof Wojciech (Albrecht) Radziwiłł, einen der litauischen Magnaten, der das Bistum Wilna regiert hat (S. 30-32).

J. Lauryk fährt im Artikel „Eine einmalige Ausgabe der Druckerei in Njaswisch" damit fort, den Leserinnen und Lesern Bücherschätze belarussischer Mönche vorzustellen (S. 33-38).

W. Masaleuski berichtet im Artikel „Die Ausmalungen der Fronleichnamskirche in Njaswisch" über diese hervorragende Wandmalerei aus dem XVIII. Jahrhundert (S. 39-41).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte der bekannten belarussischen Poetinnen D. Bitschel und A. Daniltschyk (S. 42-44; 48-49).

D. Bischel macht im Essay „Das Grodnoer Rathaus, 1784" die Leserinnen und Leser mit dem Schaffen der Malerin A. Schunejka bekannt (S. 45-47).

Die Übersetzerin J. Semjonowa-Herzog präsentiert den Leserinnen und Lesern die historische Erzählung „Tillys Heerlager in Salzgitter" des deutschen Schriftstellers Georg Oswald Cott (S. 50-53).

Dem Andenken an den glänzenden belarussischen Maler K. Katschan ist der Essay von L. Kaminskaja „Farben legen eine Beichte ab …" gewidmet (S. 54-57).

Im Artikel „Die Ikonostase von Polesien" in der Rubrik „Kunst" schreibt I. Surmatscheuski, ein bekannter Sammler und Restaurator, über einzigartige volkstümliche Ikonen (Fortsetzung der Publikation) (S. 58-61).

Die Musikwissenschaftlerin S. Schejpa reflektiert im Artikel „Magnum opus von Flaryjan Miladouski" spannend über das Schaffen eines der hervorragenden Musikschaffenden von Belarus (S. 62-66).

Für die Leserinnen und Leser werden J. Schedsjkos Übersetzungen der „Lieder für die heilige Messe" nach U. Syrakomlja abgedruckt (S. 67).

Die Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj berichtet im Artikel „Hölzerne Basiliken in Belarus" über eine der interessantesten Arten der sakralen Baukunst (S. 68-71).

# PODSUMOWANIE

Niniejszy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna się referatem zatytułowanym „Dlaczego małżeństwo i rodzina są istotne dla Kościoła?", który biskup Aleksander Jaszewski SDB wygłosił podczas III Ogólnobiałoruskiego kongresu ruchów rodzin w Baranowiczach (S. 2-5).

Pisarka I. Żarnasiek proponuje uwadze czytelników swój artykuł „Twoje usta dziś wyrzekły me imię…", poświęcony rodzinie Butkiewiczów, która wychowała dla Kościoła na Białorusi dzisiejszego ordynariusza diecezji witebskiej biskupa Aleha Butkiewicza (S. 6-8).

A. Żłutka w art. „Franciszek Skaryna: po naukę do Padwy" kontynuuje zapoznanie czytelników z wybitną działalnością pierwszego białoruskiego drukarza (S. 9-11).

„Bycie księdzem nie czyni prorokiem" — pod takim tytułem drukuje się wywiad polskiego dziennikarza W. Bogaczyka z ks. prof. A. Dragułą (S. 12-14).

Kontynuuje się publikacja tłumaczenia traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi), a także tłumaczenia pracy C. S. Lewisa «Cztery miłości» (tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (S. 15-21).

Pamięci nowogródzkich sióstr nazaretanek poświęcony został artykuł s. B. A. Flak CSFN „Skąd one miały siły?" (S. 22-24).

Pamięci wybitnego folklorysty A. Lisa poświęcona została publikacja I. Bahdanowicz „To bardzo ważny dla mnie artykuł…". Tutaj również drukuje się artykuł A. Lisa „O mentalności Białorusina…" (S. 25-29).

Historyk A. Szpunt w artykule „Eleemosynarius" opowiada o osobie biskupa Wojciecha (Albrychta) Radziwiłła — jednego z litewskich magnatów, który stanął na czele biskupstwa wileńskiego (S. 30-32).

J. Łauryk w artykule „Unikatowe wydanie drukarni w Nieświeżu" zapoznaje czytelników z księgarskimi skarbami białoruskich zakonników (S. 33-38).

W. Mazaleuski w art. „Freski farnego kościoła w Nieświezu" opowiada o wybitnym zabytku malarstwa monumentalnego XVIII w. (S. 39-41).

W rubryce „Poezja" umieszczone zostały wiersze znanych białoruskich poetek D. Biczel i A. Daniłczyk (S. 42-44; 48-49).

D. Biczel w eseju „Ratusz grodzieński, 1784" znajomi czytelników z twórczością malarki A. Szuniejki (S. 45-47).

Tłumaczka A. Siamionawa-Herzog proponuje uwadze czytelników opowiadanie niemieckiego pisarza G. O. Cotta „Oboz wojskowy Tilly w Salzgitteru" (S. 50-53).

Twórczości wybitnego białoruskiego malarza K. Kaczana poświęcony został esej L. Kamińskiej „Spowiadają się farby…" (S. 54-57).

W rubryce „Sztuka" znany kolekcjoner, restaurator I. Surmaczeuski w art. „Poleski ikonostas" pisze o unikatowych obrazach ludowych (ciąg dalszy publikacji) (S. 58-61).

Muzykolog S. Szejpa w artykule „Magnum opus Floriana Miładowskiego" ciekawie rozważa o twórczości jednego z wybitnych działaczy muzycznej kultury Białorusi (S. 62-66).

J. Szedźko proponuje uwadze czytelników własne tłumaczenie „Śpiewów do Mszy świętej" według W. Syrokomli (S. 67).

Doktor historii sztuki T. Habruś w art. „Drewniane bazyliki Białorusi" opowiada o jednym z najciekawszych rodzajów budownictwa sakralnego (S. 68-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con il discorso del vescovo A. Jašeuski "Perché il matrimonio e la famiglia hanno una grande importanza per la Chiesa Cattolica?" pronunciato in occasione del III Convegno Bielorusso di movimenti cattolici familiari svoltosi a Baranaviči (p. 2-5).

La scrittrice I. Žarnasek sottopone all'attenzione dei lettori il suo articolo "Oggi ha pronunciato piano il mio nome…" dedicato alla famiglia Butkevič che ha educato per la Chiesa Cattolica in Bielorussia l'attuale Ordinario della Diocesi di Vitebsk il vescovo Aleh Butkevič (p. 6-8).

A. Žlutka nell'articolo "Franzisk Skaryna: a Padova per la scienza" continua a presentare ai lettori l'attività eccezionale del primo tipografo bielorusso (p. 9-11).

"Essere prete non vuol dire essere profeta" è il titolo dell'intervista che il giornalista polacco W. Bogaczyk ha preso al prete A. Draguła (p. 12-14).

Continua la pubblicazione del trattato di San Giovanni della Croce "La salita al monte Carmelo" (traduzione dallo spagnolo di S. Gresvi), la pubblicazione del libro di C. S. Lewis "Quattro Amori" tradotto dall'inglese da J. Šedzko (p. 15-21).

Alla memoria di sorelle nazaretane di Navagrudak è dedicato l'articolo della sorella B. A. Fliak "Di dove prendevano le forze?" (p. 22-24).

Alla memoria del famoso folclorista A. Lis è dedicato il materiale di I. Bagdanovič "E' un articolo molto importante per me…". Accanto si pubblica l'articolo di A. Lis "Sulla mentalità di un bielorusso…" (p. 25-29).

Lo storico A. Špunt nell'articolo "Eleemosynarius" racconta della persona del vescovo Wojciech (Albrecht) Radziwill, uno dei magnati lituani, già capo della Diocesi di Vilnia (p. 30-32).

Ju. Lauryk nell'articolo "Un'edizione unica della tipografia di Niasviž" continua a far conoscere ai lettori i tesori delle biblioteche dei monaci bielorussi (p. 33-38).

V. Mazaleuski nell'articolo "Gli affreschi della Chiesa del Corpus Domini a Niasviž" racconta di eccellente esempio della pittura monumentale del XVIII sec. (p. 39-41).

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano le opere delle famose poetesse bielorusse D. Bičel e di A. Danilchyk (p. 42-44; 48-49).

D. Bičel nel saggio "Il palazzo comunale di Grodno, anno 1784" presenta ai lettori l'attività creativa della pittrice A. Šunejka (p. 45-47).

La traduttrice J. Semjonowa-Herzog sottopone all'attenzione dei lettori il racconto storico dello scrittore tedesco Georg Oswald Cott "Il campo militare Tilly a Salzgitter" (p. 50-53).

All'opera dell'eccellente pittore bielorusso K. Kačan è dedicato il saggio di L. Kaminskaya "Confessano i colori…" (p. 54-57).

Nella rubrica *Arte* il famoso collezionista e restauratore I. Surmačeuski scrive delle singolari icone popolare nell'articolo "L'iconostasi di Palesse" (è il seguito della pubblicazione) (p. 58-61).

La musicologa S. Šejpa nell'articolo "Magnum opus di Florian Miladouski" riflette sull'opera di un famoso esponente della cultura musicale della Bielorussia (p. 62-66).

J. Šedzko sottopone all'attenzione dei lettori le sue traduzioni dei "Canti per la Santa messa" di W. Syrakomla (p. 67).

La Dottoressa di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus nell'articolo "Le basiliche bielorusse in legno" racconta di uno dei più interessanti generi dell'architettura sacra (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — народная ікона «Святы арханёл Міхал» з прыватнага збору Дзмітрыя Сабаніна.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (85)/2018.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 356-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 06.09.2018 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад — 1 000 экз. Зак. № 716.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

# СПАВЯДАЮЦЦА ФАРБЫ...

*Карціны Кастуся Качана*



«Вада, зямля і неба», 1997 г.



«Шарош», 1994 г.



«Рыбакі», 2001 г.

